

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

7 МАЯ 1999г. № 18/3998 КОШТ 15 000 РУБ.







# Жыццё, аддадзенае мастацтву



*Р. Кудрэвіч, "На Бярэзіне".*

Мастачцы, жывапісцу, выдатнаму каларысту Раісе Уладзіміраўне Кудрэвіч споўнілася 80 год. З нагоды яе юбілею адбылася прэзентацыя яе персанальнай выставы ў Нацыянальным мастацкім музеі, на якой сябры, калегі, адказныя дзяржаўныя асобы сказалі шмат цёплых слоў. Раісе Кудрэвіч было прысвоена званне народнага мастака Беларусі.

Праўда, сама Раіса Уладзіміраўна не аддзяляе сваё жыццё і творчасць ад мужа — таксама мастака-жывапісца Адольфа Гугеля. Яны абодва, па сутнасці, жывая гісторыя нашай краіны. Абодва вучыліся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы, Адольф раней, Раіса на год пазней. Там і пазнаёміліся, набіраючыся майстэрства. Асабіста ведалі Ю. Пэна, былі сведкамі гісторыі яго трагічнага забойства. Талент маладога А. Гугеля сталеў побач з бацькам Раісы жывапісцам Уладзімірам Кудрэвічам, аўтарам шматлікіх лірычных пейзажаў.

*(Працяг на стар. 3)*



## КОЛА ДЗЁН

***Паслязаўтра — 9 мая — Дзень Перамогі. Гэта свята для жыхароў нашай краіны заўсёды было, ёсць і будзе святым. Бо нельга забываць пра тых, хто аддаў жыццё ў баях з ворагам, верачы, што наша зямля бузе вольнай і квітнеючай.***

***Ідуць гады і ўсё менш людзей, якія прайшлі праз выпрабаванні, што выпалі на іх лёс у саракавыя гады. Яны не такія, як мы — тыя, хто не зведаў вайны. Мы розныя і гэта — нармальна. Але хочацца верыць, мы блізкія ў тым, што думаем пра Беларусь і верым у Беларусь, бо яна ў нас адна і назаўсёды.***

### ВІЗІТ ТЫДНЯ

У Мінск з візітам прыбыў пасол ЗША ў Беларусі Дэніэл Спекхард. Менавіта прыбыў з візітам, а не вярнуўся працягваць працу. Амбасадар прывёз пакет дакументаў па вырашэнні праблем, якія ўзніклі ў час крызісу вакол пасольскіх рэзідэнцый у "Дразддах". Ці будуць вырашаны праблемы — невядома, але амерыканскі і беларускі бакі спадзяюцца на гэта.

### ЭКСПЕРЫМЕНТ ТЫДНЯ

5 мая ў Беларусі афіцыйна святкаваўся Дзень друку. З нагоды гэтага дня ў рамках эксперыменту з панядзелка ў Маскве на кожным вакзале выстаўляюцца на продаж па 40 асобнікаў "Советской Белоруссии", "Звязды", "Народнай газеты" і "Рэспублікі". Акрамя таго, у "Российской газете" цяпер будзе ўкладыш з беларускай інфармацыяй, а ў адной з беларускіх газет — укладыш з расійскай. Ці пяройдзе эксперымент у нармальнае жыццёвае русла — пакажа час.

### РАСЧАРАВАННЕ ТЫДНЯ

З 1 мая "мінімалка" павялічылася ў два разы. І адразу многія грамадзяне нашай краіны абрадаваліся, бо палічылі, што і іх зарплаты адпаведна ўзрастуць. Аднак, паводле папярэдніх разлікаў Міністэрства працы, у сувязі з ростам тарыфнай стаўкі І разраду да 2 мільёнаў 150 тысяч рублёў майскія заробкі бюджэтнікаў павялічацца ў сярэднім толькі на 23—30 працэнтаў. У два разы ж узрастуць штрафы і іншыя выплаты, памер якіх цалкам залежыць ад "мінімалкі".

### КУПЮРА ТЫДНЯ

Здаецца, зусім нядаўна людзі з цікавасцю разглядалі грашовыя купюры вартасцю 100 тысяч рублёў, а ўжо цэлы тыдзень Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь уведзены ў абарачэнне разліковы білет вартасцю 1 000 000 рублёў узору 1999 года. Сюжэт асноўнага відарыса вонкавага боку — будынак Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. На адваротным баку — фрагмент карціны І. Хруцкага "Партрэт жонкі з кветкамі і фруктамі".

### ПАДРЫХТОЎКА ТЫДНЯ

Пачалася падрыхтоўка да правядзення чарговага VIII фестывалю "Славянскі базар у Віцебску", адкрыццё якога запланавана на 18 ліпеня. Арганізатарам гэтае мерапрыемства абыдзецца па папярэдніх падліках у 25 мільярдаў рублёў. Дарэчы, на ліквідацыю надзвычайных сітуацый і стыхійных бедстваў у бюджэце вобласці на 1999 год запланавана 40 мільярдаў.

### ІНФАРМАЦЫЯ ТЫДНЯ

У друку з'явілася інфармацыя, што будаўніцтва Палаца Рэспублікі будзе завершана да 3 ліпеня 2000. Будаўніцтва ж ужо цягнецца 14 гадоў, і ўжо здаецца, што Палац Рэспублікі будуецца людзьмі, якім захацелася трапіць у кнігу рэкордаў Гінеса.

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Ужо стала правілам, што з павелічэннем "мінімалкі" павялічваюцца тарыфы на праезд у гарадскім транспарце. Відаць, не стане выключэннем і цяперашняя "мінімалка". Рэальны сабекошт адной паездкі ў мінскім аўтобусе складае 26 тысяч, у наземным электратранспарце — 27 тысяч і ў метрапалітэне — 17 тысяч рублёў. Транспартнікі хочуць падняць кошт адной паездкі з 4 да 10 тысяч. Ці падтрымае транспартнікаў Міністэрства эканомікі, стане ўжо вядомым да канца мая.

### НІЧЫЯ ТЫДНЯ

У мінулую суботу ў нарвежскіх гарадах Осла і Хашар стартаваў 63-ці чэмпіянат свету па хакеі. Першы матч зборная нашай краіны правяла з расійскай камандай і згуляла з ёй унічыю (2:2). Як паведаміў каментатар БТ Уладзімір Навіцкі, яшчэ да гульні галоўны трэнер расіян Аляксандр Якушаў забараніў сваім ігракам нават гутарыць з беларускімі хакеістамі, а затым і наогул аб'явіў іх у натуральным сэнсе "ворагамі". Аднак, як бачым, гэта не дапамагло, каб перамагчы беларускую зборную, якая на працягу ўсёй гульні вяла ў ліку.

### ПОСПЕХ ТЫДНЯ

На IV Міжнародным конкурсе "Крым. Каньяк-99", што праходзіў пад эгідай міжнароднай арганізацыі вінаграду і віна (Парыж) у Ялце чарговага поспеху дабілася прадукцыя Мінскага віна-гарэлачнага завода "Крышталь". На гэты раз па сярэбраным медалі атрымалі беларускія каньякі "Глорыя" і "Карсар", а таксама брэндзі "Консул". Бронзавы медаль на рахунку брэндзі "Крышталь". Так што не ўсё ў нас дрэнна і дрэннае!

ВЕЧАРЫНЫ

# Юбілей як падстава... здзіўляць



Пачатак імпрэзы нечаканасцяў не абяцаў. На сцэну запрасілі Алеся Рашчынскага, чыё 50-годдзе з дня нараджэння і 25-годдзе творчай дзейнасці адзначалі вечарынай у сталічнай філармоніі. Старшыня Беларускага саюза кампазітараў І. Лучанок у сваім віншавальным слове адзначыў у творчасці юбіляра працяг традыцый Р. Шырмы, Г. Цітовіча, ягоную любоў да беларускай песні. Начальнік упраўлення музычных устаноў Міністэрства культуры Беларусі А. Матвееўскі, які адрэкамендаваўся прыхільнікам таленту А. Рашчынскага, уручыў яму Ганаровую грамату міністэрства. Далей меў адбыцца канцэрт...

Зазвычай праграму юбілейнай аўтарскай вечарыны складаюць, скажам так, выбраныя старонкі з добра вядомага. Гэтым разам яна здзівіла буйнымі прэм'ерамі, прычым — твораў, скажам так, добра забытых і зусім невядомых. "Невядомы Рашчынскі" раскрыўся ў музыцы, якая "маўчала" паўтара дзесятка гадоў!

Аказалася, у яго ёсць шчымлівашчыры канцэрт для хору, прысвечаны памяці А. Граса, мудрага настаўніка, які ў свой час параіў А. Рашчынскаму абраць спецыялізацыю харавога дырыжора — пасля няўдалай спробы абітурыента паступіць у Мінскае музычнае вучылішча на аддзяленне народных інструментаў. Трохчасткавы Канцэрт-вакаліз, у якім выразна прагучалі "Боль", "Сум" і "Смутак", выканаў Мінскі абласны камерны хор "Sonorus" пад кіраўніцтвам А. Шута.

Аказалася, што А. Рашчынскі не горш за сваіх равеснікаў і вядомых сталых калег засвоіў традыцыі беларускага сімфанізму і 15 гадоў таму меў дыхтоўную Сімфонію, у І частцы якой выразна акрэслены і галоўная партыя, і пабочная з нацыянальна афарбаванымі лірычнымі інтанацыямі, якая пасля драматычнай распрацоўкі ў аркестры трансфармавалася ў строгі духавы марш, а пасля была павольная ІІ частка і жанравы фінал, дзе "паглебаўску" эфектна падавалася аркестроўка...

Аказалася, што колішні выпускнік кансерваторыі мог даць фору карыфеям аратарыяльнага жанру, якія ў маштабных вакальна-сімфанічных палотнах ўвасаблялі традыцыйную для беларускага мастацтва тэму Вялікай Айчыннай вайны. "Смутак памяці" (для змяшанага хору, аркестра і салістаў) аўтар прысвяціў свайму бацьку Уладзіміру Фадзеевічу, франтавіку, які пражыў да васьмідзесяці, але года не дачакаўся, каб сустрэць сынаў юбілей ды пачуць прэм'еру...

У падрыхтоўцы праграмы, апроч хору "Sonorus", удзельнічалі Сімфанічны аркестр Дзяржтэлерадыё пад кіраўніцтвам А. Лапунова, Дзяржаўны камерны хор (мастацкі кіраўнік І. Мацюхоў), салісты-спевакі Н. Руднева, А. Рудкоўскі, А. Мельнікаў, арганіст А. Мільто. "Праграму ў праграме" меў Акадэмічны народны аркестр імя І. Жыновіча з маладым дырыжорам А. Высоцкім (і з музыкай, паводле якой большасць з нас ведае кампазітара А. Рашчынскага).

Асобнай старонкай сталася і выступленне жаночага народнага хору Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі, кіруе якім і для якога робіць выбітныя, дынамічныя апрацоўкі песеннага фальклору герой юбілейнай імпрэзы. І тут ён, дарэчы, здзівіў публіку: не выйшаў, як настаўнік-маэстра, пакрасавацца перад хорам, а прадставіў без малога дзесятак сваіх вучаніц, якія па чарзе дырыгавалі сваім жа спеўным гуртом.

Музыку, вядома, у словах не адновіш. Зрэшты, сам творчы шлях А. Рашчынскага пераказаць амаль немагчыма! Многія, паслухаўшы расповед вядучай, здзіўіліся: не ведалі, якая унікальная працоўная біяграфія ў гэтага музыканта. Два гады заняткаў на баяне ў дзяцінстве; "памятнае" 13-годдзе, калі саматугам асвоіў трубу, у той жа дзень пайграў на танцах і атрымаў ад маці выспятка; 15-гадовым падлеткам "камандаваў" школьным аркестрам: аранжыраваў, займаўся джазавай імправізацыяй, граў на саксафоне, на фартэпіяна, у Мінскім музвучылішчы арганізаваў дыксіленд; на летніх вакацыях працаваў баяністам турбазы "Нарач"; граў у рэстаранных аркестрах і вызначыўся там як вібрафаніст; падчас вучобы ў Маскоўскім музычна-педагагічным інстытуце імя Гнесіных працаваў капіроўшчыкам на Астанкінскім прыборабудаўнічым заводзе, а яшчэ граў у рэстаране "Мінск", што на Цвярской... У прафесію кампазітара прыйшоў пасля 30-ці. А колькі арганізоўваў розных гуртоў, народных ансамбляў!

Падчас вечарыны выходзілі на сцэну расчуленыя кабеты, віншавалі юбіляра, прызнаваліся яму ў любові, літаральна засыпалі кветкамі. А хтосьці нават прасіў: "Памажыце, людзі добрыя, вярнуць нам нашага мастацкага кіраўніка. З ім так радасна жылося-спявалася!"

Так, нібыта нанова, знаёміліся філарманічныя наведнікі з Алесем Рашчынскім — living разнабаковым талентам, творцам, маэстра, улюбёным у беларускую песню. Сціплым і энергічным чалавекам, таленавітым арганізатарам і настаўнікам, шчырым сябрам, якога любяць людзі.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота К. ДРОБАВА*

СЕМІНАРЫ

# Свабода — гэта Божы дар

28 красавіка ў Навукова-асветніцкім цэнтры імя Ф. Скарыны адбылося чарговае пасяджэнне семінара "Духоўнасць і асвета: традыцыі, сучасны стан, погляд у будучыню". Семінар заклікаць аб'яднаць свецкіх даследчыкаў і святароў розных канфесій у роздуме над глабальнымі праблемамі духоўнасці нашага грамадства. У прынцыпе, гэта вяртанне тых багаслоўскіх салонаў і гурткоў, што існавалі на пачатку стагоддзя. Ініцыятарам стварэння тых пасяджэнняў выступіў Навукова-асветніцкі цэнтр і яго дырэктар Любоў Уладыкоўская-Канапляннік. Да ўдзелу ў размовах задумана далучаць навукоўцаў, літаратараў, журналістаў, асветнікаў, святароў. Першае пасяджэнне семінара, якое адбылося месяц таму, мела тэмай "Рэлігійнае асветніцтва ў Беларусі". На цяперашнім, другім, пасяджэнні ўдзельнікі выказваліся на тэму "Хрысціянская антрапалогія і духоўна-культурныя перадумовы дэмакратычнага грамадства". Прагучала шмат неардынарных, цікавых, часам спрэчных думак. Протаіерэй Георгій Латушка, настаяцель Свята-Петрапаўлаўскага сабора, абмаляваў гісторыю антрапалогіі хрысціянства, засяродзіўшы ўвагу слухачоў на такіх момантах, як выключнае права чалавека на выбар між дабром і злом, якое абвяшчаецца ў Святым Пісанні. Менавіта гэтае права свята захоўваецца ў праваслаўнай канфесіі. Царква — гэта не сход праведнікаў, а месца, дзе ёсць магчымасць навучацца праведнаму жыццю. У традыцыях праваслаўнай царквы — прызнаваць права міран ацэньваць сваіх святароў, выяўляць свой рэлігійны настрой згодна сваім здольнасцям. "Увесь Сусвет не варты душы аднаго чалавека", — сцвярджае праваслаўная антрапалогія.

Навуковец І. Саверчанка звярнуў увагу прысутных на тое, што перш чым тэарэтызаваць, трэба зразумець сапраўдны сэнс старажытных дакументаў, якія яшчэ не прачытаныя як належыць. Гаворка пра творы Мялеція Смятрыцкага, Іпація Пацея, Кірылы Транквіліёна Стаўравецкага, Ісафата Кунцэвіча ды іншых асоб з гісторыі Беларусі. Прынамсі, у іх трактатах, на думку дакладчыка, адчуваецца куды большая культурная дасведчанасць, узаемасувязь з філасофскай думкай іншых краінаў, чым у сучасных працах навукоўцаў. Навуковец А. Астапенка выказаў меркаванне, што антропны прынцып, які ставіць чалавека ў цэнтр Сусвету, з'яўляецца найбольш плённым для наступнага тысячагоддзя і пракладае мост між навукай і рэлігіяй. Філосаф Уладзімір Конан сцвердзіў, што мы прыходзім да сінтэзу навукі і рэлігіі. Прадстаўнікі негуманітычных прафесій непазбежна прыходзяць да вырашэння гуманітарных праблем. І. Жызніцкі, кандыдат тэхнічных навук, спецыяліст у галіне тэорыі кіравання, распавёў пра сваю кнігу "Зямля-неба для Чалавека", у якой спрабуе вытлумачыць з навуковага пункту гледжання працэс стварэння Богам Зямлі, апісаны ў Біблії. Дырэктар Інстытута філасофіі А. Майхровіч у сваім дакладзе разважаў над магчымасцю пабудовы дэмакратычнага грамадства ў нашай краіне. На думку дакладчыка, для такой пабудовы неабходна падрыхтаваць культурна-духоўную глебу. У дэмакратычным грамадстве павінна быць універсальная мараль. На сённяшні дзень у нас яна немагчымая. Каб узнікла дэмакратыя, у грамадстве не павінна быць табу на нейкія праблемы, не павінна быць дэкрэтнасці ў кіраванні. Нацыя павінна ўсведамляць сваю сутнасць. У гэтым яе адрозненне ад этнасу. Этнас лёгка зліваецца з іншымі этнасамі. Нацыя застаецца самакаштоўнаю. Прафесар А. Мальдзіс закрануў тэму каталіцкай канфесіі на Беларусі на падставе публікацыі ў польскім часопісе "Wiez", у якой сцвярджаецца, у палеміку з іншымі поглядамі польскіх даследчыкаў на гэтую праблему, што на Беларусі не можа развіцца нічога аўтэнтычнага па-за беларускай мовай. Гісторык У. Глушакоў сцвердзіў, што дэмакратыя — не ёсць мэта, а толькі інструмент фарміравання грамадства, якое можа супрацьстаяць дзяржаве. Унутраная свабода чалавека — гэта Божы дар, а чалавек добраахвотна аддае яго дзяржаве і зямным уладарам.

Вынікі семінара падвёў супрацоўнік Навукова-асветніцкага цэнтра М. Крукоўскі, які выказаў надзею на далейшую плённую працу семінара.

**Н. К.**

ВІНШУЕМ!

# Да 90-годдзя — з музыкай!



Маленькая жанчына з жывымі вачамі сустрэла мяне ў кватэры загадчыка кафедры спецыяльнага фартэпіяна Беларускай акадэміі музыкі Валерыя Уладзіслававіча Шацкага. Мы даўнія знаёмыя з Валерыем, але на гэты раз я прыйшоў да яго маці, Наталлі Антонаўны.

7 мая гэтай нястомнай працаўніцы, якая прысвяціла сваё жыццё музычнаму выхаванню дзяцей, фарміраванню маладых талентаў, спаўняецца 90 гадоў. Звычайна ў дачыненні да такога ўзросту ў галаве круціцца слова "патрыярх", але, размаўляючы з Наталляй Антонаўнай, я не змог ужыць гэтае слова. Так жыва і цікава расказвала гэтая прыгожая сівая жанчына пра свой творчы шлях, што ў мяне міжволі ўзнікала сумненне: ці сапраўды столькі гадоў маёй актыўнай суразмоўніцы?

Шмат людзей, удвая маладзейшых за Наталлю Антонаўну, не валодае такім жыццёвым тонусам, як яна, і гэтаму застаецца толькі здзіўляцца.

Бацькі Наталлі Антонаўны былі масквічы-меламаны, не ўмелі граць, але любілі музыку. Бацька нават арганізаваў хор, у якім спяваў вядомы ў далейшым кінарэжысёр Усевалад Пудоўкін. Па прафесіі бацька быў землямер і калі хадзіў па вёсках, дык збіраў рускія народныя песні. А ў Маскве вадзіў маленькую Наташу на канцэрты ў Маскоўскую кансерваторыю. Маці пазнаёміла дзяўчынку з музычным пісьмом.

У 15 гадоў Наташа паступіла ў прыватнае музычнае вучылішча, дзе займалася на фартэпіяна ў Валянціны Юр'еўны Зограф-Плаксінай, вучаніцы вядомага прафесара, дырэктара Маскоўскай кансерваторыі В. Сафонава. У 22 гады паступіла ў Маскоўскую кансерваторыю да А. Шацкеса, любімага вучня вядомага рускага кампазітара М. Метнера.

Ад свайго выкладчыка любоў да творчасці Метнера Наталля Антонаўна пранесла праз усё жыццё, і да сваёй юбілейнай вечарыны рыхтавала "Санату-ўспамін". Яе выкананне я слухаў, падыходзячы да кватэры Шацкіх...

Да працы з дзецьмі яе пацягнула на педагагічных курсах пры кансерваторыі. Дарэчы, любоў да дзяцей — гэта сямейнае. Дзядзька Наталлі Антонаўны, вядомы рускі педагог, заснаваў летнія калоніі "Бодрая жизнь" яшчэ ў 1905 годзе. Тады пра Макаранку ніхто і не ведаў. Школа яго імя — імя Станіслава Тэафілавіча Шацкага існуе і ў наш час у г. Обнінску.

Яна скончыла кансерваторыю да вайны і працавала ў адной з маскоўскіх музычных школ, а пасля вайны — у Цэнтральнай музычнай школе пры Маскоўскай кансерваторыі. Прарабіўшы там 19 гадоў, у 1958-ым прыехала ў Мінск, дзе шмат гадоў выкладала ў спецыяльнай музычнай школе 11-годц пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Варта ўспомніць чалавека, дзякуючы якому Наталля Антонаўна з'явілася ў Мінску. Гэта яе любы муж, піяніст, педагог, чалавек, з якім яна яшчэ сядзела за адной школьнай партай і з якім пражыла шчаслівa і дружна 56 гадоў, — прафесар Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Уладзіслаў Міхайлавіч Эпштэйн.

Такім чынам, знаная школа пры БДК атрымала таленавітага выкладчыка, які выхаваў не адзін дзесятак цудоўных піяністаў, што працуюць сёння як на Беларусі, так і за яе межамі. Наталля Антонаўна любіла правесці маленькага музыканта ад азоў да паступлення ў кансерваторыю. На ўроках развівала ўяўленне вучня. Уласнай ігрой абуджала творчую фантазію.

Ад усіх калег, выкладчыкаў, ад вучняў Наталлі Антонаўны ў гэты дзень будуць гучаць віншаванні з пажаданнямі творчага гарэння і доўгіх гадоў жыцця. Юбілейная вечарына — сёння, 7 мая у Рэспубліканскім каледжы пры Беларускай акадэміі музыкі.

**Аляксандр МІЛЬТО**

*На здымку: Н. Шацкая з сынам В. Шацкім і прафесарам Акадэміі музыкі Л. Шаламенцавай.*

## Лаўрэат названы

На чарговым пасяджэнні рады Саюза беларускіх пісьменнікаў поруч з іншымі разгледжана пытанне аб прысуджэнні Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа. У выніку тайнага галасавання лаўрэатам стаў **Уладзімір Паўлаў**. Гэтай высокай літаратурнай узнагародай пісьменніцкай арганізацыі адзначана яго аповесць "Пад схіленым дрэвам", якая спачатку была апублікавана ў часопісе "Полымя", а потым у перакладзе на рускую мову пабачыла свет у "Нёмане".

Віншуем Уладзіміра Андрэевіча з прэміяй і жадаем яму новых творчых поспехаў!

**Саюз беларускіх пісьменнікаў сардэчна віншуе ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны з днём Перамогі.**

НОВАЕ

# Манета манеце розніца

На фоне папяровай купюры вартасцю адзін мільён рублёў, уведзенай нядаўна ў абарот Нацыянальным банкам Беларусі, гэтыя манеты як быццам і "не глядзяцца". Там, паўтараем, вартасць ажно адзін мільён, а тут — нейкія дзесяць і адзін рубель. Але гэтыя манеты — не звычайныя грашовыя знакі, а памятныя. Іх Нацыянальны банк Беларусі прысвяціў 100-годдзю з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Міхася Лынькова і народнага артыста СССР Глеба Глебава. Тым самым вернута з небыцця традыцыя, што існавала ў часы Савецкага Саюза, калі многія круглыя юбілеі адзначаліся адпаведным чынам. Аднак Нацбанк Беларусі ўсё ж не пайшоў па шляху сваіх папярэднікаў. Тады, як вядома, памятныя манеты, як і звычайныя, выпускаліся мільёнамі экземпляраў і ўжо гэтым у многім змяншалася іх каштоўнасць для калекцыянераў. Цяпер жа кожнае са срэбных манет выпушчана ў колькасці 1200 штук, а медна-нікелевая — усяго 100 штук.

# Жыццё, аддадзенае мастацтву

*(Праця́г. Пачатак на стар. 1)*

А потым пачалася вайна. Сям'я Кудрэвічаў і Адольф Гугель аказаліся раскіданымі па розных расійскіх гарадах, але ўжо ў 1941 г. у Кемераве пачалося іх сумеснае сямейнае жыццё. Дый і творчае таксама, хаця ў тыя гады аб'ектыўна было не да мастацтва.

Калі ў 1943 г. Раіса Кудрэвіч і Адольф Гугель са складанасцямі атрымалі магчымасць вярнуцца ў вызваленую Беларусь, а праз колькі часу Адольфа Самойлавіча адпусцілі з адміністратыўнай работы ў Саўміне на творчую ніву, і пачалася іх сумесная творчая біяграфія. Нават мытарствы з кватэраю (бо жылі ў аднапакаёўцы Раіных бацькоў), адсутнасць майстэрні не заміналі ім маляваць. "Хацелася ўхапіць усё, што не паспелася за вайну", — згадваюць мастакі. Яны і цяпер гавораць і працуюць, падтрымліваючы адзін аднаго. А за плячыма — колькі сумесных работ: "Мікалай Астроўскі", "Кастусь Каліноўскі", "Апасіяната", трыпціх "Сімфонія рэвалюцыі", "Вечная слава", "Юнацтва", "Дзесяцікласніцы", "Даяркі", іншыя. Нават сваю першую выставу на Беларусі яны адкрылі ў 1946 г. таксама сумесна, яна ж стала падставаю прыняцця іх у Саюз мастакоў. У пасляваеннай Беларусі сяброўства ў саюзе мела вялікую вагу, у адрозненні ад дня сённяшняга, — маладыя мастакі нарэшце атрымалі прадуктовыя карткі.

Далей, зазначаюць самі мастакі, стала лягчэй, Адольф працаваў сакратаром саюза, Раіса была вольнай мастачкай, часта "падкідваліся" дзяржзаказы на карціны, якія, па сутнасці, і сталі іх сумеснымі працамі. А калі адбудавалі будынак старой яўрэйскай сінагогі пад майстэрні і Раіса Кудрэвіч з Адольфам Гугелем атрымалі там ажно 40 метраў, тады сапраўды ўздыхнулі з палёгкай. "Не падумайце, што мне лёгка было працаваць з Раісай пад адным дахам і асабліва над адной работай. Яна складаны, як кожны вельмі таленавіты чалавек, моцна адчувае малюнак і каларыт. Яна лёгка магла сцерці маю частку эскіза і прымусіць пачаць працаваць наноў".

Адольф Самойлавіч расказвае пра жонку з цеплынёю. Бо і цяпер, калі ім цяжкавата падымацца пад дах "дома мастакоў" у сваю майстэрні, яны ўсё адно разам. І іх работы, думаецца, так і застануцца ў гісторыі неадлучнымі.

**Н. Ш.**

*Фота К. ДРОБАВА*

АБСЯГІ

*БРЭСТ...*

## Прэм'ера ў тэатры-студыі

Днямі ў гарадскім тэатры-студыі "Раёк" адбылася прэм'ера спектакля "Каханне Дона Перлімпліна" паводле паэтычнага твора Гарсія Лоркі. Рэжысёр Цімафей Ільінскі здолеў паставіць на сцэне яркае тэатральнае відовішча, дзе вечная паэзія цесна перапляталася з пластыкай і музыкай. Арганічнай часткай спектакля сталі касцюмы маладых артыстаў, аўтарам якіх з'явілася мастачка Алена Дабушук.

**Святлана ГУЛЯЕВА**

*ГРОДНА...*

## На Прынёманшчыне — свята

У горадзе адбылося адкрыццё абласнога тура трэцяга Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур. Удзел ва ўрачыстым канцэрце прынялі лепшыя творчыя калектывы нацыянальных дыяспар, што пражываюць у Прынёманскім краі.

Сапраўднымі зоркамі святочнага канцэрта сталі хор польскай песні "Прамень" са Шчучына, літоўскі вакальны ансамбль "Пялякская рэчанька" Воранаўскага раёна, ансамбль яўрэйскай музыкі "Шалом" Лідскага гарадскога Дома культуры, украінская вакальная група "Палісяначка" з вёскі Гірвяты Астравецкага раёна, цыганскі ансамбль "Джана Рома" з Ашмян, а таксама знакаміты Гродзенскі народны ансамбль песні і танца "Нёман".

**Лілія НАВІЦКАЯ**

*ВІЦЕБСК...*

## У Еўропу — са сваёй гісторыяй

Віцебск стаў першым горадам Беларусі, у якім апрабоўваецца новая сістэма будаўнічага планавання, распрацаваная "БелНДІПгорадабудаўніцтва" і Галандскім інстытутам даследаванняў праблем жылля і горадабудавання. На нядаўнім семінары, што адбыўся ў абласным цэнтры, ішла гаворка аб тым, што Віцебск мае ўсе падставы, каб стаць еўрапейскім горадам. Аднак называюся шэраг праблем, якія замінаюць росту гарадскога іміджу: абмежаванае фінансаванне на рэстаўрацыю, нізкі ўзровень сервісу, невялікія даходы насельніцтва і адсутнасць інвестыцый.

## Прыйшоў фестываль і да нас

Фестываль нацыянальных культур распачаў свае ўрачыстае шэсце і на Віцебшчыне. У гарадскім цэнтры культуры сабраліся прадстаўнікі саюзаў палякаў, латышоў, немцаў, а таксама рускія, яўрэі, татары... Гасцей частавалі стравамі нацыянальнай кухні.

Прадстаўлена была выстава жывапісу, графікі і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Свае работы прапанавалі гледачам М. і К. Сейфугалеевы, Р. Газаранц, Т. Зайцава, Н. Петрушко...

**Святлана ГУК**

*ГОМЕЛЬ...*

## На сцэне — беларуская класіка

Абласны драмтэатр не пакідае па-за ўвагай беларускую класіку. Раней на роднай мове на яго сцэне была пастаўлена інсцэніроўка вядомага твора Івана Шамякіна "Глыбокая плынь". І вось у гэтыя дні тут адбылася прэм'ера спектакля "Дзікае паляванне караля Стаха" паводле аповесці знакамітага нашага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча. Спектакль паставіў мастацкі кіраўнік тэатра, заслужаны дзеяч мастацтваў РБ У. А. Караткевіч. Ролі выканалі вядучыя артысты тэатра.

## Апладысменты аркестру Жыновіча

Далёка за межамі Беларусі вядомы Дзяржаўны акадэмічны народны аркестр Беларусі імя І. Жыновіча, мастацкім кіраўніком і галоўным дырыжорам якога з'яўляецца народны артыст РБ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі прафесар Міхаіл Казінец. Неадназова славуты калектыў прыязджаў на гастролі ў Гомель. Днямі ў музычным каледжы імя Н. Сакалоўскага адбылася новая сустрэча аркестра з гомельскімі аматарамі музыкі. У час канцэрта, дзе выконваліся народныя песні, арыгінальныя творы беларускіх кампазітараў, папулярныя музычныя п'есы, рамансы, гучалі цымбалы, жалейка, дудка, баяны, артысты атрымалі за сваё высокапрафесійнае мастацтва шмат апладысментаў.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*БРЭСТ...*

## Дон Жуан за адным сталом з Сальеры

Абласны драмтэатр прысвяціў 200-годдзю з дня нараджэння А. Пушкіна спектакль "Маленькія трагедыі". Рэжысёр Міхаіл Лашчынскі вырашыў пасадзіць усіх чатырох галоўных герояў навел за адзін стол, за якім і адбываецца "пір чалавечых жарсцяў". На думку рэжысёра, чалавецтва і зараз не можа адолець заганы Дон Жуана і Сальеры, таму сам спектакль ніякім чынам не прывязаны ні да канкрэтнай эпохі, ні да канкрэтнага часу.

## "Радзіма" запросіць гледачоў

У Магілёве зноў пачне працаваць кінатэатр "Радзіма", які некалькі год знаходзіўся на рамонце. Пакуль што кінавідэапрадпрыемства "Позірк", якому падпарадкоўваецца "Радзіма", адкрые ў яго будынку дыскатэку, крыху пазней — відэакабіны і, безумоўна ж, — вялікую залу. Пакуль што ў абласным цэнтры з чатырох існуючых кінатэатраў дзейнічае толькі два.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**





## З ліку першых



У музеі Якуба Коласа адбылася літаратурна-музычная вечарына, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння народнай артысткі Беларусі Вольгі Галіны.

На вечарыне прысутнічала шмат моладзі, інтэлігенцыі. Пасля ўступнага слова старшага навуковага супрацоўніка Коласаўскага музея Івана Курбекі з успамінамі пра Вольгу Галіну выступілі доктар мастацтвазнаўства, прафесар Анатоль Сабалеўскі, яе малодшая паплечніца народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, заслужаны работнік вышэйшай школы дацэнт БДУ Вольга Казлова. Яны ўспомнілі актрысу як сціплага, самаадданага, высокаадукаванага чалавека. Народная артыстка Беларусі Зінаіда Браварская зазначыла, што паэт пакідае нам сваё сэрца ў кнігах, а артыст запальвае чалавечую душу ў той момант, калі знаходзіцца на сцэне. Ушанаваць светлую памяць артысткі прыйшоў малодшы сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч. Ён успомніў тыя шчаслівыя хвіліны, калі Вольга Уладзіміраўна бывала ў іх дома.

Напрыканцы вечарыны прысутныя з задавальненнем паслухалі беларускія песні ў выкананні вакальнага квартэта "Святлана" з радзімы Якуба Коласа.

Ірына ЦЕЦЯРУК, вучаніца сярэдняй школы N 98 г. Мінска

*Фота Сяргея ЛУК'ЯНАВА*

## Пра "белыя плямы" гісторыі

4 траўня ў Беларускім калегіуме (памяшканне бібліятэкі імя Янкі Купалы) адбылася прэзентацыя даведніка "Антысавецкі рух у Беларусі: 1944—1956". Выданне здзейснена Архівам найноўшай гісторыі (архіў заснаваны Беларускім гуманітарным фондам "Наша ніва" ў 1996 годзе) у супрацоўніцтве з Цэнтрам KARTA (Варшава). У даведніку сабрана і сістэматызавана інфармацыя пра персаналіі і падзеі, што маюць дачыненне да супрацьстаяння беларусаў таталітарнай сістэме ў 1944—1956 гадах. Нават прафесійныя гісторыкі, не гаворачы ўжо пра менш дасведчаных чытачоў, знойдуць у даведніку шмат такога, што прымусіць іх у чарговы раз канстатаваць, што "сваёй гісторыі беларусы не ведаюць", што сапраўдная гісторыя Бацькаўшчыны ўсё яшчэ "таямніца за сямю пячаткамі".

Гэта выданне — здзейсненая частка праекта "Антыкамуністычная апазіцыя ў Беларусі 1945—1991".

Наклад даведніка 1000 асобнікаў.

П. В.

## Калі лялькі сталеюць...

Адначасна са сваім прафесійным святам — Міжнародным днём тэатра — адсвяткавалі 30-гадовы юбілей у Берасцейскім тэатры лялек. Дарэчы, юбілейнае святкаванне тут мусілі правесці яшчэ летась (утварыўся тэатр у 1968 годзе). Ды нашая адвечная бяда — нястача грошай на культуру ўнесла свае карэктывы. Сёлета ж берасцейскія лялечнікі наладзілі сапраўднае свята.

Урачыстую праграму склалі жартаўліва-музычныя сцэнкі, а ўшанаванні пачэсных работнікаў тэатра былі перамежаны добрымі, цёплымі размовамі пра былое ды цяперашняе.

(Будучае тэатра магло б бачыцца проста зайздросным, калі б не адно прыкрае "але": тэрмінова патрэбна рэканструкцыя тэатральнага будынка).

Вядома, пра ўсе заслугі тэатра распавесці не выпадае. Дастаткова сказаць, што тэатр лялек з Брэста — удзельнік шматлікіх Міжнародных фестываляў ды святаў, знаны ды прызнаны ў многіх краінах, у тым ліку ў Расіі, Германіі, Украіне... А таксама сам адзін з галоўных арганізатараў Міжнароднага фэсту "Белая вежа", які з поспехам праходзіў ужо тры гады запар.

30 гадоў для тэатра лялек — пераходны ўзрост: пераход да сталасці. А калі сталеюць, дык і думаюць больш вобразна і цікава і здзяйсненні тады — больш смелыя і грунтоўныя.

І. Х.

ПАМЯЦЬ

# Далёка ад роднай Беларусі

У 1942 годзе, знаходзячыся на Бранскім фронце, я даведаўся, што ў Маскве выдаецца газета "Савецкая Беларусь". Я адважыўся паслаць у рэдакцыю некалькі сваіх вершаў. Як цяпер памятаю — дажджлівая восень, паштальён пад варожым абстрэлам дабіраецца да нашай траншэі і гучна абвяшчае, называючы маё прозвішча: "Беларус, табе пісьмо!" Я не думаў, што гэта датычыць мяне. Хто мог мне напісаць, калі Беларусь акупіравана ворагам? Я і забыўся, што свае вершы паслаў у Маскву.

І вось важкі пакет у маіх руках. Разгортваю, гляджу — і вачам не веру: некалькі экземпляраў газеты "Савецкая Беларусь" ад 7 кастрычніка 1942 года, невялічкі зборнічак "Кат у белай манішцы", у якім высмейваліся фашысцкія захопнікі, і пісьмо. Чытаю з радасцю і хваляваннем: яно напісана на роднай мове.

У нашай зенітнай батарэі былі прадстаўнікі многіх нацыянальнасцей, як гаварылі ў той час, — быў інтэрнацыянал: я і мае сябры з Гомельшчыны беларусы — Калінін, Галота, Шапавалаў, з Мінска — Луцкевіч, украінец Бардынюк, татарын Гізатулін, рускія Мілюцін, Марозаў. І яны з цікавасцю аднесліся да маёй пошты.

У пісьме гаварылася: "Я вас памятаю з 1940 года па вашых вершах". Мушу растлумачыць: што гэта значыць. У 1940 годзе, мяне, студэнта Гомельскага педінстытута, запрасіў у Мінск на курсы-канферэнцыю маладых пісьменнікаў Міхась Лынькоў. У газеце "Літаратура і мастацтва" былі надрукаваны некалькі маіх вершаў. Я здзівіўся памяці аўтара пісьма — гэта быў Кузьма Чорны. Я толькі прысутнічаў на семінары, калі ён выступаў з разборам нашых твораў. К. Чорны пісаў, што трэба берагчы і шанаваць родную беларускую мову, дбаць аб яе чысціні, жадаў хутчэй вярнуцца на родную беларускую зямлю.

З газеты я даведаўся, як беларускі народ змагаецца з акупантамі. З затоеным дыханнем слухалі мае сябры артыкул народнай артысткі СССР і БССР Л. Александроўскай аб барацьбе нашага народа з фашызмам. Яна называла паэтаў і пісьменнікаў: Петруся Броўку, Кандрата Крапіву, Міхася Лынькова, Кузьму Чорнага, Максіма Танка і іншых, якія мастацкім словам змагаюцца з ворагам. Мы даведаліся з газеты, што Янка Купала напісаў верш "Беларускім партызанам" з такім заклікам:

***Партызаны, партызаны,***
***Беларускія сыны,***
***За няволю, за кайданы,***
***Рэжце гітлерцаў паганых,***
***Каб не ўскрэзлі век яны.***

Далей у пісьме Кузьма Чорны пісаў, што памер газеты не дазваляе надрукаваць многа вершаў. Дадзена толькі тры невялічкія. Вось адзін з іх:

***Нас цалавалі ад душы,***
***Аж шчокі пурпурам гарэлі,***
***Ішлі на рукі малышы,***
***Іх саграваллі мы ў шынелях.***
***Я рад: бязвусага мяне***
***Дзяўчынка ахрысціла татам.***
***У сэрцы узмацняўся гнеў,***
***Расла свяшчэнная адплата.***
***Нас запрашалі пагасціць,***
***Да слёз былі вяскоўцы рады.***
***Шкада: няма куды зайсці,***
***Ніводнай не ўцалела хаты.***

Я і па сёння ўдзячны Кузьму Чорнаму за прафесіянальныя парады: добра ведаць мову, жыццё, змагацца за дасканаласць думкі, вобраза.

Той нумар газеты я пранёс у рэчавым мяшку праз усю вайну і захоўваю яго і зараз як рэліквію.

Адзін з асобнікаў "Савецкай Беларусі" я паслаў свайму сябру па Гомельскім педінстытуце Міколу Сурначову.

У хуткім часе атрымаў ад яго ліст. Ён пісаў: "Дарагі Паўлюк! Шчыра дзякую за ліст і за газету "Савецкая Беларусь" і літаратурны дадатак "Раздавім фашысцкую гадзіну". Яна пазнаёміла мяне з творамі нашых карыфеяў паэтычнага слова... Верш Я. Коласа кранаў мяне да слёз:

***На захад, на захад***
***Спяшайцеся, хмары.***
***Варожай крывёю***
***Заліце пажары.***

Гэта ж гімн беларускага народа.
17.10.42 г."

Мікола Сурначоў прыгадаў, як ён напісаў першы верш аб Айчыннай вайне, адступаючы з Мінска.

"Ішоў са мной М. Аўрамчык. Брыдзём дарогай. Пачынае пікіраваць фашысцкі самалёт, а мы ідзём у жыта і давай чытаць М. Багдановіча, А. Куляшова, П. Броўку. Чамусьці яны аказаліся пад рукамі, і каб не сумна было ў дарозе, мы захапілі іх з сабой... На шашы забітыя коні, людзі, парваныя правады... І так нараджаецца мой першы верш Айчыннай вайны:

***Не вярнуцца ніколі***
***Хлапцу маладому***
***К заросшаму мохам***
***Забытаму дому.***

***Над ім асыпаюцца***
***Слуцкія краскі,***
***Абсмалены колас***
***Схіліўся да каскі.***
***Ляжыць ён забіты***
***У стоптаным жыце,***
***Маці спаткаеце —***
***Ёй не кажыце..."***

Восенню 1944 года ў Мінску я спаткаў Міколу Сурначова. Ён, як і я, прыбыў з фронту на кароткую пабыўку. Прыгадалі часы студэнцтва, Гомель, ён — сваю Рагачоўшчыну. Мікола прачытаў свой верш "Зямлянка", у якім былі такія радкі:

***Да франтавой маёй хаціны***
***Ісці нядоўга. На бугры***
***Сярод жытнёвай зеляніны***
***Яна стаілася ў нары.***

У апошніх лістах, дасланых з Германіі, Мікола Сурначоў радаваўся, верыў, што неўзабаве вернецца на сваю зямлю. Але ён загінуў далёка ад роднай Беларусі...

**Паўлюк ПРАНУЗА**

# З вогненнай Югаславіі

*"Я з вогненнай вёскі" — не проста назва незабыўна-балючай кнігі нашых слынных пісьменнікаў. Гэта моцны знак трагічнага лёсу беларусаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. І асаблівае значэнне для нас ён мае тады, калі святкуецца Дзень Перамогі.*

*"Я з вогненнай вёскі" — не толькі словы, якія ўвасабляюць факты некаторых індывідуальных біяграфій. Гэта, бадай, вызначальная асаблівасць нашай генетычнай памяці — той, што зведаныя жахі выносіць за межы канкрэтнікі ў часе і прасторы. А інакш і быць не можа. Дакладней, быць не павінна.*

*"Я з вогненнай..." — чуецца мне, калі чытаю лісты з Югаславіі. Думаю, многія пачуюць тое самае, прымаючы да сэрца словы, якія адтуль даходзяць. Яшчэ дайшлі.*

*Дазволу на публікацыю іх — для друку, вядома ж, не прызначаных — я не прасіў. Але спадзяюся, што аўтары іх не будуць за гэта крыўдаваць, бо выказанае ў гэтых лістах адрасавана мне і як асабістаму знаёмцу, і як прадстаўніку народа, імі ўпадабанага, народа, які, ім здаецца, можа зразумець чужы боль, ужо таму што сам перажыў такое.*

*Гэта галасы людзей, далёкіх не толькі ад вайсковых спраў, але і ад надзённай палітыкі, прадстаўнікоў самых што ні ёсць мірных прафесій і жанчын да таго ж.*

*Прыводжу ў перакладзе, скарачаючы за кошт меней істотнага, без праўкі.*

*"**26 сакавіка, Панчава.***

(...) Пазаўчора вечарам пачалі нас бамбардаваць (...). Я з бацькамі ў Панчаве. Першае, што разбурылі, — казарма, за паўкіламетра ад нашага дома. Удар быў магутны. Мы і сірэны, ўласна, не чулі, выйшла, што засталі нас неўспадзеў. А потым накіраваліся ўсе ў сутарэнні пад домам. Пасля гэтага былі яшчэ ўдары. Зраўнялі з зямлёю, як кажуць, авіяцыйны завод — мы, вядома, чулі ўзрывы.

Цяпер я дома. Змагла крыху паспаць. Перад гэтым двое сутак вачэй заплюшчыць нельга было: з кватэры ў сховішча, г. зн. сутарэнне, і наадварот (...).

Кажуць, што праз гадзіну зноў павінна завыць сірэна. Зноў трэба будзе ў сутарэнне. Мінулай ноччу, без сну, я ўжо думала, што пачынаю псіхічна зрушвацца... Але цяпер ужо лепш, сёння нас тут не абстрэльвалі. Ходзяць чуткі, што пад абстрэл трапяць нафтаперапрацоўчы і азотны заводы, Панчава — значны індустрыяльны цэнтр! Людзі ўцякаюць з горада, хто куды. Я застаюся. Высільваешся дарэшты ў гэткім стане.

На факультэце і ў школах заняткаў няма, абвешчаны канікулы да 2 красавіка. Але ў нас на факультэце ёсць абавязкі, прадугледжаныя на такое становішча, ад якіх я, дзякуючы разуменню калег, вызвалена, бо жыву не ў Бялградзе.

Спадзяёмся на дапамогу Расіі. Гаворыцца таксама пра рэакцыю Беларусі, і я згадваю ўсіх вас і думаю, што, напэўна, вас узрушыла ўсё гэта.

Чакаю, каб гэта як мага хутчэй скончылася.

Толькі Бог нам можа даць збавенне! (...)

Ведаеце, гэта выпрабаванне для хрысціян (...)

Маліцеся за нас.

Набліжаецца Уваскрасенне!!!

Жыву ад сёння да заўтра. Але ведаю, што Бог са мною і што мяне не пакідае (...)

Спадзяюся, што ўсё гэта хутка скончыцца. Часам з'яўляецца жаданне апынуцца недзе ў іншым месцы. Калі спускаюся ў сутарэнне, прыгадваю Анну Франк. І ўсё ж такі я радуюся, радуюся. Слава Богу! (...)

Жадаю вам усяго найлепшага — усім здароўя, поспехаў у працы, усіх дабротаў ад Госпада.

А нам каб Бог дапамог малітвамі святога Савы Сербскага, святога Авы Аўгусціна, святога Мікалая, святой Еўфрасінні, святой Сафіі Слуцкай і ўсіх святых зямлі Беларускай, і ўсіх святых з Прасвятой Багародзіцай.

З Богам!

**Сняжана Елесіевіч**".

"***15 красавіка 99, Бялград.***

(...) У гэтыя цяжкія для маёй краіны дні хачу падзякаваць вам за падтрымку і сяброўскія пачуцці.

Усе спадзяёмся, што гэтая бестыяльнасць хутка скончыцца і мы сустрэнемся ў мірных умовах, каб радавацца адзін аднаму.

Калі вы прыедзеце, Бялград будзе сонечны, цёплы і ўсмешлівы.

Маліцеся Богу за нас, а сябе беражыце.

Мы павінны вытрываць бяду, якая нас спасцігла. У пакутах пазнаецца мужнасць. А мы маем згоду і адвагу, насуперак усім непамыслотам. Абараняе нас войска, а яшчэ нас абараняюць нашы дзеці. Найбольш расчульваюць вучні асноўных школ (васьмігадак — **І. Ч.**). Яны цэлымі днямі спяваюць, ладзяць канцэрты па ўсёй краіне. І найменшанькія на прагулках з мішэнямі, прычэпленымі да шапачак ці да калясачак. Каб не трагічна, было б смешна.

(...) Тыя цудоўныя дні, якія мы правялі ў снежні ў Мінску, нас усё яшчэ грэюць.

**Міліца НОЎКАВІЧ**".

*Дарэчы, першы ліст прыслала юная выкладчыца-славістка, якая ў кастрычніку мінулага года наведвала наш універсітэт, а другі — разам з фатаграфіяй — пісьменніца, якую мы прымалі ў сваім Доме літаратара, калі праходзілі Дні культуры Югаславіі.*

*Ім і ўсім, югаслаўскім братам і сёстрам, жадаючы міласці і дапамогі Божай, ад імя беларусаў, якія моляцца і просяць у Бога для ўсіх, хто там трывае яшчэ, збавення, а пагінулым — Царства Нябеснага.*

**Іван ЧАРОТА**

ШЛЯХІ

# "...І лепшай долі тутака дажджэмся"

## З НАГОДЫ ВЫХАДУ Ў СВЕТ АНТАЛОГІІ "БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА XX СТАГОДДЗЯ"

***У драматычны, а, можа, і лёсавызначальны перыяд сваёй гісторыі ўступіла наша Бацькаўшчына. Перажыўшы на пачатку XX стагоддзя ўздым нацыянальна-вызваленчага руху, кароткі перыяд адраджэння і беларусізацыі, яна літаральна за некалькі гадоў да яго заканчэння трапіла пад прэс найглыбейшага крызісу, патэнцыяльнай страты самабытных, нацыянальных форм жыцця. Душы людзей усё больш і больш напаўняюцца пачуццём безвыходнасці і горкім дакорам уладатрымальнікам за адабраную ў іх магчымасць стаць гаспадарамі свайго лёсу.***

Адсюль неабходнасць глыбокага асэнсавання прычын і шляхоў выйсця з гэтага стану нацыянальнага анабіёзу. Адсюль усведамленне таго, што рэалізаваць у Беларусі асноватворныя прынцыпы дэмакратыі нельга без удумлівага вывучэння і засваення нашай гісторыка-культурнай спадчыны і, перш за ўсё, фундаментальных прац ідэолагаў Адраджэння, сучасных даследчыкаў нацыянальна-дэмакратычнай арыентацыі. У гэтым сэнсе сапраўднай сенсацыяй стала кніга "Беларуская думка XX стагоддзя", якая ўбачыла свет напрыканцы мінулага года ў выдавецкім цэнтры пры Інстытуце славістыкі Польскай акадэміі навук. Гэтае выданне ўяўляе фактычна першую спробу сістэматызацыі і абагульнення вопыту даследавання праблем Беларусі як эпіцэнтра культурна-цывілізацыйных уплываў Усходу і Захаду.

Філасофска-светапоглядная аснова кнігі — гэта ідэалогія нацыянал-дэмакратызму, якая спалучае агульнадэмакратычныя ідэі і мэты з задачамі барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне прыгнечаных народаў. А тэарэтычныя вытокі нацыянал-дэмакратызму, як вядома, бяруць пачатак у ідэалогіі Асветніцтва, творах Ж.-Ж. Русо, Дж. Лока, Г. Гегеля, І. Канта, І. Фіхтэ, Ф. Шэлінга, А. Токвіля, П. Чаадаева, беларускіх мысліцеляў-асветнікаў Ф. Скарыны, С. Буднага, А. Волана, Б. Дабшэвіча, К. Нарбута, А. Нарушэвіча і інш. Важнай крыніцай навуковых абагульненняў аўтараў кнігі была таксама канкрэтная практыка рэвалюцыйна-дэмакратычнай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы народаў свету, у т. л. беларусаў.

На грунтоўным аналізе і асэнсаванні нацыянальна-вызваленчага руху ў Беларусі ў канцы XIX—пачатку XX стагоддзя грунтуюцца матэрыялы першага, цэнтральнага раздзела кнігі пад назвай "Прарокі нацыянальнай ідэі". Адзін з такіх пракокаў Антон Луцкевіч у артыкуле "Беларусь і Расія" адзначае, што ў гістырычны момант адбудовы палітычнай незалежнасці нашай Бацькаўшчыны, які пачаўся з моманту стварэння БНР, прыхільнікі Масквы (як і палякі) зноў аб'явілі сапраўдную вайну нашым незалежнікам.

Таму, мабыць, такім актуальным уяўляецца выказаны ў другім артыкуле гэтага ж аўтара тэзіс аб тым, што захаваць суверэнітэт сваёй краіны ў будучым можна толькі пры ўмове, калі ў аснову нашага дзяржаўнага будаўніцтва будзе пакладзена чыстая беларуская нацыянальная ідэя, калі будаваць незалежную Беларусь будуць самі беларусы. ("Аб дзяржаўным будаўніцтве").

З незвычайнага боку падыходзіць да трагічнага лёсу беларускага народа Янка Купала: у кантэксце спрадвечнага змагання Усходу і Захаду, заходняй культуры з усходнім адзічэннем, іх "паганага торгу" за цэлыя народы, за цэлыя дзяржавы. Але тыя, хто кінуў сваіх рабоў у анархію, лічыць паэт, ужо бяссільныя павярнуць долю народаў у той ці іншы бок, як бяссільны вецер перанесці Каўказскія і Швейцарскія горы адны на месца другіх.

Пра ўстойлівасць беларусаў супраць уплываў чужых культур піша Вацлаў Ластоўскі. Разнароднасць нацыянальных асобнасцей і права кожнай нацыі на культурнае — у шырокім значэнні гэтага слова — развіццё, лічыў ён, павінна быць забяспечана палітычнай яе незалежнасцю. Таму беларусам належыць зноў звязаць парваную ніць сваіх гістарычных традыцый, развіваць і ўсталёўваць дэцэнтралізм і народапраўства — каштоўнасці, якія прынясуць вызваленне чалавецтву, што задыхаецца ў путах стадна-цэнтралістычнага абсалютызму ў розных краінах свету ("Што спрыяе разросту і ўпадку народаў і дзяржаў").

Малавядомай для беларускага чытача з'яўляецца кніга Аляксандра Цвікевіча "Адраджэнне Беларусі і Польшчы" (1921), фрагменты з якой змяшчаюцца ў рэцэнзуемай анталогіі. З аднаго боку, на думку аўтара, Беларусь культурна, духоўна больш набліжаецца да Польшчы, чым да Усходу, што не магло парваць 150-гадовае панаванне Маскоўшчыны, а з другога — этнаграфічна беларус бліжэй велікаросу, прывык да яго за два апошнія стагоддзі, яго мова непараўнальна бліжэй да мовы рускай, чым да польскай (і ў гэтым схавана вялікая небяспека для адраджэння беларускай культуры).

Адданасць беларускай справе, любоў да Бацькаўшчыны і самаахвярная праца на карысць свайго народа — аснова светапогляднай і жыццёвай пазіцыі Ігната Канчэўскага (Абдзіраловіча). У сваім філасофскім эсэ "Адвечным шляхам" (1921) ён звяртае ўвагу на тое, што беларускі народ, нягледзячы на прымусовую асіміляцыю і ўціск, усё ж захаваў незалежнасць свайго духу і пачаў прабуджацца да жыцця, да стварэння новых падстаў яго арганізацыі. У той жа час філосаф папярэджвае ад таго, каб у гэтым светлым імкненні духоўнага адраджэння мы замест чужацкіх "месіянізмаў" не стварылі свайго ўласнага, каб знойдзеныя формы беларускага жыцця не зрабіліся для нас саміх вялікай турмой і здзекам.

У грунтоўным навуковым даследаванні "Гэтым пераможаш!.." Уладзімір Самойла, паказваючы ўраўнаважанасць у свеце дабра і зла, прыходзіць да высновы, што кожны беларус і ўвесь беларускі народ у цэлым павінны развіць у сябе крытычны аптымізм, калі яны хочуць перамагчы ў барацьбе за сваё існаванне, за сваю нацыянальную індывідуальнасць, бо гэтая барацьба адбываецца ў такіх небывала цяжкіх і выключна-прыгнечаных абставінах, якія невядомыя ні аднаму народу. Ператварыць пачатковы "натуральны аптымізм" у вышэйшую, больш свядомую і трывалую форму ў многім дапамагаюць нацыянальныя пачуцці і нацыянальная ідэя; народ, спаяны сувяззю нацыянальнага пачуцця, прадстаўляе ў жыццёвай барацьбе непараўнальна больш вялікую сілу, чым народ, які з'яўляецца толькі "калоніяй аднаго тыпу, толькі этнаграфічнай масай" — нечым накшталт лесу, у якім кожнаму асобнаму дрэву не баліць, калі сякуць яго суседа-аднапляменніка.

Пазнавальнымі і навукова абгрунтаванымі ўяўляюцца працы палітыкаў, гісторыкаў і грамадскіх дзеячаў, якія сабраны ў раздзеле "З пазіцый краёвага патрыятызму". Тадэвуш Урублеўскі, развіваючы ідэі І. Фіхтэ аб самаахвярнасці дзеля нацыянальнай справы, адзначае, што адзінае істотнай адзнакай народа ўяўляецца нацыянальная свядомасць, яго імкненне да дзяржаўнай незалежнасці і рэалізацыі ў поўным аб'ёме сваіх суверэнных право̆ў. Жаданне людзей да святла і ведаў, на яго думку, можа быць задаволена толькі ў іх роднай мове; вучыцца ж чужой мове народныя масы не маюць ні часу, ні магчымасці, ні ахвоты. Да сумесных творчых намаганняў на ніве нацыянальна-культурнага адраджэння заклікалі беларусаў, літоўцаў, палякаў і яўрэяў і такія прыхільнікі краёвага патрыятызму, як Раман Скірмунт, Міхаіл Ромер, Канстанцыя Скірмунт, Людвіг Абрамовіч.

Вострыя праблемы нацыянальна-дзяржаўнага і культурнага будаўніцтва аналізуюцца ў раздзеле "У люстэрку нацыянал-камунізму". Яўген Канчар папярэджвае, што дарэмна антаганісты беларускай мовы нападаюць на яе і ставяць на шляху яе развіцця новыя рагаткі, і выказвае спадзяванне, што родная мова не можа быць задушана, яна не памрэ, будзе развівацца, пашырацца і ўсё больш згуртоўваць людзей. Трагічнаму, горкаму лёсу Беларусі — "старонкі дэмакратычнага ладу" прысвечаны матэрыялы Зміцера Жылуновіча, Мітрафана Доўнар-Запольскага, Браніслава Тарашкевіча.

Арганічна ўпісваюцца ў кантэкст анталогіі творы навукоўцаў, грамадскіх і рэлігійных дзеячаў — прадстаўнікоў канцэпцыі т. зв. беларускага фундаменталізму. Адданасць традыцыйным ідэалам, захаванне непахіснасці і жыццяздольнасці выпрацаваных вякамі нацыянальных каштоўнасцей — у гэтым квінтэсенцыя іх філасофскіх поглядаў, іхняга аналізу розных сфер жыцця нашага грамадства, які ўтрымліваецца ў матэрыялах адпаведнага раздзела "Вехі беларускага фундаменталізму". Адзначаючы ролю рэлігіі ў суцэльным гарманічным развіцці чалавека, Казімір Сваяк заўважае, што беларускаму народу, які мае пакутніцкую гісторыю сваёй веры, наканавана нешта вельмі вялікае ў гэтай галіне культуры — аб'яднаць абодва абрады ў адзіным рэлігійным светапоглядзе. І гаворка тут ідзе аб беларускім уніяцтве, а не аб дэнацыяналізаваным расійскім праваслаўі і не аб польскім каталіцызме, які ўступіў у нас на шлях казёншчыны.

Вячаслаў Багдановіч падкрэслівае, што Расія ў свой час насаджала праваслаўе па духу і характары чужое, вынішчаючы пры гэтым усё старое, мясцовае, што вякамі склалася і зраслося з беларускім народам. У той жа час ён выказваецца за магчымасць збліжэння царквы з народнай беларускай масай.

Фундаментальнымі працамі прадстаўлены ў кнізе Тамаш Грыб. Неадольнае імкненне нашага народа стварыць сваю вольную і незалежную дзяржаву ён параўноўвае з беларускай народнай рэвалюцыяй. А яе галоўнай спружынай ён лічыць магутную сілу поступу, г. зн. ліквідацыю існуючага ладу нацыянальна-каланіяльнага падняволення і прымусу. Сумнай з'явай назваў ён той факт, што вялікадзяржаўнікі знаходзяць сабе прыхільнікаў у асяроддзі беларускага народа ("На два фронты!").

У раздзеле "На разломах вайны" выступаюць Усевалад Верас, Вацлаў Іваноўскі, Фабіян Акінчыц і інш. Іх матэрыялы былі апублікаваны у 1940—44 гг. і адлюстроўвалі іхнія тагачасныя ўяўленні аб беларускай справе, праблемах нацыянальнага развіцця, культуры, і асветы, ролі нацыянальных вартасцей і імкненняў пры пабудове свайго дабрабыту.

Але, на жаль, амаль усе вышэйназваныя аўтары былі далёка несвабодныя ў выкладанні сваіх думак і ідэй. Аслепленыя сваёй нянавісцю да бальшавізму, яны даходзілі да прамой апалагетыкі і апраўдання фашысцкіх парадкаў і дзеянняў. Ну, скажам, хіба не дысанансам гучаць іх заявы аб тым, што найлепшым прыкладам стварэння "безумоўна сільнага і здаровага народа" могуць быць тагачасныя Нямеччына, Італія і Іспанія, або што пад аховай пераможнага войска Нямеччыны закладваюцца падваліны новага беларускага гаспадарства і адкрываюцца велізарныя магчымасці для "працы ў розных кірунках", у т. л. і для стварэння нацыянальнай культуры?

Цярністы шлях станаўлення і развіцця нацыянальнай культуры і традыцый нашага народа знайшоў адлюстраванне ў раздзеле "Беларуская думка на эміграцыі".

Бадай, найбольш поўна і рознабакова прадстаўлена ў кнізе філасофска-культуралагічная думка сучаснай Беларусі. Ёй прысвечаны апошні раздзел "У пошуках альтэрнатывы і дыялогу". Адкрываецца ён вядомым "Пісьмом рускаму сябру" Аляксея Каўкі, якое ўпершыню было апублікавана ў Лондане ў 1979 годзе. Гаворачы аб шырока разгорнутай асіміляцыі і русіфікацыі ў Беларусі, аўтар лічыць, што арганізатары яе ігнаруюць тую элементарную ісціну, што кожны народ у скарбніцу агульначалавечай супольнасці "прыносіць з сабой сваё імя і годнасць, непаўторны букет свайго разумення ісціны і прыгажосці". Ды і нагул, беларусы рашуча не прызнаюць права каму б то ні было выражаць за іх сваю волю і імкненні, а асіміляцыя мае свае межы і бяссільна стрымаць развіццё мовы і культуры беларускага народа. Мае свае межы, на яго думку, і "трыумфальнае" шэсце па беларускай зямлі "западно-русизма", хаця яго прыхільнікі здольныя яшчэ "папсаваць беларускае крыві, але не здольныя ўхіліцца ад канчатковага прыгавору над імі суда Беларускае гісторыі ("Тэрыторыя ці нацыя?").

Скразной ніткай праходзіць праз усю кнігу ідэя самастойнасці кожнага народа і яго арыгінальнага ўкладу ў скарбніцу агульначалавечай культуры. Такім народам, лічыць Ніл Гілевіч, быў, ёсць і будзе беларускі народ, хоць сёння яго долю інакш як праклятай не назавеш — прынізілі і заглушылі яго нацыянальную годнасць, на галодны паёк пасадзілі яго культуру, знішчылі нацыянальную школу, ператварылі мову ў прадмет насмешак і крыўляння...

Васіль Быкаў звяртае ўвагу на адроджанае пачуццё нянавісці і тое, што ўладнаю воляй густ да нармальнага чалавечага жыцця нам падмянілі пячорным інстынктам барацьбы — з яўным, а лепш надуманым ворагам, чужой ідэалогіяй, за светлую будучыню і высокі ўраджай. У такую барацьбу, як мы бачым сёння, уцягнуты амаль усе — інтэлігенцыя, ветэраны і моладзь, "афганцы", бізнесмены, рабочыя і фермеры, калгаснікі, лібералы і заўзятыя абаронцы сталінскай тыраніі, незалежнікі і прыхільнікі жыцця на агульных нарах савецка-сацыялістычнага лагера. А выхад з гэтага становішча пісьменнік бачыць у тым, каб абудзіць у сабе сумленне, перайсці ад нянавісці да сораму, упусціць у душу нейкую часцінку дабрыні і цярпімасці.

У маральнай чысціні, праўдзе, маральнай нацыянальнай палітыцы бачыў аснову нашай сілы і надзейнай незалежнасці Беларусі Алесь Адамовіч. І ў гэтым кантэксце ён лічыў высокамаральным недапушчэнне вяртання на Беларусь ядзернай зброі, асабістую адказнасць кожнага за існаванне не толькі Беларусі, але і за існаванне ўсяго чалавецтва, усяго жывога на планеце.

Усведамленне свайго беларускага шляху да свабоды Сяргей Дубавец лагічна звязвае з агульнай філасофіяй свабоды (самаадказнасці), якая стала вяршыняй філасофіі экзістэнцыялізму, паводле якой чалавек абсалютней любога абсалютызму зразумеў сваё нікчэмнае жыццё. У вялікай падзвіжніцкай працы па адраджэнні нацыянальных традыцый і духоўных каштоўнасцей мінулага Альфрэд Майхровіч бачыць важнейшы сродак пераадолення нацыянальнага нігілізму, валюнтарызму, парушэнняў дэмакратыі і сацыяльнай справядлівасці, ператварэння ў рэальнасць ідэі дзяржаўнасці і ўсебаковага развіцця нашага грамадства.

Кожная нацыя, як вядома, увасабляе сваім быццём пэўную ідэю, якая рэалізуецца ў гістарычных дзеях народа і самабытнай культуры. Разглядаючы гістарычны аспект і сучасныя праблемы нацыянальнай ідэі, Уладзімір Конан выдзяляе тры грані яе выяўлення: гістарычныя дзеянні народа і геапалітычныя праблемы, нацыянальны характар і самабытнасць яго культуры, уключаючы ў гэта паняцце сацыяльна-палітычныя структуры, эканоміку, літаратуру і мастацтва, філасофію і рэлігію, мараль і прававыя інстытуты. У кантэксце развіцця культуры і нацыянальнай самасвядомасці беларусаў даследуе аўтар ролю хрысціянства ў гістарычным лёсе беларусаў, зыходзячы пры гэтым з пераканання, што рэлігія, родная мова і генетычна звязаная з імі міфалогія — гэта не толькі кампаненты нацыянальнай культуры, але і крыніца фарміравання архетыпаў нацыянальнага менталітэту як этна-псіхічнай асновы нацыянальнай свядомасці.

"Беларуская нацыянальная ідэя на мяжы двух стагоддзяў" — тэма артыкула Юрыя Хадыкі. Аналізуючы прычыны духоўнага заняпаду беларусаў у гады каланіяльнага прыгнёту, знішчэння гістарычнай памяці і беларускай культуры, ён прапануе галоўнае лякарства ад крызісу самаідэнтыфікацыі. Гэта "нацыяналізм" — тэрмін, які ў цэлым свеце эквівалентны тэрміну "патрыятызм"; без спецыфічнай афарбоўкі і насычэння пазітыўным зместам гэтага паняцця будуць няпоўнымі, недастатковымі і ідэя суверэннай дзяржаўнасці, і ідэя грамадзянскай супольнасці. Усебаковы аналіз тэарэтычных і практычных праблем "разумнага нацыяналізму", які так цаніўся і цэніцца ў цывілізаваным свеце, зроблены ў даследаванні Леаніда Лыча.

Канцэптуальны характар, глыбіня аналізу і сувязь з дасягненнямі сучаснай сацыяльна-гуманітарнай думкі — характэрныя асаблівасці змешчаных у зборніку артыкулаў Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Язэпа Лёсіка, Аляксандра Бурбіса, Адама Станкевіча, Зянона Пазьняка, Міколы Крукоўскага, Алега Бембеля, Анатоля Майсені, Аляксея Рагулі, Юрыя Туронка і інш. Дарэчы будзе нагадаць, што ў анталогію ўведзены жыццярысы ўсіх аўтараў публікуемых тэкстаў, што дало магчымасць лепш акрэсліць кірункі інтэлектуальна-філасофскіх пошукаў вырашэння пастаўленых імі праблем. Тым болей, што ў 1930-я — 40-я гады жыццёвая і творчая біяграфія многіх з іх была абарвана татальным тэрорам і рэпрэсіямі; 35 з 59 аўтараў кнігі прайшлі праз "чысцілішча" жорсткага рэпрэсіўнага механізму, а восем самых таленавітых з іх былі расстраляны сталінскімі сатрапамі і катамі.

Такім чынам, анталогія "Беларуская думка XX стагоддзя" з'яўляецца свайго роду падсумаваннем навуковага і культурна-нацыянальнага здабытку некалькіх пакаленняў беларускіх гісторыкаў, філосафаў, палітыкаў, культурных і рэлігійных дзеячаў. Яе падрыхтоўка і выданне сталі магчымымі дзякуючы высілкам вялікай групы вучоных-кансультантаў, рэцэнзентаў, рэдактараў і перакладчыкаў з Беларусі, Польшчы і ЗША. Сярод іх У. Конан, В. Скалабан, Ю. Туронак, Л. Юрэвіч, Г. Позьняк, Н. Давыдзенка, Н. Мазоўка, Э. Афтовіч, М. Шэроцкі і інш.

Хочацца спадзявацца, што гэтая унікальная кніга стане вялікай падмогай для ўсіх, хто марыць аб тым, каб наша родная Беларусь увайшла ў XXI стагоддзе цвёрдым поступам свабоднай, дэмакратычнай дзяржавы, хто верыць у тое, што і мы, па трапным выразе Антона Луцкевіча, "лепшай долі тутака дажджэмся".

Станіслаў ДУБЯНЕЦКІ

---

*Беларуская думка XX стагоддзя: філасофія, рэлігія, культура. (Анталогія). Укладанне, прадмова і апрацаванне Юрыя Гарбінскага. Варшава. 1988. 744 с.*



ЧАСАПІС

## Адна з трыццаці шасці

В ПОИСКАХ ИСТИННОГО БЛАГА

**Мінуліся часы, калі ў выдавецтве "Советский писатель" (цяпер "Современный писатель", Масква) штогод выходзіла ці не дваццаць кніг прозы і паэзіі беларускіх пісьменнікаў. А калі сюды дадаць тыя, жыццё якім давала "Художественная литература", "Молодая гвардия", "Детская литература", часам нават расійскія "Современник", ваеннае і палітычнае выдавецтвы, застаецца толькі сумна ўздыхнуць...**

***Выйсце сёння ў тым, каб шукаць гэтае*** **самае... выйсце. А менавіта ў такім кірунку і вырашыла дзейнічаць Міжнародная Супольнасць Пісьменніцкіх Саюзаў. І, як вынік, канкрэтны праект — вырашана выпусціць трыццаць шэсць кніг у серыі "Библиотека современной литературы Содружества Независимых Государств".**

***Зразумела, у ёй знайшлося і месца*** **беларускай літаратуры. Прытым прымаюцца захады, каб рускамоўны чытач мог пазнаёміцца не толькі з творамі масцітых аўтараў, а і маладых. Пацвярджэнне таму і зборнік апавяданняў маладых пісьменнікаў Украіны і Беларусі, які выйшаў у выдавецтве Супольнасці Пісьменніцкіх Саюзаў "Стилистика".**

**Адкрываецца ён падборкай украінскіх аўтараў, а калі канкрэтней — апавяданнем "Зялёны воск" Яны Рэзнік. Ёй усяго 18 гадоў, скончыла Данецкае вучылішча культуры, піша толькі прозу. Дэбютавала ў 1998 годзе на старонках літаратурнай газеты "Шумный двор". Апавяданне Я. Рэзнік пра тое, як кожны знаходзіць у жыцці сваю прыгажосць. Для гэтага трэба толькі ўмець глядзець на наваколле і на тых, хто трапляе ў поле твайго позірку шырока раскрытымі вачыма. І тады можа адбыцца цуд. А менавіта так сталася з героем апавядання, які выпадкова напаткаў на вуліцы дзяўчыну з валасамі зялёнага колеру.**

**Назву кнізе дало апавяданне Аляксандра Ераменкі "У пошуках сапраўднага шчасця". А Ераменка нарадзіўся ў сям'і вядомага ўкраінскага паэта Міхайла Ераменкі. Працуе выкладчыкам філасофіі Луганскага інстытута ўнутраных спраў. Мае некалькі кніг прозы. З'яўляецца членам Міжрэгіянальнага Саюза пісьменнікаў (МСПС). Акрамя згаданага твора, у зборнік уключаны і яго апавяданні "Любімец Багоў", "Мяцеж". І ўсё ж найбольш удалося А. Ераменку з прадстаўленых твораў апавяданне "У пошуках сапраўднага шчасця". Яно прытчавае, а расказвае аўтар пра лёс аленяняці, якое выпадкова трапіла на бойню. Канечне, яго не адправілі "пад нож". Шчаслівчык апынуўся ў звярынцы, пасля ў заапарку, і, нарэшце, у выніку няўважлівасці п'янага вартаўніка, на волі. І ўсюды, дзе б ні знаходзілася аленяня, яму здавалася, што ў новым месцы лепей. Аднак дастаткова было трапіць туды, куды хацелася, як прыходзіла чарговае расчараванне. У звярынцы было не так хораша, як падавалася тады, калі знаходзіўся на бойні... Са звярынца рваўся ў заапарк, але і ў заапарку нясоладка жылося... І ў рэшце рэшт трапляе аленяня туды, дзе "звяры, якія там жывуць, вечныя... Там ваўкі не нападаюць на аленяў, там увогуле ніхто нікога не крыўдзіць". Даверлівае аленяня забіваюць і робяць з яго чучала... Змешчаны ў кнізе і апавяданні ўкраінскіх аўтараў Івана Шагінава, В. Петрушэнкі. Пра апошняга (а мо апошнюю?!) чамусьці няма ніякіх звестак. Як не прадстаўлены здымак яго (яе?!) і А. Ераменкі.**

**А з маладых беларускіх літаратараў у зборніку надрукаваны творы Андрэя Федарэнкі і Барыса Пятровіча. У перакладзе Уладзіміра Машкова прапануецца апавяданне А. Федарэнкі "Салдат", у якім лёс радавога Алёшы Лісіцкага, які самастойна пакінуў вайсковую часць, стаў па сутнасці злачынцам. Глеб Артханаў пераклаў апавяданні Б. Пятровіча "Люстэрка" і "Акуляры". Калі першы твор напісаны ў манеры, характэрнай для Б. Пятровіча, — у аповедзе прысутны элементы фантастычнага, дык другое апавяданне традыцыйнае, але таксама глыбокае на думку.**

**Лявон ЮРЧЫК**

РЭЗАНАНС

# Каб думалі пра нас лепш...

## НЕКАТОРЫЯ ЎДАКЛАДНЕННІ ДА "ПАСЛАННЯ НАШЧАДКАМ"

СУМНАЕ ЎРАЖАННЕ пакідае публікацыя, з якой ад імя калектыву складальнікаў берасцейскай школьнай праграмы і падручнікаў па роднай літаратуры выступіла Зоя Мельнікава ("ЛіМ", 6 лістапада 1998 г.). Зусім не тое, на якое, пэўна ж, была разлічана, — крык зняверанай душы, абражанай годнасці, страчаных надзей на справядлівасць і г. д. Адсюль жа і форма: зварот ужо не да сучаснікаў (безнадзейна!), а да далёкіх нашчадкаў. А, між тым, выступленне ніяк не *можа ўспрымацца як сур'ёзны намер ацаніць* справы сённяшнія з вышыні і далечыні будучага. Зусім не тая, як гаворыцца, фактура. Не той і змест, і ракурс размовы.

Сапраўды, калі ўжо вучоныя-метадысты вырашылі біць трывогу і апеляваць да пераемнікаў, што будуць жыць і тварыць у **наступным стагоддзі (нават — тысячагоддзі!)**, і прытым як галоўны прадмет сваёй заклапочанасці вылучаюць не вядучыя праблемы школьнай літаратурнай адукацыі — яе якасць у параўнанні з сусветнай практыкай, адпаведнасць запатрабаванням жыцця, сучаснаму развіццю літаратуразнаўства і педагогікі, узровень навукова-метадычнай распрацоўкі прадмета, забяспечанасць яго неабходнай колькасцю гадзін у навучальным плане і г. д. і да т. п., а моманты прыватныя, **нават кан'юнктурныя**: хто першы ўвёў ці прапанаваў увесці ў праграму па літаратуры тое ці іншае пісьменніцкае імя, а галоўнае — хто і як паставіўся да берасцейскай праграмы і складзеных паводле яе падручнікаў, — то гэта ўжо, прабачце, зусім не ў духу "перазоваў эпох", гэта хутчэй у жанры групавых разборак, звядзення рахункаў і да т. п. Ды і па сваім намеры, які так старанна прыхоўваецца ў падтэксце, гэта зварот зусім не да нашчадкаў, а да сучаснікаў, прычым з асаблівай надзеяй на тых, хто, як між іншым пракідваецца ў артыкуле, "сёння нясе асноўную (?) службу" (пэўна ж, не толькі ў паэзіі).

Аднак, адказваючы на выступленне, мусім усё ж прыняць выклік і трымацца зададзенага зместу і накірунку размовы, нават тых канкрэтных фактаў, якія выкладзены шаноўнай аўтаркай.

А з іх вынікае, што на пачатку 90-х гадоў XX ст. берасцейскім калектывам пад кіраўніцтвам В. Зарэцкай (Ляшук) (цытуем): "была праароблена вялікая і патрэбная дзяржаве справа". Маецца на ўвазе распрацаваны праект навучальнай праграмы па літаратуры, у якім, як сведчыцца далей, было шмат прагрэсіўных новаўвядзенняў, наватарскіх адкрыццяў. Аднак пасля гэтыя адкрыцці перахапілі і прысвоілі або ўсяляк намагаюцца іх прынізіць, дыскрэдытаваць аўтары іншай праграмы, той, што распрацоўвалася ў Нацыянальным інстытуце адукацыі.

І тут нікуды не дзенешся — трэба адказваць.

Толькі вось адразу даводзіцца канстатаваць зусім не тое, што так эмацыянальна выкладае З. Мельнікава. Не, мы, прадстаўнікі НІА, маем на ўвазе зусім не тую незвычайную смеласць калег па працы ў ацэнцы ўласнага ўкладу ў развіццё методыкі літаратурнага навучання, тую, скажам прама, зайздросную ўпэўненасць аўтаркі і ўсіх пералічаных ёй членаў калектыву ў тым, што яны выйшлі на праблемы стагоддзя (а мо і тысячагоддзя!), таму і здабылі маральнае права апеляваць не інакш як да далёкіх нашчадкаў. Бо як жа інакш? Зроблена (яшчэ раз працытуем) "вялікая і патрэбная дзяржаве справа!" А вялікае, як сказаў паэт, бачыцца здалёк. Таму і выбіраецца адпаведны ракурс — размова з далёкімі нашчадкамі.

Няхай будзе так, як піша аўтарка. "Вялікая справа" дык вялікая (лепш, вядома, калі такія ацэнкі выстаўляюць не самі сабе). Але ж чаму пры гэтым **так адвольна** падаюцца факты і акалічнасці? Чаму, напрыклад, ні словам, ні намёкам не гаворыцца пра тое, чым займаліся ў тыя часы, г. зн. у другой палове 80-х — пачатку 90-х гадоў, іншыя навуковыя ўстановы і калектывы, пра тое, што працэс "пераацэнкі каштоўнасцяў", у тым ліку і ў школьных праграмах, ішоў актыўна яшчэ да таго, як у яго ўключылася кафедра Брэсцкага педінстытута, ці ішоў адначасова, паралельна?

Брэсцкая праграма (**праект** праграмы!) была апублікавана ў часопісе "Беларуская мова і літаратура ў школе" ў 1990 годзе. Але ж у тым жа часопісе **двума гадамі раней** была апублікавана таксама значна абноўленая ў сваім змесце праграма НІА, і яна тады актыўна абмяркоўвалася навукоўцамі (асабліва з БДУ) і настаўнікамі (гл. часопіс за 1988 г.). Следам, у 1990 годзе, быў створаны на базе НІА, але з падключэннем спецыялістаў з іншых навуковых і навучальных устаноў рэспублікі: Інстытута літаратуры АН Беларусі, кафедраў БДУ, БДПУ, а таксама, дарэчы, і **з запрашэннем прадстаўнікоў Брэсцкага педінстытута** (В. Зарэцкай і А. Майсейчыка), калектыў для распрацоўкі канцэпцыі літаратурнай адукацыі ў сярэдняй школе (надрукавана 31 ліпеня 1991 г. у "Настаўніцкай газеце"). Амаль адначасова з гэтым сваю "Праграму-праспект па беларускай літаратуры" распрацоўвае інстытут літаратуры АН Беларусі (друкавалася трохі пазней, у 1992 г., у часопісе "Роднае слова"). У "Настаўніцкай газеце" (4.04.1992) публікуецца праект Праграмы для абітурыентаў ВНУ, падрыхтаваны А. Рагулем.

У гэты ж час на аснове новай канцэпцыі калектыў лабараторыі НІА разам з іншымі даследчыкамі літаратуры і метадыстамі распрацоўвае новую праграму па беларускай літаратуры, якая пасля **некалькіх шырокіх абмеркаванняў** (на рэспубліканскай нарадзе, а таксама ў Саюзе пісьменнікаў, у Рэспубліканскім ІУН) зацвярджаецца міністэрствам і з 1994 г. уводзіцца ў школу.

Брэсцкая ж праграма пасля істотнай дапрацоўкі праекта зацвярджаецца ў якасці "паралельнай" **толькі ў 1995 годзе.**

Паўстае пытанне: як жа пасля ўсяго гэтага можна ўспрымаць сцвярджэнні З. Мельнікавай аб тым, што іх, г. зн. "берасцейская праграма", была ледзь не адзіным намаганнем у кірунку абнаўлення літаратурнага навучання і нават увогуле літаратуразнаўства (цытуем): "мела важную адметнасць, абумоўленую дэпалітызацыяй, дэідэалагізацыяй грамадскага жыцця, усёй школьнай, у тым ліку літаратурнай, адукацыі... Прыярытэтамі яе сталі агульначалавечыя каштоўнасці і крытэрыі... — каштоўнасць асобы, чалавечага жыцця, сям'і, школы, радзімы, грамадства, чалавецтва, прыроды, чысціні і жыватворнасці акаляючага асяроддзя..."

Не будзем каментаваць своеасабліва выкладзеныя тут "адметнасці", але ж не можам не пацікавіцца: на якія ж каштоўнасці ў той жа час, г. зн. на рубяжы 80—90-х гг. арыентаваліся іншыя даследчыкі літаратуры, крытыкі, метадысты? Ці яны, у тым ліку і супрацоўнікі акадэмічнага Інстытута літаратуры, Нацыянальнага інстытута адукацыі, выкладчыкі кафедраў вядучых ВНУ і г. д., сядзелі і чакалі, пакуль "берасцейскі калектыў пад кіраўніцтвам В. Я. Ляшук" сфармулюе прынцыпы "дэідэалагізацыі" грамадскага жыцця і літаратурнай адукацыі і тым самым пасля, праз амаль дзесяцігоддзе (у 1998 г.), дасць падставу З. Мельнікавай заявіць, што мінскія навукоўцы пакарысталіся іх адкрыццямі, прымусіўшы "берасцейскі калектыў" (цытуем): "пакутаваць ад знішчальнай зайздрасці, высакамернай амбітнасці і напышлівасці, традыцыйнага тутэйшага самаедства?"

Аўтар публікацыі, аднак, не абмяжоўваецца толькі такой, агульнай ацэнкай. Яна развівае яе і пацвярджае канкрэтнымі прыкладамі.

Прывядзём іх, але зноў жа з каментарыямі. "Мы ўпершыню ўвялі ў школьны літаратурны ўжытак творы М. Гарэцкага, А. Гаруна", — заяўляе аўтарка, маючы на ўвазе свой праект праграмы 1990 г. (Яшчэ раз нагадаем: у школу праграма ў якасці "паралельнай" была дапушчана толькі ў 1995 годзе). Але ж у адпаведнасці з праграмай НІА (**якой кіравалася школа**) творы М. Гарэцкага ("Рускі", "Хаўтуры за прыгонам") **ужо вывучаліся** ў 8-ым класе ў 1990 г. (гл. праграму 1990 г.). А ў праекце праграмы НІА 1998 г. значацца ўжо творы А. Гаруна "Песня-звон" і "Муляру".

Далей: "Мы ўпершыню ўвялі манаграфічную тэму "Васіль Быкаў"... Ставім пытанне, як гэта магло здарыцца, калі **манаграфічная тэма** "Васіль Быкаў" была **ўведзена** для вывучэння ўжо праграмай НІА **1989** года!?

І зноў: "Мы ў сваёй праграме шырока прадставілі сучаснае пакаленне... пісьменнікаў: Р. Барадулін, Я. Брыль, Г. Бураўкін, А. Вярцінскі, Н. Гілевіч, І. Навуменка, Л. Дайнека, Я. Сіпакоў, В. Зуёнак, А. Дудараў, В. Казько...". Міжволі ў такім пераліку, чуецца, што хтосьці з іншых складальнікаў праграм гэтае "сучаснае пакаленне" да таго часу не пускаў у школу, што гэтыя імёны кімсьці ўпарта замоўчваліся або ігнараваліся.

Але ж факты сведчаць, што першыя шэсць імёнаў (хоць імя Я. Брыля З. Мельнікава тут устаўляе дарэмна: яна, мабыць, сама вывучала творы Я. Брыля, калі яшчэ хадзіла ў школу) і разам з імі імёны У. Караткевіча, І. Пташнікава, П. Місько, Б. Сачанкі, С. Дзяргая, І. Чыгрынава можна сустрэць ужо ў праграме НІА **1982** (!) года і нават ранейшых, а наступныя пяць і разам з імі ў той ці іншай меры і форме (для вывучэння ці самастойнага чытання вучняў) яшчэ і У. Някляева, М. Лупсякова, С. Гаўрусёва, А. Грачанікава, С. Законнікава, А. Кудраўца, П. Макаля і інш. — у праграме **1989 г.** Затым, у 1990 г. — ва **ўжо дзеючай** праграме з'явіліся імёны Г. Далідовіча, В. Адамчыка, А. Вольскага, А. Карпюка, А. Жука (перапрашаем чытачоў газеты за такое падрабязнае пералічэнне).

Не сцвярджаем катэгарычна: якое-небудзь з імён маладзейшых аўтараў сапраўды магло ўпершыню з'явіцца ў берасцейскім праекце. Але ж у **прынцыпе, у накірунку агульных пошукаў узбагачэння** зместу школьнай літаратурнай адукацыі — дарэмна! Былі ў дзеючых (раней за берасцейскую) *праграмах* і вернутыя ў літаратуру рэпрэсаваныя пісьменнікі, і прадстаўнікі беларускага замежжа, якіх потым давялося зняць. Дык навошта ж так дэзарыентаваць нашчадкаў!?

Вось такая "праўда" ў З. Мельнікавай!

А чаго варта сцвярджэнне аўтаркі пра тое, што берасцейцы, аказваецца, былі першаадкрывальнікамі і ў такім накірунку (цытуем): "Родную літаратуру мы прапанавалі вывучаць у кантэксце з сугучнымі па праблематыцы творамі суседніх і іншых літаратур... Не без задавальнення заўважу, што многія ўпершыню названыя намі творы супрацоўнікі Нацыянальнага інстытута адукацыі ўключылі следам за намі ў сваю праграму...

Нават хочацца ўсклікнуць: шаноўная Зоя Мельнікава! Вы дарэмна так перабольшваеце нашы магчымасці! Супрацоўнікі НІА **не маглі такое ўчыніць,** каб і вельмі хацелі, бо ў берасцейскім праекце праграмы (1990г.) яшчэ **ні слова** не было пра вывучэнне роднай літаратуры ў кантэксце сусветнай, **не значылася ніводнага** не толькі з пералічаных ў вашым артыкуле, а ўвогуле замежных пісьменнікаў. Апошнія з'явіліся ў берасцейскай праграме толькі ў 1995 годзе, г. зн. ужо пасля таго, як была ўведзена ў школу і цэлы год працавала новая праграма НІА, а яшчэ раней была апублікавана Канцэпцыя літаратурнай адукацыі, распрацаваная ў НІА, у якой гэта ідэя — вывучэнне роднай літаратуры ў кантэксце сусветнай — выступала як адна з вядучых.

А зараз, бачыце: "першаадкрывальнікі"!

Але, мабыць, дастаткова, не будзем працягваць такія ўдакладненні, іх можа быць значна больш. Павернем размову ў іншы кірунак. Ці пасля гэтых удакладненняў і канстатацый мы, складальнікі праграмы, што выдаюцца пад грыфам НІА, адчуваем сябе перапоўненымі пачуццём "высакамернай амбітнасці і напышлівасці" (пра "прымітыўную знішчальную зайздрасць" гаварыць сэнсу няма, бо зайздросціць, як было відаць з азначанага вышэй, не было чаму), ці лічым мы, што *сваімі праграмамі заслужылі, гэтак, як брэсцкія калегі*, права на прызнанне і шанаванне з боку далёкіх нашчадкаў? Не, так мы не думаем і не лічым. Па-першае, таму, што працу над метадычным комплексам НІА мы ніколі не **прыпісвалі толькі сабе**, сваёй лабараторыі, бо для яго стварэння былі падключаны не толькі супрацоўнікі НІА, але і Інстытута літаратуры НАН Беларусі, Белдзяржуніверсітэта, Белпедуніверсітэта імя М. Танка (кафедр беларускай літаратуры, тэорыі і гісторыі культуры, замежнай літаратуры, рускай літаратуры), Рэспубліканскага інстытута ўдасканалення настаўнікаў, Віцебскага універсітэта, іншыя вопытныя метадысты, настаўнікі. А што датычыцца распрацоўкі Канцэпцыі літаратурнай адукацыі, то, нагадваем яшчэ раз, — таксама і прадстаўнікі Брэсцкага універсітэта. І, між іншым, мяркуем: той факт, што пераважная большасць настаўнікаў рэспублікі (па нашых звестках, больш як 80%) выбрала для сваёй працы ў школе з вучнямі менавіта навучальна-метадычны камплект НІА, і тлумачыцца якраз тым, што ў ім улічаны, абагульнены ідэі і прапановы многіх спецыялістаў з розных калектываў. І размову, такім чынам, тут трэба весці не аб суадносінах напрацовак лабараторыі літаратурнай адукацыі НІА і кафедры Брэсцкага універсітэта, а пра выніки працы **двух зусім розных па прадстаўнічасці калектываў** — аднаго, маем падставу сказаць так, агульнарэспубліканскага, пры НІА, і другога — групы выкладчыкаў

Брэсцкага універсітэта.

Аднак розніца не толькі ў гэтым. Дзейнасць калектыву пры НІА ўвесь час, з самага пачатку, была **ў полі зроку**, ці інакш — пад кантролем педагагічнай і літаратурнай грамадскасці, Саюза пісьменнікаў (адпаведнай камісіі); некалькі разоў па ініцыятыве міністэрства спецыяльна ставілася на **шырокае абмеркаванне**, для чаго склікаліся нарады, канферэнцыі, "круглыя сталы" і г. д. Так было і пры абмеркаванні канцэпцыі, і пры абмеркаванні створаных у адпаведнасці з ёй праграм, падручнікаў. Заўважым пры гэтым, такія абгаварэнні, вядома ж, не праходзілі без вострай крытыкі, сутыкнення розных поглядаў, што зусім натуральна.

Брэсцкая ж праграма такой папярэдняй спецыяльнай грамадскай экспертызы, апрабацыі ў рэспубліканскім маштабе **не праходзіла**. І на камісіі Саюза пісьменнікаў, пра якую піша З. Мельнікава, стала прадметам сур'ёзнай увагі па сутнасці **ўпершыню**. Таму, мы думаем, у З. Мельнікавай і яе калег першая сур'ёзная і адкрытая крытыка ў адрас іх праграмы і падручнікаў і выклікала такую балючую рэакцыю і абвінавачванне апанентаў у самых вялікіх грахах і апеляцыю да высокіх інстанцый і сённяшніх творцаў літаратуры, імёны якіх настойліва называюцца са спадзяваннем, **што зусім не нашчадкі**, а яны праявяць "зацікаўленыя адносіны" ў дачыненні да гэтых "зайздроснікаў", "абмітных сталічных самаедаў" і абароняць бедных, пакрыўджаных берасцейцаў. Менавіта гэта, як галоўнае, чытаецца ў падтэксце "пасланне нашчадкам".

І тут хочацца шчыра і адкрыта сказаць паважаным берасцейскім калегам: дарэмна яны так выступаюць! Шлях, які яны выбралі, не вядзе да станоўчых вынікаў. Бо як бы яны ні ўспрымалі рэцэнзію прафесара А. Рагулі (мо яна ў асобных выказваннях і магла выклікаць нечаканыя эмоцыі: пісалася ж не **для друку**, а як унутраная **рабочая рэцэнзія**) — гэта ацэнка чалавека **кампетэнтнага**, глыбокага ў сваіх разважаннях і ў галіне літаратуразнаўства, і ў методыцы школьнай літаратуры, спецыяліста, які мае вопыт яе распрацоўкі і выступае, мы перакананы, не для таго, каб нашкодзіць, а каб дапамагчы знайсці правільнае рашэнне задачы навучальна-метадычнага забеспячэння школьнага курса роднай літаратуры, пачаўшы з самага галоўнага, з распрацоўкі, фармулявання ці ўдакладнення канцэпцыі літаратурнай адукацыі.

А тут замест абгрунтаванага адказу ці навуковай дыскусіі — крык: ратуйце, нас знішчаюць, не даюць плённа працаваць і г. д. і да т. п. А ў высновах — амаль патрабаванне прадаставіць берасцейскаму калектыву нейкі "асаблівы" статус, не вельмі крытыкаваць, не назначаць рэцэнзентаў з паралельнага калектыву (дарэчы, ні А. Рагуля, ні В. Русілка ацэнку брэсцкіх навучальных дапаможнікаў з намі не ўзгаднялі).

На гэтым бы і скончыць...

Але ў выступленні З. Мельнікавай ёсць усё ж і такое, што нас станоўча зацікавіла, што мы маглі б падтрымаць. Маем на ўвазе прапанову: "вельмі б хацелася, каб для нашчадкаў XXI стагоддзя захаваліся тыя нешматлікія рэцэнзіі і заключэнні на праграму і падручнікі".

Гэта сказана, вядома, пра рэцэнзіі на берасцейскія праграмы і падручнікі зноў жа для таго, каб прадэманстраваць нашчадкам, як "берасцейцы" сталі ахвярай "навукова-інтэлігенцкага самаедства". Але мы ўсё роўна тут маглі б унесці свой уклад у ажыццяўленне такой прапановы дзеля захавання **ўсёй** праўды — прадставіць у лік цікавых экспанатаў "Рэцэнзію на праграму па беларускай літаратуры для V—XI класаў, распрацаваную Беларускім навукова-даследчым інстытутам" (г. зн. НІА), зацверджаную на пасяджэнні кафедры Брэсцкага педінстытута (пратакол N 3 ад 30.09.1992 г.) і падпісаную В. Зарэцкай (Ляшук). Мы перакананы нават, што менавіта гэты дакумент павінен значыцца пад N 1. І не толькі таму, што ён **папярэднічае** ў часе ўзнікнення, але і таму, што вельмі ж ужо красамоўны — сведчанне выключнай "дакладнасці" ў падачы фактаў, "праўдзівасці" ацэнак, педагагічнай "карэктнасці і далікатнасці", "навуковай этыкі" (па ўсім відаць, пісалася па тым жа рэцэпце, што і "спадзяванне на нашчадкаў", пра якое тут уся размова). Калі мы названы дакумент да гэтага часу не абнародавалі, то таму было прычынай, мажа, хіба адно — адсутнасць вопыту з публікацыяй З. Мельнікавай.

Але публікаваць яго мы ўсё ж, мабыць, не будзем: няхай нашы "нашчадкі XXI стагоддзя" думаюць пра нас трохі лепш. Нас — гэта не толькі мінскіх, сталічных аўтараў, а ўсіх "тутэйшых".

**Людміла ЦІТОВА,**
**старшы навуковы супрацоўнік лабараторыі літаратурнай адукацыі НІА**

**Вераніка КУШНЯРЭВІЧ,**
**навуковы супрацоўнік лабараторыі літаратурнай адукацыі НІА**

КНІГАРНЯ

# Запрашэнне ў даўні Полацк

Наўрад ці ёсць у нашай дзяржаве яшчэ адзін такі горад, вывучэнню гісторыі якога было б прысвечана столькі даследаванняў, у тым ліку і манаграфічных выданняў. Ды Полацк заслужыў падобную павагу сваёй надзіва багатай гісторыяй і той вялікай роллю, якую выконваў у станаўленні беларускай дзяржаўнасці. А "прачытваць" мінуўшчыну — гэта нязменна прыадкрываць новыя пласты даўніны, дагэтуль не заўважаныя ці належным чынам не асэнсаваныя, гэта нешта ўдакладняць, штосьці пераглядаць. Таму не памяншаецца цікавасць да полацкай гісторыі як з боку навукоўцаў, так і пісьменнікаў, краязнаўцаў. Не застаюцца ўбаку і археолагі.

Сяргей Тарасаў — з іх шэрагу. Вывучэннем полацкай даўніны займаецца ужо дваццаць гадоў і дванаццаць гадоў праводзіць археалагічныя раскопкі. Вынік гэтай працы — публікацыі, што з'яўляліся ў перыядычных выданнях, навуковых зборніках, а цяпер вось і кніга "Полацк IX—XVII стст. Гісторыя і тапаграфія", што пабачыла свет у выдавецтве "Беларуская навука". Манаграфія ў першую чаргу прапануецца тым жа археолагам, гісторыкам, іншым навукоўцам. Разам з тым яе з цікавасцю сустрэне кожны неабыякавы да нацыянальнай гісторыі і, у прыватнасці, да полацкай даўніны чалавек. Не ў апошнюю чаргу таму, што С. Тарасаў валодае багатым фактычным матэрыялам — як тым, што з'явіўся падчас уласных навуковых росшукаў, так і ўзятым з ранейшых крыніц.

Першы раздзел так і называецца — "Агляд крыніц і даследаванняў". Калі мець на ўвазе чытача не навукоўца, дык ён даведаецца, што хоць пісьмовыя крыніцы па гісторыі гэтага старажытнага горада нешматлікія, але унікальныя. Сярод іх — полацкія граматы, у якіх закранаюцца і пытанні полацкай тапаграфіі XIII—XV стагоддзяў. Згаданыя дакументы выдаваліся А. Харашкевічам у 1977, 1978, 1980 і 1982 гадах. Цікавыя дакументы, што тычацца даўніны, ёсць і ў зборніку "Русско-белорусские связи" (1963). А яшчэ крыніца па гістарычнай тапаграфіі Полацка — "Записки о Московской войне" Р. Гейдэнштэйна (1889), "Записки о Московских делах" С. Герберштэйна (1908)... Прыводзіць С. Тарасаў і гісторыка-картаграфічныя дакументы, у якіх закранаецца згаданы аспект, падае таксама агляд адпаведных даследаванняў.

Асноўную ж нагрузку ў кнізе нясуць раздзелы "Культурны слой Полацка як гістарычная крыніца", "Архітэктурна-планіровачная структура Полацка", "Дэмаграфічная структура Полацка IX—XVII стст". С. Тарасаў у гістарычнай тапаграфіі гэтага горада вылучае чатыры этапы. Першы з іх тычыцца IX — пачатку XI стагоддзя. У гэты перыяд "мы назіраем у Полацку сфарміраваную і досыць канкрэтна аформленую гарадскую структуру, якая складаецца з дзвюх частак: замак — пасад". Другі перыяд з жыцця горада адносіцца да сярэдзіны XI — XII стагоддзяў. Гарадзішча было перанесена на Верхні замак, акрамя будаўніцтва новага дзядзінца, развіваюцца пасады, найбольш Вялікі, пашыраецца Запалоцце, плошча якога набліжаецца да дваццаці гектараў. Ад XIV да сярэдзіны XVI стагоддзя працягваўся ў гісторыі Полацка трэці перыяд. У горадзе было 11 мужчынскіх і адзін жаночы манастыр, 18 культавых будынкаў. І, нарэшце, чацвёрты перыяд, якому С. Тарасаў адводзіць прамежак ад другой паловы XVI—XVII стагоддзяў. З 1563 года, калі Полацк захапіла рускае войска, пачаў мяняцца гістарычны цэнтр горада. Быў узведзены Стралецкі ці, інакш кажучы, Ніжні замак, адначасова яшчэ больш умацаваўся Верхні, Запалоцце.

У якасці "Дадатку" да кнігі прыводзяцца планы Полацка ў розныя гістарычныя перыяды, табліцы, схемы, прадметы, знойдзеныя ў час раскопак.

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**

ДАТЫ

# Першы і адзін з лепшых...

Зборнік "Беларускі архіў старажытных грамат" добра вядомы даследчыкам нацыянальнай даўніны, бо ў ім змешчаны унікальныя дакументы, якія тычацца розных падзей, што адбываліся на тэрыторыі ўсходніх зямель Беларусі з сярэдзіны XV да XVIII стагоддзяў. Па сведчанні выдатнага вучонага Мікалая Улашчыка, гэта "не толькі першы, але і адзін з лепшых (з археаграфічнага пункту гледжання) узораў публікацыі крыніц па гісторыі". А пабачыў свет зборнік у 1824 годзе ў Маскве. Дачыненне да выхаду яго мелі вядомы беларускі археограф, гісторык, краязнавец і пісьменнік І. Грыгаровіч і расійскі дзяржаўны падканцлер, мецэнат, чалавек улюбёны ў гісторыю граф М. Румянцаў. І. Грыгаровіч збіраў матэрыялы, а М. Румянцаў аказваў яму рознабаковую падтрымку, у тым ліку, што асабліва важна, фінансавую.

Сёлета з часу з'яўлення "Беларускага архіва..." спаўняецца 175 гадоў. А паколькі па сённяшні дзень ён, вядома ж, не страціў сваіх навуковых вартасцяў, ёсць падставы падрабязней расказаць пра гэтае выданне. Наколькі яно важнае, разумеў І. Грыгаровіч, які ў прадмове сведчыў, што дзякуючы старажытным дакументам, можна "узнавіць дух продкаў ва ўсім яго развіцці, высветліць патаемныя матывы, прычыны і суадносіны спраў іх".

І сам І. Грыгаровіч, і М. Румянцаў разумелі, што ў гэтым накірунку непачаты край работы, таму ў планах іх было жаданне прадоўжыць добрую справу. Невыпадкова на зборніку пазначана, што ў гэтым накірунку непачаты край работы, таму ў планах іх было жаданне прадоўжыць добрую справу. Невыпадкова на зборніку пазначана, што гэта першая частка яго, а правільней сказаць — першы том.

Увайшлі ж у том 57 грамат, прывілеяў актаў, адшуканых самім І. Грыгаровічам у архівах Магілёва і Мсціслава. Яны змешчаны ў храналагічным парадку — першыя тычацца сярэдзіны XV стагоддзя, апошнія набліжаюцца да 1768-га. Прынамсі, гэтым годам пазначана адкрыццё ў Магілёве грэка-лацінскага вучылішча і друкарні, а грамата караля Станіслава Аўгуста, выдадзеная епіскапу Георгію Каніскаму аб дазволе на такое адкрыццё, з'яўляецца адным з найбольш каштоўных дакументаў у "Беларускім архіве..."

Увогуле ж, асноўная тэматыка дакументаў (яны надрукаваны на беларускай, рускай, польскай і лацінскай мовах, з апошніх двух зроблены і пераклады на рускую (розныя прывілеі на вызваленне ад падаткаў, на гандаль, мытныя пошліны, а гэта, як вядома, дапамагае даследчыкам у лепшым вывучэнні сацыяльна-эканамічнай гісторыі адпаведнага перыяду.

Цікавасць уяўляюць і грамадзянска-прававыя акты. У асноўным яны тычацца Магілёва, хоць асобныя звязаны з жыццём Мсціслава, Віцебска, Полацка... Трэба адзначыць прывілей С. Баторыя праваслаўнаму насельніцтву Вялікага княства Літоўскага на права карыстання юліянскім календаром, а датуецца прывілей 1584 годам. Змешчаны граматы 1602 і 1768 гадоў аб стварэнні ў Магілёве царкоўнага брацтва, ужо згаданага грэка-лацінскага вучылішча, друкарні. Нарэшце, ёсць у "Беларускім архіве..." і копія зацверджанага каралём герба Магілёва. На ім выявы гарадской брамы, рыцара і герба "Пагоня".

Другі том зборніка так і не пабачыў свет, рукапіс жа быў выяўлены ў Дзяржаўным архіве Краснаярскага краю (Расія). Цяпер ён захоўваецца ў фондах Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Беларусі. Тэксты рыхтавалі прадаўжальнікі справы, пачатай І. Грыгаровічам. Сярод іх быў і прафесар Віленскага універсітэта І. Лабойка. Яны папрацавалі ў архівах Вільні, Магілёва, у Маскве і нават у Румянцаўскай бібліятэцы Каралеўца (цяперашні Калінінград, Расія). Усяго сабрана 66 дакументаў за 1252-1707 год, арыгіналы на беларускай, рускай, польскай, лацінскай і грэчаскай мовах, асобныя пададзены з перакладамі.

Рыхтаваўся і трэці том, у які меркавалася ўключыць дакументы XVII стагоддзя. Аднак і гэтая задумка не была даведзена да канца. І на тое паўплывала некалькі прычын. Галоўная з іх — смерць М. Румянцава, а ў сувязі з ёй з'явіліся і фінансавыя цяжкасці. А да ўсяго — яшчэ ўмяшанне цэнзуры.

Добра было б, калі б з цягам часу ўсё ж з'явілася магчымасць другі том "Беларускага архіва старажытных грамат". А пакуль застаецца радавацца таму, што ў буйных кнігасховішчах захаваўся першы. У свой час з'яўленне яго стала для многіх даследчыкаў адкрыццём гісторыі Беларусі.

**Н. К.**

ЧАСОПІСЫ

# Чарговая сустрэча з "Палессем"

Працягвае сваё жыццё літаратурна-гістарычны і грамадска-культурны часопіс "Палессе". І хоць сёння з неймавернай цяжкасцю выжываюць нават аналагічныя выданні, што фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту, тым не менш заснавальнік "Палесся" і яго галоўны рэдактар, шчыры руплівца на ніве нацыянальнага Адраджэння Рыгор Андрэявец, здавалася б, робіць немагчымае. А таму знаходзяцца людзі, ахвочыя дапамагчы выданню. А таму, няхай і са спазненнем пабачыў свет трэці-чацвёрты нумар за мінулы год, пазначаны снежнем 1998-га (а з часу нараджэння "Палесся" — восьмы-дзевяты).

Як і ў папярэдніх нумарах, прадстаўлены рубрыкі, якія палюбіліся ўжо чытачам. У "Паэзіі" гэтым разам, праўда, — толькі вершы Міхася Башлакова, які ў літаратуры выступае даўно і плённа. Аб яго набытках, дарэчы, можна меркаваць і па артыкуле Ю. Фатнева "Лёс паэта як лёс Айчыны", змешчаным у гэтым жа нумары ў раздзеле "Крытыка і літаратуразнаўства". Тым больш па новых вершах паэта. А яны ў добрым сэнсе традыцыйныя і блізкія па сваёй форме да лірыкі песеннай, меладычнай:

***Пракрычала сойка,***
***Сойка пракрычала***
***У асеннім лесе,***
***Лесе нада мной.***
***А лісток пажоўклы,***
***А лісток апалы***
***Зіхаціць на сонцы,***
***Свеціцца расой.***

Ёсць у вершах М. Башлакова і роздум аб хуткаплыннасці жыцця, як у гэтым — "Зялёная восень", прысвечаным Р. Андрэяўцу:

***І хай павуцінка мне скроні кране,***
***Я гляну ў люстэрка — а, можа, здалося?***
***Нібы маладосць, за акном прамільгне***
***Зялёная восень, зялёная восень...***

А вось раздзел "Пераклады" парадуе найперш рускамоўнага чытача, які, магчыма, па-беларуску не змог ацаніць мастакоўскія вартасці ананімнай паэмы "Сказ пра Лысую гару". Гэты вядомы твор друкуецца ў перакладзе В. Стралка.

У "Прозе" — пралог з рамана-містэрыі Ю. Фатнева "Ладдзя Харона". Гэты твор быў завершаны яшчэ ў 1990 годзе і выдавецтва "Советский писатель" у Маскве мела намер выпусціць яго асобнай кнігай. Але "Совписа" хутка не стала, з'явіўся яго пераемнік "Современный писатель", а ў таго, як ці не ў кожнай выдавецкай структуры, сёння фінансавыя цяжкасці. Ды Ю. Фатнеў у роспачы не апусціў рукі, а ў канцы 1998 года яшчэ дапісаў да твора завяршальны раздзел.

У раздзеле "Гісторыя і краязнаўства" прапануюцца два артыкулы — "Клан Багдана Хмяльніцкага ў "Памянніках" Міхайлаўскага Залатаверхага манастыра ад 1667 года" І. Вярбы і "Я аддаю сябе волі Боскай..." У. Кісялёва — расказ пра жыццё і дзейнасць святога пакутніка Макарыя, мітрапаліта Кіеўскага і ўсея Русі, які загінуў непадалёку ад вёскі Скрыгалава, на паўдарозе ад Мазыра да Петрыкава.

Багаты на матэрыялы раздзел "Інтэрв'ю". Разнастайнай атрымалася "Хроніка", а ў "Публіцыстыцы" — развагі камерцыйнага дырэктара трэста N 27 У. Надтачаева, падначаленыя якога працуюць у Расійскай Федэрацыі — "Пяць гадоў за мяжой", у якім востра ставяцца надзённыя праблемы, як супрацоўніцтва дзвюх дзяржаў, так стасункаў у галіне будаўніцтва.

У раздзел "Хроніка" хораша ўпісваецца навела самога Р. Андрэяўца "Іванава копанка". Дакладней — фотнавела, бо тэкст Р. Андрэяўцом напісаны да двух здымкаў фотааматара з Лоеўскага раёна Ю. Крота. Атрымаліся два сімпатычныя краявіды беларускай прыроды. Як быццам, і звычайныя, але поўныя таго хараства, якое пачынаецца з усведамлення, што гэта няхай і маленькая, але частка нашай Радзімы.

Увогуле, і сам часопіс у цэлым, і гэты яго здвоены нумар па-свойму выхоўваюць пачуццё любові і да Беларусі, і да Палесся.

**А. М.**



**ЧАСАПІС**

## "Вунь чурылавец пайшоў"

Шмат на Беларусі адметных вёсак, і ўсё ж вёска Чурылава, што знаходзіцца на Уздзеншчыне, — асаблівая. Чурылаўцы — людзі такія, што ў досціпе, кемнасці лёгка маглі б паспрачацца з добра вядомымі на сённяшні дзень аўцюкоўцамі і сусветна знакамітымі габраўцамі. Праўда, пра іх яшчэ нядаўна мала хто ведаў, пакуль не з'явіўся ў чурылаўцаў свой пісьменнік, які іх жарты і досціпы, як кажуць, па свеце панёс. Зрэшты, чурылаўцы свайго пісьменніка і раней мелі — у гэтай вёсцы нарадзіўся адзін з пачынальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры Алесь Якімовіч. А тут патрэбен быў чалавек, які б усе мясцовыя хохмы не толькі запомніў, а і так перадаў бы іх, каб ні ў кога сумнення не заставалася: чурылавец ёсць чурылавец, пры неабходнасці любога за пояс заткне.




Такім чалавекам і стаў колішні чурылаўскі хлопец, а сёння лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры Васіль Шырко. Ён прысвяціў землякам нямала твораў, кніг: "Дарагія мае землякі", "Дзед Манюкін не салжэ", "Хай людзі бачаць"... І вось новая кніга, што пабачыла свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура" — "Вунь чурылавец пайшоў".

Назву зборніку дала аднайменная аповесць. Чурылаўцы — героі і другой — "O, Sancta simplicitas!" — "О, святая наіўнасць". Ёсць у кнізе і трэцяя аповесць — "Анатоль Мацвеевіч". І ў кожнай з іх талент В. Шырко-гумарыста раскрыўся ярка, але найперш у першых дзвюх. Што ж, у родным доме, як кажуць, і сцены памагаюць. А чурылаўскія "сцэны" асаблівыя, да іх нібы магнітам цягне, тым больш, калі ты не растраціў пачуцця еднасці з зямлёй маленства, назаўсёды застаўся ўдзячны людзям, з якімі гадаваўся, ад якіх набіраўся жыццёвай мудрасці і якія (гэтага таксама нельга забываць) вучылі цябе не толькі дабраце, чуласці, чалавечнасці, а і ўменню глядзець на навакольны свет з усмешкай, бо чалавеку вясёламу, дасціпнаму заўсёды лягчэй жывецца, чым таму, хто пастаянна нечым не задаволены.

Аднак аўтар не абыходзіць і тых праблем, якімі жыве сучасная вёска. Увогуле В. Шырко, расказваючы пра сваіх чурылаўцаў, падыходзіць да іх з розных пункту гледжання. Як свайго роду дапаўненне да іх прыгод — былі, блізкія да легендаў, розныя паданні, якія ўдала ўводзяцца ў сюжэтную канву твораў. В. Шырко не супраць чытача пасмяшыць, але гэта — не самамэта. Не на апошнім плане і ўрокі маральнасці, дабрыні, працавітасці, гуманізму, якія чытач атрымае, калі бліжэй пазнаёміцца з укладам жыцця чурылаўцаў, іх звычаямі, побытам. Пісьменнік стварыў і прывабныя вобразы сваіх бацькоў Аляксандра Аляксандравіча (на жаль, ужо нябожчыка) і Ніны Васільеўны. Бацька В. Шырко ведаў на памяць многія творы беларускіх паэтаў, захапляўся "Новай зямлёй" Якуба Коласа, мог яе прачытаць на памяць, неаднойчы выступаў як чытальнік па тэлебачанні і радыё.

Герой трэцяй аповесці — жыхар палескай вёскі Крушнікі, што на Мазыршчыне. Анатоль Мацвеевіч перакананы: "...я не думаю, што свет уратуе адна прыгажосць, уратуе яшчэ работа, упартая, да сёмага поту. Кепска, калі людзі гэтага не разумеюць. А то ўжо многія развучыліся працаваць, толькі крычаць, давай ім тое, давай гэтае... Таму і жывём небагата".

Аповесці В. Шырко — гумарыстычныя, а праблемы ў іх узнімаюцца сур'ёзныя. Прачытаць гэтую кнігу не лішне. Ды і ўвогуле гумарыстычна-сатырычныя кнігі апошнім часам пішуцца не так часта, як раней. Але тым больш бракуе твораў, у якіх не смех дзеля смеху, а паўстае само жыццё, бачацца жывыя людзі са сваім багатым унутраным светам, са сваёй адданасцю роднай зямлі.

Лявон ЮРЧЫК

**ПАЭЗІЯ**

Юрась СВІРКА



## "Жыццё вучыла і гняло..."

### З лецішча

*З зямлёй не расстаюся, сын сялянскі.*
*Раней — радзей, з гадамі — часцяком*
*Да сонца прыязджаю і да ласкі*
*Садка і ягад, што вартуюць дом,*
*Хацінку, як макет бацькаўскай хаты,*
*Што грэе дабратой і цеплынёй.*
*Па сэрцу тут знаходзіцца занятак.*
*Сам-насам тут я з думаю сваёй.*
*Работы дастаецца і лапаце,*
*І кельме, і сякеры... Гавару*
*Пра тое, што патрэбна мне і хаце,*
*І нават не гусінаму пяру.*
*Душа мая здаволена трымцела,*
*Калі дамоў у кошыку нёс жар*
*Малін, ці вішань, ці ранетаў спелых,*
*А ў сэрцы — верш.*
*І так яно хацела*
*Паверыць, што ён самы-самы спелы —*
*Маіх начэй бяссонных боскі дар.*

### Няўжо?

*У век наш незгаворлівы і тлумны*
*Пра свой жывот мы думаем найперш.*
*Калі забыць, што homo ты разумны,*
*Тады ты і без мовы пражывеш.*

*Няўжо сваёй зямлі забыў ты імя?*
*Ты без яе здаешся жабраком.*
*Калі забыў, што ты чужы Радзіме,*
*Тады і жыць ты будзеш чужаком.*

*Няўжо замоўкне слова дарагое? —*
*Ты прамармычаш нешта, як дзікун.*
*І будзеш ты жывёлінай нямою,*
*Якой кіруе вокрык ці бізун.*

*Няўжо ты, мова, зразумета тымі*
*Тады, калі галосяць над труной,*
*Над дзецьмі, над нашчадкамі сваімі,*
*Над маці, бацькам,*
*Братам ці сястрой?*

### "А там, як класікі пісалі..."

*Без адмірання — тлення не бывае,*
*Ды, смертны я, а тленне адмаўляю.*
*І па-зямному прызнаюся шчыра*
*(То з боязі сябе я суцяшаю)*
*І ўпэўненасць, магчыма, набываю:*
*"...увесь я не памру —*
*у запаветнай ліры*
*Душа перажыве мой прах —*
*І тлення ёй не знаць..."*
*Жыві хоць сто гадоў,*
*твары хоць сто гадоў,*
*А лепш за генія*
*Пра гэта не сказаць.*

### Калі было, калі было...

СПОВЕДЗЬ ВЯСКОВАГА МУДРАЦА

*Пайшло жыццё на скон, на скон,*
*І я ўжо прымарыўся.*
*Здаецца, ўчора хлапчуком*
*Па вуліцы насіўся.*

*Калі было, калі было...*
*Не спалася да рання.*
*Здаецца, ўчора за сялом*
*Чакаў сваё каханне.*

*Жыццё вайною пачынаў.*
*Быў царскі час, не лепшы.*
*Здаецца, ўчора ваяваў*
*На той, сусветнай першай...*

*Згадаю — кругам галава.*
*Радня за стол пасела.*
*Здаецца, ўчора танцаваў*
*Я на сваім вяселлі.*

*Я — за жыццё, заўсёды — за!*
*І мой не чуўся віскат.*
*Здаецца, ўчора замярзаў*
*На той, марознай, фінскай.*

*На агнявой перадавой*
*Не здаўся свет аўчынай.*
*Здаецца, ўчора з бою ў бой*
*Ішоў па той, Айчыннай.*

*О, як цягнулася рука*
*Да дзетак — без прынукі.*
*Здаецца, ўчора я гушкаў*
*І праўнукаў, і ўнукаў.*

*Аж вусцішна мне на душы,*
*Гадоў не многа лепшых.*
*Здаецца, ўчора пражыў*
*І сталінаў, і меншых.*

*Жыццё вучыла і гняло,*
*Не паляпшала крокаў.*
*Здаецца, вечна не было*
*У нас сваіх прарокаў.*

*З мяне не стройце мудраца,*
*Кажу пра гэта смела.*
*Жыццё? — Заўсёды без канца,*
*Прабегла-праляцела.*

*Другога не хачу жыцця.*
*Сціскае немач грудзі.*
*Здаецца, ўчора думаў я —*
*Яму канца не будзе...*

●

*Пара пасмялець нам даўно*
*І праўду сказаць пра былое.*
*Яно навісала, як ноч,*
*Гняло і знішчала жывое.*

*Пачуў, як падтрымку: "Пара!"*
*Назад азірнуцца і крочыць*
*Туды, дзе яснее зара,*
*І ў дня прасвятлеюцца вочы;*

*Туды, дзе не мроіцца рай*
*Камуны нязбытнай, уяўнай;*
*Туды, дзе гавораць "Бывай!"*
*Імперыі нашай нядаўняй.*

Мікола ШАБОВІЧ



## "Пакуль дазволіць Бог..."

●

*Яшчэ квітнее збажына,*
*Яшчэ жытнёвы спее колас,*
*Яшчэ так добра даўдна*
*Пяшчотна-звонкі слухаць голас.*

*Яшчэ ў сінечы васількоў*
*Блукаць, як быццам у нябёсах,*
*І дзіўнакрылых васількоў*
*Яшчэ будзіць у звонкіх росах.*

*Яшчэ стуманеных дарог*
*Малітварука слухаць споведзь,*
*Яшчэ, пакуль дазволіць Бог,*
*Пісаць жыцця свайго аповесць...*

●

*Ад мітусні і ад пустых размоў*
*Нарэшце я вяртаюся дамоў,*
*Дзе ў сінім небе воблака плыве*
*І дзе мая каханая жыве.*
*Дзе я не госць, а, можа, гаспадар,*
*Дзе мне так лёгка ад шчаслівых мар...*
*Ад мітусні і ад пустых размоў*
*Вяртаюся, вяртаюся дамоў.*

●

*Калі ў бакал шампанскае наліта,*
*Назло зіме, хоць мы і ўдзячны ёй,*
*Кажу табе не тост — кажу малітву:*
*Маёю стань, да скону будзь маёй.*

*І не знайсці мне лепшае малітвы,*
*І даражэйшых слоў мне не знайсці,*
*Калі ў бакал шампанскае наліта*
*І ад вачэй вачэй не адвясці.*

*Будзь Дульсінеяй, будзь маёй Лалітай*
*І падары сваіх пачуццяў пал,*
*Пакуль яшчэ шампанскае наліта,*
*Пакуль яшчэ так пеніцца бакал.*

●

*Будуць вобразы, будуць шуканні,*
*Будуць вершы і ў вершах прызнанні...*
*А прызнацца ці кожны зможа:*
*"Я не паэта, о крый мяне божа..."?*

●

*Ты не мая, і я цяпер нічый,*
*Палоску лета ззалаціла восень,*
*І толькі просінь нейк з-за аблачын*
*Глядзіць на нас і прабачэння просіць.*

●

*Яна курыла. Ён курыў.*
*Быў модны офіс.*
*Калені голыя прыкрыў*
*Якісь часопіс.*

*Наўкол стаяла гамана,*
*І дым хістаўся.*
*І ён сказаў: "Я даўдна*
*З табой застаўся б".*

*Лагодны вецер дуў з акна,*
*Было пагодна,*
*Калі прамовіла яна:*
*"Я згодна..."*

### Каралева

*Ты каралева у клубе вясковым.*
*Так бездакорна падведзены бровы,*
*Пудрацца шчокі, чэрніцца вейкі —*
*Ты незвычайная ў імпартным брэйку.*

*Як кімано вытанцоўвае моладзь!*
*Вусны абліжаш з вялікага голаду...*

*З кім ты раздзеліш спатканне і ростань?*
*Быць каралевай — таксама не проста.*

●

*Жанчына незнаёмая з партрэта*
*Мне асвятліла твар, нібы агнём,*
*І я на ўсё забыўся быў праз гэта,*
*Не знаў спакою вечарам і днём.*
*Хацелася прастору, вышыні,*
*Хацелася ляцець на край сусвету...*
*І я малію: у вочы зазірні,*
*Жанчына незнаёмая з партрэта...*

### Сумны восеньскі трыпціх

1.

*Мар маіх парваная струна*
*Адзвінела тонка й незваротна.*
*Нас раздзеліць чорная сцяна,*
*І заснеш ты млява і маркотна.*

*Застануцца толькі на гады*
*Для цябе напісаныя вершы,*
*Несустрэч азяблыя сляды*
*І твае ўначы "аравідэрчы"**

2.

*Яшчэ адна парвалася струна.*
*Ну, што ж, цяпер бывай, мая гітара.*
*Мой сум ты не раздзеліш даўдна,*
*Мае ўначы не разгайдаеш мары.*

*Віноўны сам. Спагады не прашу.*
*Напэўна, быў няздатны я музыка.*
*Акно завешу, вершам сагграшу*
*І на святыя памалюся зыкі.*

*Пайду адзін па золкіх туманах*
*Туды, дзе срэбрам зімавее восень,*
*Дзе спеў мой ціхі росіца ў палях*
*І позняй птушкай просіцца ў нябёсы.*

3.

*Падбяры мне песню, падбяры*
*Тую, што яшчэ не адспявана.*
*Нам з табою, што ні гавары,*
*Разам быць яшчэ наканавана.*

*Падбяры мне песню, я прашу,*
*Падбяры такую, як ты хочаш.*
*Хай яна сагрэе мне душу,*
*Раскалыша думы апаўночы.*

*Хай яна ліецца праз акно*
*У вышынь, дзе зорная завея.*
*Моўчкі п'ю гарбату, як віно,*
*І не разумею, што п'янею...*

*Падбяры мне песню, падбяры*
*Тую, што яшчэ не адспявана.*
*Нам з табою, што ні гавары,*
*Разам быць яшчэ наканавана.*

*Да пабачэння! (італ.)

ПРОЗА

Вера ЛОЙКА

# ХЛЕБ СВЕЖЫ І ХЛЕБ ЧЭРСТВЫ



ЁН НІКОМУ НЕ КАЗАЎ, што амаль не спіць па начах. Бо калі б хто пра гэта ведаў, падумаў бы — "пакуты сумлення", але ж сам ён у гэтае глупства не верыў. Ну не мог ён такога ўявіць: нібыта чалавек зрабіў учынак, які прынясе яму пэўную выгаду, і шкадуе аб тым. У жыцці ён такога не сустракаў, а таму, што пісалася ў кніжках, зусім не верыў. Дый той, хто пісаў, наўрад ці верыў сам сабе. Выдумляў. Або быў дзіваком, вось як той самы Сяргей, з-за якога ён і не спаў ужо колькі начэй. Бо як ні круці, кожны скажа, што ён прадаў свайго сябра. А гэта ж зусім не так! Па-першае, ну які яму Сяргей сябар? Так, вучыліся ў адной групе на факультэце журналістыкі, бавілі разам час, гасцяваў ён і ў Сяргея дома, і ў кампаніях ягоных гарадскіх сяброў. Ну дык што з таго? У душу ніхто з іх другога не пускаў. Ён так і не зразумеў, навошта Сяргей пайшоў працаваць у нейкую несур'ёзную, недзяржаўную, больш за тое — апазіцыйную! — газету, навошта пісаў вострыя артыкулы пра сённяшнюю ўладу, а цяпер во яшчэ і ў турму трапіў пасля нейкага "геройства" падчас мітынгу. Ну не можа чалавек нешта рабіць на шкоду сабе самому, калі гэта не п'янь апошняя. Але ж Сяргей такім не быў. Ён лічыўся самым таленавітым студэнтам на курсе, усе сесіі здаваў лёгка, амаль не зазіраючы ў падручнікі, ведаў столькі розных рэчаў, пра якія Косця й не чуў ніколі. Яму ўсё лёгка давалася — і вучоба, і... І самая лепшая дзяўчына на курсе, Марына Грынкевіч, выбрала яго. Уласна кажучы, Косця ёй нічога не прапаноўваў, так што выбіраць і не прыйшлося. Ды і што ён мог прапанаваць — размеркаванне ў яго забыты Богам раённы цэнтр, у мясцовую газету, прыватны пакойчык у драўляным доме без выгод, кватэрную чаргу гадоў на пятнаццаць, выхадныя дні і адпачынкі на градах у матчыным гародзе? Яна не для гэтага. Яна якраз для Сяргея, для ягонай чатырохпакаёўкі ў цэнтры горада, для ягоных інтэлігентных бацькоў, што ніколі не ўлазяць у справы сына, а тым больш у яго асабістае жыццё, але ж ніколі не адмовяць у матэрыяльнай падтрымцы. За Сяргеем яе чакае такая будучыня, пра якую Косця і марыць не мог. Таму Марына ніколі і не даведаецца, што ён яе кахаў.

Не, сябрамі з Сяргеем яны не былі, хоць і лічыліся. Але на гэта яму напляваць, хто там як лічыць! У яго, калі быць шчырым, наогул сяброў няма, ды і не было ніколі. А каго лічыць сябрамі, колішніх аднакласнікаў, ці што? Палова з іх цяпер у калгасе, хто на трактары, хто на машыне, другая палова па гарадах — на заводах ды будоўлях. Калі ні сустракаў Косця тых аднакласнікаў, бачыў у іхніх вачах нездаровы бляск, нясвежыя, абы-як паголеныя твары, неадпрасаванае адзенне, і не сумняваўся, — п'юць. Цягнулі напрыканцы выхадных да аўтобуса торбы, напакаваныя вясковым харчам, за імі пляліся растаўсцелыя жонкі з аднолькавымі, нібы ў блізнят, хімічнымі завіўкамі ды такімі ж торбамі, толькі крыху меншымі і лягчэйшымі. І ён, калі здаралася ехаць тым жа аўтобусам, спрабаваў уявіць сярод іх Марыну з пластмасавым вядром парэчак, абвязаным марляй, — нешта больш цяжкое ён і ў фантазіях сваіх ёй у рукі не даў бы. Спрабаваў уявіць, але нічога не выходзіла: не магло тут быць Марыны. А раз не магло, то й не будзе ніколі.

Не, такіх сяброў Косця таксама не хацеў. З імі трэба было піць таннае віно, расказваць старыя абрыдлыя анекдоты, хваліцца сваімі ўяўнымі поспехамі ў жанчын... Гэтага ён не любіў. Уласна кажучы, ён не любіў і кіслага сухача, што пілі ў Сяргеевай кампаніі, размоў пра беларускую гісторыю ды пра літаратуру, якой ён зусім не ведаў. Ну так, тое, што вучылі ў школе і універсітэце, і то многіх твораў не чытаў, не было ахвоты, абыходзіўся падручнікамі. Яны ж называлі імёны, якіх Косця ніколі не чуў і не ведаў, дзе, у якой краіне жылі ці жывуць такія пісьменнікі, якія творы яны напісалі. Ён слухаў, слухаў і пачынаў ціха ненавідзець гэтых хлопцаў, што перачыталі, здаецца, усе на свеце кніжкі. Дзіва што! Ім жа не трэба было ўлетку сушыць сена, палоць бульбу ды буракі, паліваць агарод, пасвіць кароў... А ўзімку... Узімку часу хапала. Толькі хто і дзе, скажыце, бачыў у вясковай бібліятэцы хоць адну з тых кніжак, пра якія яны балбаталі? Уласна кажучы, Косця і ва універсітэцкай бібліятэцы тых кніжак не заўважаў. Чорт яго ведае, дзе яны іх бралі!

Калі быць праўдзівым, то ён іх проста ненавідзеў. Бо зайздросціў. Ён зайздросціў таму, што яны мелі і чаго ў яго, Косці, не было і, пэўна, ніколі не будзе. А чаму? Ну чым яны лепшыя? Чаму пасля заняткаў яны ідуць дадому, у свае ўтульныя кватэры, дзе іх чакае абед, альбо штосьці смачнае ў халадзільніку? А ён, Косця, калі ёсць грошы, пасля заняткаў бяжыць у сталоўку. Толькі пасля таго абеду надта ж хутка ізноў хочацца есці. Можна, вядома, у інтэрнаце падсмажыць бульбу, толькі на пах той смажанай бульбы збяжыцца столькі ахвотнікаў, што самому нічога не дастанецца. У горадзе Косця заўсёды адчуваў голад. Наядаўся ён толькі дома, у вёсцы. Еў, еў як не ў сябе, ажно ў маці выціскалася з вачэй сляза. "Сынок, — казала яна, — можа, ты сала мала бярэш, можа, бульбы большую торбу браў бы. Агаладаў як..." Ці ж растлумачыш маці, што ў інтэрнаце хлопцы не надта лічыліся з тым, чыё гэта сала. І калі бульбу абіраць ды смажыць ленаваліся, то з салам управіцца дапамагалі хутка. Косця ўжо спрабаваў есці тое сала ў цемры, калі клаўся спаць. Ён чакаў, калі хлопцы пазасынаюць, пасля нацягваў на галаву коўдру і даставаў з-пад падушкі загадзя падрыхтаваную лусту хлеба з жаўтаватымі скрылікамі. Хутка ён звык да такой вячэры і ўжо не мог заснуць, калі не ўдавалася прыгатаваць сабе лусту пад падушкай. Напэўна, суседзі таксама былі не надта сытымі і спалі дрэнна, а таму нешта ўнюхалі. Уранку Косця сустракаў іх дзіўныя, гідлівыя позіркі, і зразумеў, што яго запеленгавалі. Але ж засынаць галодным ён ужо не мог, таму вячэра пад коўдрай зрабілася заўсёднай. Ён стаў трымацца ўбаку ад інтэрнацкіх хлопцаў — і гэта падштурхнула да гарадскіх. Вось якраз да Сяргея. Бываючы ў яго доме, Косця пільна прыглядаўся да рэчаў у кватэры, да кніг на паліцах, да пачастункаў, што прыносіла Сяргеева маці. Усё было чужое і незразумелае. Больш за ўсё яго здзіўляла звычка Сяргеевых сямейнікаў есці не свежы, мяккі хлеб, якога заўсёды хапала ў сталічных крамах, а падсмажаныя лустачкі з якой-небудзь драбязой зверху — скрылікам сыру, маленечкай шпроцінай, кавалачкам памідорыны. А то яшчэ во — аднойчы ўзяў у рот сінюю, прывабную на выгляд ягадзіну і праз сілу праглынуў, такой салёнай і агіднай яна была на смак. Праглынуў толькі таму, што няёмка было выплюнуць. Не, Косця лепш скібку свежага батона з маслам і добрым кавалкам "доктарскай" зверху з'еў бы. А мо яны сапраўдную ежу таксама пад коўдрай спажываюць, з горыччу думаў ён па дарозе ў свой інтэрнат.

У іх вясковую краму хлеб прывозілі двух гатункаў: зусім чэрствы і адносна свежы. Чэрствы выкладваўся на паліцы, свежы хаваўся пад прылавак. І ўсе пакупнікі дзяліліся прадаўшчыцай Зінай таксама на два гатункі. Адны бралі хлеб з паліцы, другім ён падаваўся з-пад прылаўка. Вядома ж, яго маці, бедная вясковая ўдава, купляла чарсцвейшы. Ніхто ніколі не спрачаўся з гэтай завядзёнкай, як быццам так і павінна быць. Тыя, хто маглі б паспрачацца, атрымлівалі хлеб свежы — прадаўшчыца сваю справу ведала. О, як ён ненавідзеў яе, калі маці прыносіла ў хату чэрствыя боханы. Ён нават у журналістыку трапіў з-за таго хлеба. Класе ў восьмым было гэта. Напісаў пра хлеб і прадаўшчыцу допіс ды адаслаў у раённую газету. Праз нейкі час прыйшоў ліст, у якім яго запрашалі зайсці ў рэдакцыю. Якраз былі зімовыя канікулы, і ён на наступны ж дзень паехаў у райцэнтр. Думалася, што ў рэдакцыі пахваляць за пільнасць, паабяцаюць надрукаваць ягоны допіс ды разабрацца з іхняй прадаўшчыцай. Але нейкі невялічкі лысаваты чалавек сярэдняга веку доўга і нудна бубніў яму пра тое, што вакол кіпіць цікавае разнастайнае жыццё, людзі, не шкадуючы сіл, працуюць дзеля дабрабыту Радзімы, і ўменне бачыць гэта адрознівае чалавека творчага ад усіх астатніх, так што пісаць трэба пра здзяйсненні, інакш не станеш сапраўдным прафесіяналам... Косця не разумеў, чаго ад яго хочуць. Ён пакуль што не збіраўся быць сапраўдным прафесіяналам. Ён толькі хацеў, каб яго маці магла купляць у краме добры хлеб. Нясмела ён сказаў пра гэта лысаватаму. Той раздражнёна паморшчыўся:

— Ну што ты мне пра дробязі? Вунь крама праз два будынкі. Ідзі і купі сабе якога хочаш хлеба. А нам напішы, напрыклад... ага, вось, як у вашым калгасе тэхніку да вясны рыхтуюць, да пасяўной. Гэта ўсім будзе цікава. А мы табе ганарар заплацім, не толькі на хлеб хопіць. Пісаць ты можаш, вось і пішы. Глядзіш, журналістам станеш.

Лысаваты зноў паморшчыўся, пазяхнуў, прыкрыўшы рот рукой, але Косця ўнюхаў перагар і зразумеў, што той проста блага пачуваецца пасля ўчарашняга і хоча як найхутчэй выправіць гэтага вясковага назолу прэч ды пайсці "палячыцца". Ён развітаўся, пайшоў у краму, купіў тры боханы свежага хлеба і, счакаўшы тры гадзіны на прамерзлай аўтастанцыі, паехаў дадому.

Назаўтра ён пайшоў у рамонтныя майстэрні, паблытаўся там з гадзіну, паназіраў, як дзядзькі забіваюць казла ў "чырвоным кутку", ды напісаў новую заметку ў райгазету. Пра тое, што ў калгасе "Шлях да камунізму" з пяці сеялак адрамантаваны тры, чытаць было, мусіць, усім цікава, таму допіс надрукавалі, а Косцю паштальёнка прынесла ганарар — два рублі. Потым ён пісаў пра пасяўную, потым — пра сенакос, пра ўборку бульбы... Вось так і апынуўся на факультэце журналістыкі з рэкамендацыяй раённай газеты.

Чаму на размеркаванні яму прапанавалі вялікую рэспубліканскую газету з інтэрнатам і прапіскай, Косця доўга не мог зразумець. Ды ён пра гэта і не задумваўся, успрымаў як шчасце, што ўпала на галаву проста з неба. Ён не лічыўся асабліва здольным і перспектыўным студэнтам, таму на гэтае месца было каму прэтэндаваць. Ды вось дзіва, ніхто з лепшых выпускнікоў не рваўся ў тую газету, ды ім і не прапаноўвалі. Гэта ўжо шмат пазней, папрацаваўшы ды добра ўведаўшы калектыў і асабліва галоўнага рэдактар Сымона Пятровіча, ён зразумеў, што слабы журналіст, які з цяжкасцю адшукваў словы для найпрасцейшых матэрыялаў, падбіраў на працу тых, хто не перавышаў яго ўзровень, каб не цэлілі на месца галоўнага, ды не падседжвалі. Пэўна, і яго самога на пасаду нехта прапанаваў, кіруючыся тым жа прынцыпам. Галоўнага ў рэдакцыі не любілі, пабойваліся, бо быў ён злапамятным і помслівым. Косцю цікава было назіраць за гэтым чалавекам, таму што яны былі амаль землякі — з суседніх раёнаў. Едучы дадому аўтобусам, ён мінаў вёску, дзе нарадзіўся ягоны шэф. Вёска была занядбаная і малалюдная, рэдка хто там выходзіў з аўтобуса ці садзіўся ў яго. Косця ўяўляў, як гадоў дваццаць пяць таму Сымон Пятровіч, тады яшчэ малады хлопец, марыў вырвацца з яе, жыць у горадзе, не горш за іншых, мець сваю кватэру, добрую працу, машыну, дачу... Пэўна, не так проста ўсё гэта яму далося. Ніякімі асаблівымі талентамі той не вылучаўся. Але была ў яго адна якасць, што дапамагала ў змаганні за месца пад сонцам. Сымон Пятровіч ніколі не зважаў на грамадскую думку. Ён і не саромеўся гэтага, нават на планёрцы аднойчы заявіў: "Я не ведаю, што гэта такое — прыстойнасць". Не сказаць, каб у рэдакцыі працавалі такія ўжо строгія маралісты, калектыў жа падбіраў сам галоўны, але ўсім стала ніякавата. А той працягваў: "Я ведаю слова — выгадна. Хто плаціць — на таго і працуем". Косця ўвогуле згодны быў з гэтым. Ён сам атрымаў гарадскую прапіску, месца ў добраўпарадкаваным інтэрнаце, яго паставілі ў чаргу на атрыманне кватэры, ну, ясная справа, што ён павінен гэта адпрацаваць. А як жа іначай? Нельга сказаць, каб яму даспадобы было тое, пра што даводзілася пісаць. Галоўны ставіў задачу канкрэтна, ухіліцца нельга было ні ўправа, ні ўлева. Словы можаш ужываць свае, але думка павінна быць правільная. Сяргей, пачытаўшы першыя Косцевы матэрыялы, сказаў: "Ты ведаеш, для цябе лепш было б кінуць гэтую працу". Бач, разумны які знайшоўся! Газету, у якой працаваў Косця, чыталі па ўсёй рэспубліцы, у тым ліку і ў ягонай вёсцы, і як толькі там з'явіліся матэрыялы за яго прозвішчам, маці стала атрымліваць хлеб з-пад прылаўка — свежы! А ён кажа — кінуць! Вядома, самому Сяргею, які не меў такіх матэрыяльных праблем, як Косця, можна было рабіць тое, што больш даспадобы. Калі-небудзь, калі ў Косці будзе ўсё неабходнае для жыцця, ён, магчыма, таксама зоймецца толькі тым, што па душы. Верылася ў гэта, аднак, не вельмі. Вось іх галоўны... Напэўна, некалі галодным і бедным студэнтам ён паставіў сабе мэту набыць усё, што мелі ягоныя больш удачлівыя равеснікі. Ну, дык і набыў жа. Але нешта не відно, каб гэта яго ашчаслівіла. Нібы чарвяк тачыў чалавека знутры, у вачах заўсёды гарэў агеньчык нейкай трывогі і нават зайздрасці. Ну чаго яму не хапае? Аднойчы галоўны прынёс рэдакцыйным машыністкам старую выразку з газеты "Літаратура і мастацтва", дзе былі надрукаваны яго студэнцкія вершы, і папрасіў перадрукаваць ажно ў трох экземплярах. Дзяўчаты пасмейваліся: ці не сабраўся іх рэдактар апублікаваць яшчэ раз тыя напаўдзіцячыя вершыкі, бо навошта ж іх было перадрукоўваць? Уся рэдакцыя смяялася з гэтага дзівацтва. А Косця зразумеў: таму вельмі захацелася паказаць, што ён таксама нечага варты і зусім не такі прымітыўны чалавек, як нехта там думае, хутчэй нават творчы, вось і ў такой паважанай літаратурнай газеце яго друкавалі... Выглядала гэта неяк бездапаможна, па-дзіцячы. Значыць, і дагэтуль не адчувае Сымон Пятровіч, што стаў роўным з тымі, за кім некалі цягнуўся. Значыць, не дае супакаення ні вялікая кватэра, ні пасада, ні машына, ні грошы... Нешта ў ім заўсёды будзе вытыркацца, як той фікус у ягоным кабінеце. Кабінет быў шыкоўны, з імпартнай офіснай мэбляй, з радыётэлефонам. А фікус быў усаджаны ў звычайную пластмасавую сметніцу. Пад кожным рэдакцыйным сталом такія стаялі — блакітныя, зялёныя, чырвоныя. Ну, пад сталамі то яны былі на месцы, а вось на імпартнай бліскучай тумбе ў кабінеце галоўнага рэдактара... Дзіўна было, як гэта ніхто не падказаў Сымону Пятровічу, што гэтая сметніца псуе выгляд кабінета і шкодзіць іміджу гаспадара. Ці то баяліся пакрыўдзіць ды раззлаваць начальніка, ці то атрымлівалі патаемнае помслівае задавальненне ад відочнага сведчання ягонага дрэннага густу.

У інтэрнацкім пакойчыку Косця жыў адзін, і есці сала можна было ўжо не пад коўдрай, а за сталом. І не толькі сала. Але ён, хоць і атрымліваў добры заробак і ганарары, прысмакаў не купляў, грошай не траціў, абыходзіўся па-ранейшаму матчынымі харчамі. А на зарплату Косця купляў долары — трэба было збіраць грошы на ўласную кватэру. Тут і паўстала праблема — дзе захоўваць тыя долары? Банкам — ні дзяржаўным, ні камерцыйным — Косця не давяраў. У маці? Хто ведае, які чалавек завітае ў крайні ад лесу дом, дзе жыве адзінокая старая жанчына. Цяпер такіх выпадкаў колькі хочаш. У інтэрнаце трымаць грошы таксама небяспечна. Ну, не насіць жа іх з сабой! Трэба было нешта прыдумаць. І ён прыдумаў. З'ездзіў да колішняга аднакласніка, што працаваў на заводзе, і той за дзве пляшкі зварыў яму металічную скрыначку з накрыўкай, накшталт шкатулкі. Гэтая скрынка і мусіла служыць Косцю сейфам. А што? Ніякая мыш не прагрызе. Пра мыш ён падумаў таму, што, апроч як пад падлогай, хаваць скрынку не было дзе. І ён, замкнуўшы дзверы і заклеіўшы замочную

(Працяг на стар. 12)

ЧАСАПІС

## Адным словам — "Валачобнікі"!



**Беларускі універсітэт культуры мае ў сваім арсенале шэраг творчых калектываў, якія працуюць на роднай песеннай ніве, і кожны з фальклорных гуртоў імкнецца да непаўторнасці. Багаты песенна-танцавальны набытак прыдбаў за дваццацігадовы час сваёй дзейнасці фальклорны вакальна-харэаграфічны ансамбль "Валачобнікі", заснавальнік і нязменны кіраўнік якога — *заслужаны работнік культуры Беларусі*, прафесар Станіслаў Дробыш.**

**Біяграфія калектыву пачалася ў 1979 годзе, калі група энтузіястаў — студэнтаў і выкладчыкаў кафедры харавога дырыжыравання — аб'ядналася ў гурт. І з таго часу — заўсёдны пошук новай вандроўкі з песнямі-пажаданнямі і па новыя знаходкі ў каляндарна-абрадавай і народнапаэтычнай спадчыне беларусаў.**

**Адным словам — "Валачобнікі". Са штогадовых фальклорных экспедыцый яны прывозяць новыя песні, апрацоўваючы іх, папаўняюць свой рэпертуар. Мудрасць і духоўнае багацце беларускага народа, адлюстраваныя ў песнях, танцах, забавах і гульнях, своечасова зафіксаваныя, далі магчымасць стаць ансамблю сапраўдным майстэрням па вывучэнні і прапагандзе беларускага фальклору.**

**Маюць сёння "Валачобнікі" вялікі канцэртны багаж: больш як сорак канцэртных праграм, больш як тысяча канцэртаў, якія паказаліся, відаць, па ўсёй Беларусі. Удалося "Валачобнікам" заваяваць сэрцы многіх слухачоў і за межамі Беларусі — у Польшчы, Германіі, Іспаніі, Францыі, Злучаных Штатах Амерыкі, на Украіне, у Малдове, Эстоніі і Расіі.**

**Сёлетні год, так ужо склалася, стаў юбілейным як для "Валачобнікаў", так і для іх кіраўніка Станіслава Дробыша. З нагоды 20-гадовай дзейнасці "Валачобнікі" вылучаныя на атрыманне прафсаюзнай прэміі, а Станіслаў Іосіфавіч да свайго 60-годдзя за дасягненні ў галіне культуры і мастацтва атрымаў спецыяльную прэмію Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 1998 г.**

**Станіслаў Дробыш — адзін з найдасведчаных спецыялістаў у галіне беларускай народнапесеннай творчасці, ва універсітэце культуры вядзе клас народна-выканаўчага майстэрства, методыку працы з фальклорным гуртом, методыку сольных спеваў, дырыжыраванне, кіруе педагагічнай практыкай студэнтаў. Ён выхаваў цэлую плеяду вучняў і паслядоўнікаў, якія працуюць цяпер кіраўнікамі творчых калектываў са званнямі "народны", артыстамі прафесійных калектываў, маюць высокае званне "заслужаны артыст". Сярод іх, напрыклад, добра вядомыя Валянціна Пархоменка, Ганна Радзько, Валерый Дайнека; Валянціна Гладкая (ансамбль "Неруш"), Надзея Мікша ("Радзімічы"), Іван Кірчук ("Троіца"), Святлана Багатырэўская ("Гоміў"), Аляксандр і Зоя Лойкі ("Гараднічы"). А колькі артыстаў Акадэмічнага *народнага хору імя Г. Цітовіча* прайшлі клас майстэрства ў Станіслава Дробыша! Паклапаціўся ён і пра падрыхтоўку маладых творчых кадраў для сваёй кафедры.**

**Плён працы Станіслава Дробыша высока адзначаўся на розных рэспубліканскіх і міжнародных фальклорных фестывалях: "Беларусь — мая песня", "Арт-сесія", "Студэнцкая вясна", "Пернік-98", "Пеўчая Акадэмія-98", дзе заўсёды былі *прадстаўлены новыя цікавыя знаходкі* калектыву, як у галіне аўтэнтычнага фальклору, так і ў яго таленавітых апрацоўках і прафесійным выкананні.**

**Штогадовыя справаздачы кафедры народнапесеннай творчасці — гэта сапраўдныя гарадскія святы! Зрабіліся традыцыяй паездкі ансамбля на Гомельшчыну з канцэртнымі праграмамі, якія ўключаюць фрагменты беларускіх абрадаў, паданні, народныя песні. Калектыў імкнецца пабываць у самых аддаленых вёсках і вёсачках, і застаецца цяпло ўспамінаў, добрыя водгукі тых людзей, якім прысвячалася канцэртная праграма.**

**І якія ж святы ва універсітэце культуры без "Валачобнікаў" і Дробыша! Творчая атмасфера на кафедры, як зазначаюць яго калегі, — таксама заслуга Станіслава Іосіфавіча.**

**Станіслаў Дробыш і "Валачобнікі" падрыхтавалі новую святочную праграму, якая 20 красавіка была з поспехам паказана ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі.**

**Л. Д.**

МУЗЫКА

***На XIX Міжнародным фестывалі сучаснага фальклору, праведзеным летась у Славеніі, "Троіца" не мела роўных сабе. Той год наогул складваўся для маладога беларускага музычнага гурта вельмі ўдала: захапляючы творчыя вандроўкі, прэстыжныя фестывалі ў Босніі ды Герцагавіне, Венгрыі, Галандыі, Германіі, Партугаліі. У Галандыі выпусцілі свой першы CD. Запрашэнне выступіць у гала-канцэрце майстроў мастацтваў Беларусі на "Славянскім базары" засведчыла афіцыйнае прызнанне гэтых таленавітых "фальклорных нефармалаў", якія адмыслова стылізуюць крэўную аўтэнтыку ў кантэксце набыткаў джаза, рок-культуры і папулярных сёння плыняў у так званай маладзёжнай музыцы.***

***Ды вось нядаўна ў эфіры, у друку распаўсюдзілася навіна: развалілася, маўляў, "Троіца", распалася.***

***Як жа так: пасля ўсяго?! Пасля таго, як музыканты запэўнілі публіку, што сышліся на роўных і — надоўга?..***

**маленькая арфа ды гітара..."**

Якая ў нас магутная боязь парушыць устойлівыя каноны, вызначаныя артадаксальнай навукай! Ёсць устойлівы пласт народна-інструменальнай і песеннай культуры, які захоўваецца і жыве паводле сваіх правілаў. Чаму ж не мае права на аўтаномію творчы эксперымент, праз які ладкуецца тонкая сувязь нашых маладых сучаснікаў з духоўным скарбам і эстэтычным досведам продкаў? Хіба сам народ цураўся пошукаў, хіба не любіў імправізаваць і выдумляць штосьці новае, калі выштукоўваў музыку з прыладаў звыклай сялянскай працы, калі "пазычаў" прышлыя, чужаземныя інструменты і рабіў іх сваімі, беларускімі? Ці ж не так было калісьці з цымбаламі, гармонікам, скрыпкай?..

# "Троіца": працяг будзе!

## ПАРТРЭТ НА ФОНЕ ПРАБЛЕМ

Яны й сапраўды працавалі на роўных, без фармальнага мастацкага кіраўніка. Але публіка міжволі вызначала лідэра, чыя вельмі ўжо неардынарная, каларытная постаць успрымалася нават як візітоўка "Троіцы". Гэта — Іван Кірчук, вакаліст, мультыінструменталіст, сталы музыкант з немалым жыццёвым, канцэртным, арганізатарскім, педагагічным і навуковым досведам (тры гады аспірантуры ў Акадэміі навук).

У Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце, дзе сёння выкладае Іван Кірчук (кафедра этналогіі і фалькларыстыкі), ёсць запаветныя дзверы з шыльдаю "Лабараторыя фальклору". Усё яе начынне — уласнасць Івана Кірчука.

Тут і вырабленыя беларускімі майстрамі або прыдбаныя ў замежных крамах інструменты — удзельнікі карнавальных музычных рытуалаў "Троіцы". Акарыны, гуслі, цытра, жалейкі, смык; падобныя да старадаўніх дыятанічных цымбалаў начоўкі з нацягнутымі струнамі; домры, мандаліна... Вялізнае сямейства! Тут і набытыя ў вяскоўцаў шэдэўры пляцення, народнага ткацтва; дыхтоўныя сялянскія куфры, у якіх захоўваецца экспанаты *унікальнага прыватнага этнаграфічнага* музея Кірчука. Тут, вядома, і неацэнная песенная аўдыёкалекцыя — запісы аўтэнтычнага фальклору, зробленыя Кірчуком падчас вандровак па Беларусі. Тут праходзяць яго заняткі са студэнтамі, рэпетыцыі...

Трапіўшы сюды, я нібы адчула духоўныя вытокі "Троіцы". А заадно і зразумела, што выпадкова такія захопленні чалавека не апаноўваюць. Гэта ўжо лад жыцця.

●

"Музычныя гены"... Цяжка сказаць, ад каго яны перадаліся. Нарадзіўся Іван Кірчук у Лідзе. Маці на заводзе працавала, бацька — інжынерам на будоўлі. Абое спявалі ў каталіцкім храме, так што сын з маленства чуў касцельную музыку. А наогул музыка жыла ў іх радні. Два дзяды-млынары, Томаш ды Казімір, мелі вялікія сем'і: па чатырнаццаць дзяцей! Ніводнае застолле на Гарадзеншчыне без песень не абыходзілася, *і памятае Іван, што спявалі ў гэтых радзінных* бяседах захоплена і гожа. А вось дзве малодшыя сястры, як падгадваліся да школьнага ўзросту, пачалі яго нерваваць: адна вучылася на баяне, другая на акардэоне — гралі, гралі свае гамы... Музыка ўжо выклікала ў яго нянавісць, хацелася кінуцца да дзядзькі ў Рыгу, пайсці ў мора, паглядзець шмат краін.

Жаданне, можна сказаць, пачало спраўджвацца пазней і вельмі адмыслова, калі ён знайшоў сваё "музычнае мора" і дзякуючы творчым вандраванням паспеў пабачыць нямала розных краін. Але колькі да гэтага давялося перажыць!

Школу незалюбіў з-за дакладных навук. Што падабалася? Спевы. Таму калі ў Лідзе адкрылі музычнае вучылішча, паступіў туды. Асвоіў "клавішы", граў на танцах у парку, спрабаваў пісаць уласныя кампазіцыі на санеты Шэкспіра, вершы Байрана, Гётэ... Творчы густ фарміраваўся пад уплывам здабытых "з-пад крыса" запісаў англамоўных заходніх груп, польскіх ды венгерскіх ансамбляў, расійскага "Арыэля" ды родных малодых "Песняроў".

Скончыліся гады навучання, давялося ісці ў войска. Думаў пра службу ў якой-небудзь *"музычнай камандзе"*, а трапіў... на будаўніцтва БАМа! Лес звальваў, сцены новага горада ўзводзіў. На два гады быў адлучаны ад музыкі, калі не лічыць эпізадычнага ўдзелу ў самадзейных ВІА.

Стаміўся ў арміі. Захацелася прафесійна займацца музыкай. Маэстра Віктар Роўда ведаў Івана яшчэ як навучэнца Лідскага музычнага вучылішча і рэкамендаваў паступаць у кансерваторыю — на харавое дырыжыраванне. А той раптам адчуў нязўпэўненасць у сабе: *пасля арміі наўрад ці можна* канкураваць з выпускнікамі школы-адзінаццацігодкі пры кансерваторыі. Параіўся са сваім першым педагогам, Святланай Фёдараўнай Войцік, якая працавала ўжо ў Мінску, у тагачасным інстытуце культуры, і настойліва прапаноўвала ісці ў маладую ВНУ, на нядаўна адкрытае аддзяленне народных спеваў.

Паслухаўшы, як галёкаюць хорам зычнагалосыя паненкі, Іван ледзь не адмовіўся ад намеру паступаць: "Не маё!". А пазнаёміўшыся з наватарскай на той час працай Станіслава Дробыша і ягоных "Валачобнікаў", пачаў рыхтавацца да экзаменаў.

●

Займаючыся на аддзяленні народных спеваў, "употай" наведваў клас акадэмічнага вакалу. Для сябе. Праз пару гадоў перавёўся на завочнае навучанне. Дырэктар колішняга культасветнага, потым вучылішча мастацтваў, У. Таран запрасіў Кірчука да сябе на працу намеснікам. Апроч гаспадарчых клопатаў займеў ён тут і настаўніцкі чын: выкладаў пастаноўку голасу. З павагай успамінаючы тое, што зрабіў і робіць у галіне беларускай народна-песеннай культуры С. Дробыш, няўрымслівы І. Кірчук пачаў, як сам кажа, "малаціць сваё". Стварыў уласную партытуру, скарыстаўшы цымбалы, скрыпку, дудку, падабраў адпаведныя прыказкі-прымаўкі, дзяцей-навучэнцаў падрыхтаваў, — і атрымалася праграма "Свята ў вёсцы", якую тады ж, у 83-м, запісалі ў фонд радыё. Праз год зрабіў рэканструкцыю віцебскага вяселля, скарыстаўшы стылізаваны аўтэнтычны вакал. У вучылішчы ён прарабіў 15 гадоў, і штогод рыхтаваў з дзецьмі новыя праграмы. Да таго ж, *нейкі час працаваў намеснікам* дырэктара па навучальна-выхаваўчай рабоце ў Нацыянальным цэнтры творчасці дзяцей і юнацтва (былы Мінскі палац піянераў). Там займалася 80 выхаванцаў — ад маленькіх да падлеткаў...

Словам, з усімі сваімі шматлікімі вучнямі Іван Іванавіч і канцэрты ладзіў, і экспедыцыі, і фальклорныя імпрэзы, і паказы батлейкі, якую, дарэчы, аднавіў за ўласны кошт. Фальклорныя ансамблі "Прадвесне", "Дабрадзей", "Дзіва", студыя "Агнiцвет" — гэта ўсё ягоныя "дзеці". У атмасферы студыйнасці, жывой творчасці нарадзілася і "Троіца" — дэбютам якой можна лічыць выступленне ў агульнай праграме пад назваю "Калядны фэст". Нацыянальны цэнтр ладзіў яе ў студзені 97-га. Удзельнічалі і самыя маленькія, і дарослыя.

●

З таго часу да студзеня 99-га "Троіца" ў *складзе Івана Кірчука, Дзмітрыя Лук'янчыка ды Віталя Шклёнка* дала 120 канцэртаў, практычна ўсе — за мяжой, аб'ехаўшы больш за дзесятак краін. Асабліва прэстыжнымі былі выступленні на фестывалі "Mundial" у Галандыі, куды калектыў могуць запрасіць толькі аднойчы, і на "Экспо-98" у Партугаліі, дзе сабраліся прадстаўнікі 170 краін свету.

Ведаеце, чым тыя фестывалі ад традыцыйных нашых адрозніваюцца? Не толькі тым, што Беларусь не мае сёння грошай на годную іх арганізацыю, на тое, каб запрасіць і прыняць многіх цікавых гасцей. Прынцыповае адрозненне ў тым, што на еўрапейскіх міжнародных фэстах, у якіх удзельнічала "Троіца", не дзеляць прэміі, не раздаюць дыпломы і граматы.

**"Усё вызначае музыка, — гаворыць І. Кірчук. — І калі яна там "пайшла", значыць будуць купляць твае касеты і кампакт-дыскі. А як не маеш гэтай прадукцыі, дык будуць проста запрашаць на новыя канцэрты, імпрэзы, бо ты спадабаўся. Быў у нас канцэрт, пасля якога разышлося паўсотні дыскаў: гэта выдатна! А бывала, што і трох не купілі... Словам, музыканты выказваюць сябе, як умеюць, і атрымліваюць непасрэдную аб'ектыўную рэакцыю на тое, што робяць. Да таго ж, там іх не абмяжоўвае ніякая крытыка: чаму, маўляў, вы скарыстоўваеце такі інструмент, а не такі? Напрыклад, у складзе замежных ансамбляў трапляліся інструменты, якія, з нашага гледзішча, не спалучаюцца. Але ж людзі паспяхова эксперыментуюць, запісваюць праграмы — усё спалучаецца і гучыць! Памятаю польскі гурт: тры цытры плюс дудка. Ці галандскі: маленькая арфа ды гітара..."**



**"У мяне цяпер гучаць не толькі беларускія акарыны, але і галандская, італьянская: яны мне сваім тэмбрам падабаюцца, — удакладняе І. Кірчук. — А вось некаторыя беларускія жалейкі проста не магу выкарыстаць: не ўсе нашы народныя майстры працуюць на бездакорным якасным узроўні. Дык лепей прыдбаць добры інструмент у Германіі ў краме, дзе ён, дарэчы, і каштуе танней, чым у нашых майстроў. Дзіўныя цэны! У нас могуць прапанаваць жалейку за 35 доляраў, а там набыць можна за 12-30 марак, і фірмовую, якая будзе гучаць бездакорна. У аснове маёй працы музыка беларуская, але каб раскрыць дух першаасновы, важна атрымаць гук, тэмбр належнага ўзроўню, стварыць адпаведны настрой праз гучанне інструмента. Дзеля гэтага трэба шукаць, а не абмяжоўваць сябе штучнымі "табу"... Думаю, што ў мяне знойдуцца аднадумцы. Але дзе ім свае творчыя эксперыменты паказваць? І як паставяцца да іх тыя, хто меў прэтэнзіі да "Троіцы": маўляў, гэтак рабіць нельга?"**

Застаецца чакаць, калі Беларусь пабагацее і зможа наладзіць фестываль народнай творчасці з размахам, і знойдзецца на ім не апошні куток для альтэрнатыўнай музыкі, і можна будзе прыняць самабытных замежных гасцей так, як гэта робіцца, напрыклад, у суседняй Польшчы. Там, расказваў І. Кірчук, давялося пажыць у камфортных умовах аплачанага гаспадарамі гатэля тры дні, хаця канцэрт мелі толькі адзін; арганізатары забяспечылі харчаванне і т. зв. культурную праграму; на развітанне афіцыйна прэзентавалі аўдыёкасету і відэазапіс выступлення: успамінайце, як вы ў нас паказваліся...

●

Без прыстойнага фінансавання хіба забяспечыш высокі ўзровень фестывальнай культуры? А належны ўзровень навучання?

Па сумныя прыклады далёка хадзіць не трэба. Напэўна ж, стварэнне ў педагагічным універсітэце факультэта народнай культуры з кафедрай этналогіі і фальклорыстыкі, дзе працуе І. Кірчук, мела на мэце не проста прыцягненне да навучальнага працэсу добрых спецыялістаў, але і забеспячэнне гэтага працэсу належнай матэрыяльнай базай.

**"Нічога ў нас няма, — уздыхае гаспадар скарбаў, сабраных у "Лабараторыі фальклору". — Ніводнага інструмента! Хачу — вучу студэнтаў іграць на сваіх інструментах, калі перадумаю — занясу гэта ўсё дадому. Але ж і тэарэтычнае выкладанне мусіць быць падмацавана паказам, напрыклад, фальклорных запісаў. Зноў жа, на ўласных архіўных матэрыялах заняткі праводжу, і запісы свае, і магнітафон. А інакш як вучыць, як перадаваць тое, што ўмею і ведаю? Ну, сыйду я... Дык з чым, на чым і як будуць працаваць мае наступнікі? Трэба ж рыхтаваць кадры... Зрэшты, з аналагічнай праблемай сутык-**



## ЧАСАПІС

### У гістарычных мясцінах



Верхнядзвінскі раённы выканаўчы камітэт узнагародзіў пісьменніка Сяргея Панізніка Ганаровай граматай за дапамогу ў напісанні кнігі "Памяць", прысвечанай Верхнядзвінскаму раёну, актыўную работу па развіцці краязнаўства і стварэнне літаратурна-этнаграфічнага музея ў вёсцы Цінкаўцы. Уручэнне адбылося ў Бігосаўскім Доме культуры ў Міжнародны дзень помнікаў і гістарычных мясцін, дзе праходзіла сустрэча з пісьменнікам, прымеркаваная да 20-годдзя музея-сядзібы "На шляху з Грэкаў у Варагі".

Да віншаванняў дырэктара Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка Мікалая Ільніцкага, удзельнікаў тае паэтычна-музычнай вечарыны далучыліся і пажаданні поспехаў у творчай дзейнасці на карысць беларускага і латышскага народаў консула Латвійскай Рэспублікі ў Віцебску Арманда Крузэ.

А праз некалькі дзён, як лагічнае завяршэнне культурніцкай падзеі, прыйшло паведамленне, што пастановай Калегіі ўпраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама музею-сядзібе на беразе Дзвіны нададзена званне народнага.

*На здымку: падчас сустрэчы.*

*Тэкст і фота Валерыя ІВАНОВА*

*г. Верхнядзвінск*

### "Полымя", N 3

"Псальмы Давідавы" — падборка вершаў Р. Барадуліна. Змешчаны аповесць М. Парахневіча "Кватэра", вершы В. Шніпа, "Казка пра залатога пеўніка" А. Пушкіна ў перакладзе В. Зуёнка. "Жанчына. Радзіма. Будучыня" — пад такім дэвізам прапануецца падборка публіцыстыкі, прозы і паэзіі аўтараў-жанчын. Уступнае слова "Наш выбар — жыццё" напісала прэзідэнт Усебеларускага жаночага фонду святой Еўфрасінні Полацкай В. Коўтун. Л. Маракоў выступае з артыкулам "Жыццёвы і творчы шлях Валерыя Маракова". А. Марціновіч ("Душой народжанае слова") разглядае творчасць Е. Лось. Драматургія А. Дзялендзіка — у полі зроку З. Мамачкіна ("Сярод сейбітаў дабра"). Д. Бугаёў аналізуе кнігу В. Ластоўскага "Выбраныя творы", што выйшла ў "Беларускім кнігазборы" ("Доўгачаканая сустрэча").

### "Мастацтва", N 3

Працягваецца публікацыя даследавання У. Конана "Казімір Малевіч: філасофія і эстэтыка мадэрнізму". Гэтым разам прапаноўваецца шосты раздзел "Бог не скінуты: мастацтва, царква, фабрыка (1922)...". Е. Міровіч і беларускі тэатр — тэма выступлення А. Сабалеўскага "Здзейсненае". Змешчаны артыкулы І. Ладуцькі "Гульня ў камедыю" ("Сублімацыя кахання" Альда дэ Бенэдэці ў выкананні "Віртуозаў сцэны"), Т. Катовіч "Дзень і ноч у кампаніі загадкавай асобы" (спектакль "Марлен... Марлен..." Д. Мінчонка ў тэатры імя Я. Коласа), А. Давыдчыка "Дысцыпліна вока" (выстаўка фатаграфіі А. Булвы), Л. Вакар "Таямніцы унікальнай калекцыі" (з паездкі ў Польшчу), А. Лісава "Перадзвіжнікі і беларуска-літоўскі рэгіён", М. Загідулінай "Першанатхнёныя слаўным ліцвінам" (ілюстрацыі да твораў А. Міцкевіча мастакоў XIX ст.), Г. Ланеўскай "А дзеці малююць паэзію", Г. Багданавай "Маналог забытае скрыпкі" (пасляфестывальныя нататкі), А. Лакоткі "У пошуках вобраза будучыні" (рэтраспектыўныя рысы ў архітэктуры Беларусі канца XX стагоддзя) і іншыя. Ёсць рубрыкі "Дыскаграфія", "Падзеі, факты, інфармацыя".

### "Маладосць", N 3

Алег Салтук прадстаўляе маладую паэтэсу, настаўніцу па прафесіі Т. Бондараву. Друкуюцца таксама вершы М. Шавыркінай, І. Ляшкевіч, В. Буланды, Т. Барадзёнак, Т. Пяркоўскай, С. Роўды. М. Лужаніна, М. Мятліцкага. Змешчаны апавяданні Л. Дрожжы "Жаночая размова", "На хутары", "Госці", містычная аповесць А. Казлова "Дзеці ночы — служкі зла", працяг дэтэктыўнага рамана В. Праўдзіна "Вяртанне з апраметнай". Публіцыстыка прадстаўлена матэрыяламі У. Міхно "Мае сябры з "трэцяга пакалення", К. Ладуцькі "І ў нас свае назовы...", Л. Лапчынскай "Кошт мастацкага твора", Я. Сіпакоў выступае з эсэ "Вечны скарб", прысвечаным А. Пушкіну. "Кветкі журбы" — слова А. Петрушкевіч пра Л. Геніюш. Прапануюцца старонкі з кнігі-дзённіка А. Душачкіна-Клімава "Фантазіі", рэцэнзія А. Астраух на кнігу паэзіі В. Русілкі "Табе" ("Цяпло, патрэбнае ўвосень...").

ВІНШУЕМ!

# Жывое жыццё

## Віталю ГАЛАВАЧУ — 70

Нарадзіўся Віталь Цімафеевіч у горадзе Запарожжа (Украіна). Перад вайной сям'я жыла ў Бабруйску. Бацька, калі горад занялі фашысты, стаў членам мясцовага падполля. У 1942 годзе, калі ворагам удалося натрапіць на след змагароў, уцёк у партызаны, дзе праз год загінуў. Сям'ю яго гітлераўцы арыштавалі і пасадзілі за краты, але Віталю ўдалося з турмы ўцячы. Пасля вызвалення Бабруйска вучыўся ў мясцовым рамесным вучылішчы, а ў 1957—1962 гадах — на завочным аддзяленні факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў Мінскай спецыялізаванай школе-інтэрнаце N 13, у 1967—1979 гадах — у выдавецтвах "Беларусь", "Мастацкая літаратура".

Друкуецца з 1956 года. Спачатку выступаў на старонках бабруйскай газеты "Камуніст" з байкамі, вершамі, апавяданнямі, з'яўляўся членам літаратурнага аб'яднання. У 1973 годзе асобнай кнігай выйшла аповесць В. Галавача "Васёк — матроская душа", у якой расказваецца пра жыццё падлетка ў першыя месяцы вайны ў Бабруйску. Твор мае аўтабіяграфічны характар. Асобнымі кнігамі выйшлі і аповесці "Заўтра настане" (1987), "Арыядніна ніць" (1991). Апошняя — дэтэктыўная. Дзеянне адбываецца ў пасляваенны час, калі органы міліцыі выкрылі банду злачынцаў, якая дзейнічала на адным з прадпрыемстваў. В. Галавач запісаў успаміны народнага артыста СССР П. Малчанава, перакладае творы беларускіх пісьменнікаў на рускую мову.

З 70-годдзем, шаноўны Віталь Цімафеевіч! Нязменных вам поспехаў у жыцці і творчасці!

УГОДКІ

# Журавелька малады...

## ДА 95-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Паўлюка ТРУСА

Гэта яшчэ з маленства — маленства твайго і майго. Ды ў рэшце рэшт — з маленства кожнага, бо радкі гэтыя даўно сталі хрэстаматыйнымі:

***Падаюць сняжынкі —***
***дыяменты-росы,***
***Падаюць бялюткі***
***за маім акном...***

***Расчасалі вішні***
***шоўкавыя косы***
***І ўранілі долу***
***снегавы вянок.***

Гэта — і з маладосці. Маладосці беларускай літаратуры, якая так хораша заявіла пра сябе ў дваццатыя гады, шчодра закаласіўшыся новымі яркімі талентамі!

Сярод іх быў і Паўлюк Трус — сялянскі сын з вёскі Нізок, што на Уздзеншчыне. Уваходзіў ён у паэзію хутка, упэўнена. І таму, што валодаў немалымі задаткамі таленту. Аднак не ў меншай ступені і таму, што, як і яго аднагодкі, у тым ліку і сябры-таварышы па пяры, шчыра радаваўся новаму жыццю, якое прыйшло на Беларусь. Радаваўся адкрыта. Радаваўся ўпэўнена, бо хацелася верыць (і верылася!), што тое, аб чым марыцца, здзейсніцца.

А здзяйснялася нямала. І пра гэта ўсё хацелася сказаць, выліць думкі і пачуцці ў шчырыя, пранікнёныя радкі:

***— Добры дзень, аснежаныя прасторы,***
***Добры дзень, сталіца хараства!***
***Скора ў бляску вечара, ой скора***
***Празвініць па вуліцах трамвай.***
***І тады я стану пад гарою,***
***Каб пазбыцца смутку і журбы,***
***Буду слухаць песні Асінстрою,***
***Захаплюся музыкай турбін.***

З гэтай верай у будучыню Беларусі і пісалася П. Трусам паэма "Дзесяты падмурак". Пісалася ўжо тады, калі паэт быў добра вядомы ў чытацкіх колах. А яму ж споўнілася толькі дваццаць пяць! І ўсяго некалькі месяцаў заставалася да трагічнага дня 30 жніўня 1929 года, калі ён у трызненні — захварэў на тыф — зробіць свой апошні ўздых, каб пайсці ў вечнасць.

Як і многія, ён спяшаўся жыць. І як многія паэты, відаць, прадчуваў хуткую канчыну. Прынамсі, меркаваць так можна, учытваючыся ў радкі незавершанай паэмы "Сірата Алеся":

***Гады, гады. Чаму так рана***
***Вы адцвілі ў красе вясны?***
***Няўжо за тым, што мне на Яна***
***Перад люстэркамі з туману***
***Ўсплывалі вобразы труны?***

А жыць хацелася. І жыць умеў — радаваўся жыццю і хацеў радасці ад жыцця.

Тыя, хто сябраваў з П. Трусам, у прыватнасці Мікола Хведаровіч, сведчылі, наколькі разнасцежнай была яго душа: "Ён умеў захапляцца — здольнасць, якою валодае не кожны з паэтаў. Ён захапляўся сонечнымі вобліскамі, называючы іх усмешкай; вятры яго плачуць у дуброве параненай; малатарня звоніць гулкім рогатам грудзей; яго бор смуглабровы, а цені ад бору купаюцца ў даліне і ў лузе плаваюць абветраным чаўном. Жытнёвыя палі і квяцістыя шаўковыя сенажаці, смалістыя сосны і развесістыя явары навяваюць халодны смутак пры расставаннях і вялікую светлую радасць пры сустрэчах. Кожная новая з'ява ў нашым жыцці знаходзіла сабе месца ў яго шырокай і адкрытай душы".

Аднак П. Трус не такі і "просты", як можа падацца на першы погляд. Кожны сапраўдны талент — свайго роду загадка і аўтар "Дзесятага падмурка" ў гэтым сэнсе не выключэнне. Не адно дзесяцігоддзе паэма "Дзесяты падмурак" прачытвалася (а падстаў для такога стаўлення да твора больш, чым трэба) толькі як услаўленне сацыялістычнай рэчаіснасці, прытым, у чым нельга паэту адмовіць, глыбокае. Але ж П. Трус, пішучы гэты твор, ішоў не толькі ад "Босых на вогнішчы" Міхася Чарота, але і ад "Безназоўнага" Янкі Купалы. Дарэчы, пра гэта ці не першы сказаў у сваёй кнізе "Беларуская савецкая паэзія" (1979) Мікола Арочка: "Калі чытаеш заключныя страфы паэмы "Дзесяты падмурак", міжвольна прыгадваецца "Безназоўнае" Купалы ("І будуць гінуць там патрэбныя і непатрэбныя ахвяры")". Па словах таго ж М. Арочкі "ў грозным шуме хваль Нёмана П. Трус унутраным слыхам пачуў цяжкае віраванне трагічнай рэчаіснасці свету".

І сапраўды так:

***...Стыхію душою паслухай:***
***ў ёй чуецца крыўда —***
***успенены гнеў,***
***людская адвечная скруха.***
***Ў ёй чуецца жудасць***
***затоеных скарг, —***
***маўкліва-смяротныя сконы.***
***І ў муках крывавых***
***чыясьці рука***
***крывавыя піша законы.***

Няхай пры гэтым П. Трус меў на ўвазе жыццё ў Заходняй Беларусі, сутнасць адна: паэт не мог гнаць прэч думкі ад усведамлення, што "чыясьці рука //крывавыя піша законы". І тым самым не адыходзіў ад трагічных рэалій, драматычных момантаў жыцця. А гэта сведчыць на карысць філасофскай напоўненасці яго паэзіі, выразнасці грамадзянска-публіцыстычных матываў у ёй. Значыць, ёсць П. Трус добра вядомы нам, хрэстаматыйны, але ёсць і П. Трус "новы", якога яшчэ адкрываць нам, перачытваючы яго не такую і вялікую, але гэткую змястоўную паэтычную спадчыну.

...У свой час вельмі папулярнай у дзятвы была песня на словы П. Труса "Журавель":

***Піянерская сям'я***
***Распявае жураўля:***
***Жура-жура журавель,***
***Журавелька малады...***

Няма сёння "піянерскай сям'і". Не гучыць і сама песня, але заключныя радкі па-ранейшаму хораша кладуцца на душу.

"Жура-жура журавель, // Журавелька малады..." Гэта ж і сам П. Трус — вечна малады і адкрыты кожнаму новаму пакаленню чытачоў.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# ХЛЕБ СВЕЖЫ І ХЛЕБ ЧЭРСТВЫ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

замочную адтуліну, каб хто не падгледзеў, уключыўшы на ўсю моц радыё, зрабіў усё, што трэба. Адарваў плінтус, падняў маснічыну і схаваў пад падлогай абгорнутую ў цэлафан скрынку. Гэтую аперацыю даводзілася рабіць штомесяц, каб папаўняць уклад. Але ні разу Косця не ўзяў са скрынкі ні даляра, якая б пільная патрэба ні была. Колькасць грошай мянялася толькі ў большы бок, праўда, марудней, чым хацелася.

І тут надарылася магчымасць... Сяргей, які сваімі артыкуламі даўно ўжо намуляў вочы ўладам, трапіў у рэшце рэшт у турму. Не за артыкулы, вядома, за гэта як бы не садзяць, — нешта ўчыніў падчас мітынгу, яго і ўзялі. Ды ўзялі шмат каго — але ж тых выпусцілі. А на Сяргея завялі справу, распачалі следства. Уся незалежная прэса падняла гвалт, лямант, умяшалася замежжа... Карацей, за нейкі месяц Сяргей стаў вядомым на ўвесь свет. Вось тады Косцю і паклікаў да сябе галоўны.

— Ёсць заданне. Ты, кажуць, добра ведаеш гэтага Сяргея Шэмета.

— Ну, не так каб вельмі... — асцярожна пачаў Косця.

— А па маіх звестках — добра! — усміхнуўся Сымон Пятровіч. — Так што давай, табе і карты ў рукі. Чуў, які вэрхал падняўся? Ты павінен напісаць артыкул пра яго. Ганарарам не пакрыўдзім. І яшчэ вось што. У мяне добрая навіна. Ты ж у нас, здаецца, бескватэрны. Дык вось, пачынае будавацца дом для журналістаў, кааператыўны, наша газета там сваю долю атрымае. Так што маеш надзею... Праўда, узнос трэба, таму — давай, зарабляй грошыкі...

І ён напісаў той артыкул. І перастаў спаць па начах.

Напэўна, ніхто ніколі не зразумее — чаму так здараецца: толькі-толькі выб'ецца чалавек на нейкі больш-менш цвёрды шлях, толькі пачне прасоўвацца да запаветнай мэты, як Той, хто назірае за ім зверху, раптам вырашае — хопіць! Адны вераць, што гэта — Бог, другія, што — лёс, трэція кажуць, што гэта кара за грахі. Але ж колькі грэшнікаў жывуць, не ведаючы гэтай кары. І толькі Юдаў грэх ніколі яшчэ не заставаўся беспакараным. Так ужо яно пайшло з самага першага разу. Вось Косця... Ну што ён такога зрабіў?! Не забіў, не ўкраў, не спакусіў чужую жонку... Але, напэўна, нейкі агульны праклён спрадвеку ляжыць на здрадніках. Хоць і не надта відочны гэты грэх сярод іншых спраў людскіх. Тое, што мы называем здрадай, Косця лічыў выкананнем прафесійнага абавязку. Паспрабуй тут вырашыць, чыя тут праўда, а чыя няпраўда. У кожнага яна свая. Толькі гэта на зямлі. А той Нехта, што назірае за намі зверху, ведае дакладна. І заўважае кожную здраду, дзе б яна ні адбылася — на плошчы, на высокай трыбуне, ці ў чалавечым сэрцы, каму б ні здраджвалі — Богу, Радзіме, ці сябру.

Вось і на Косцевай дарозе падчас адной з камандзіровак у глыбінку ўзнік аднекуль (хто яго ведае, адкуль яны ўзнікаюць) грузавік з бульбай. У нас яны часцей за ўсё бываюць з бульбай. Ды так, што вадзіцель не паспеў выруліць убок на слізкай дарозе.

Скрынка з доларамі так і засталася ляжаць пад падлогай, пакуль не прагніюць маснічыны, ды ў інтэрнаце не адбудзецца капітальны рамонт. Шмат гадоў можа мінуць. Пасля людзі наткнуцца на той скарб часоў рынкавага сацыялізму. Як для скарбу, то не надта й багата — нейкія пару тысяч долараў... Які час, такія і скарбы.

1799-1999

# Браты па музе і па лёсе

## Аляксандр ПУШКІН І Адам МІЦКЕВІЧ

ЛЁС НАКАНАВАЎ ТАК, што Адам Міцкевіч пабываў у тых самых мясцінах (Адэса, Крым), дзе крыху раней знаходзіўся і вялікі рускі паэт. Яны захапляліся аднымі і тымі ж непаўторнымі пейзажамі, глыбока адчувалі роднасць крымскай прыроды рамантычным парывам іх душы. Пабываўшы ў Бахчысараі, абодва паэты-рамантыкі не маглі не зачаравацца легендай аб не ўзаемным каханні хана Керым-Гірэя да ўкрадзенай ім полькі Марыі Патоцкай.

Знаёмства двух славянскіх геніяў адбылося ўвосень 1826 года ў Маскве і адразу ж ператварылася ў цесную і шчырую дружбу. Іх узаемны творчы інтарэс, узаемнае чалавечае прызнанне і павага прайшлі праз найцяжэйшыя выпрабаванні: разгромленае рускім царызмам паўстанне 1830 года агаліла даволі сур'ёзныя разыходжанні ў іх палітычных поглядах.

Збоку здавалася, што дарогі іх разышліся назаўсёды...

Нагадаем: у канцы 1824 года А. Міцкевіч разам з лепшымі сябрамі Ю. Яжоўскім і Ф. Малеўскім павінен быў пакінуць родную Вільню. Як і іншым філаматам, яму было забаронена пражыванне ў "польскіх губернях" за "распаўсюджванне неразумнага нацыяналізма" — так сведчыў судовы прыгавор. Усім тром загадвалі ехаць у Пецярбург. Нічога не заставалася, як сесці ў кібітку...

Пакідаючы Вільню, А. Міцкевіч не ведаў, што гэта яго апошняе спатканне з радзімай; што ў далейшым ён заўсёды будзе адчуваць сябе выгнаннікам. На час вымушанага ад'езду А. Міцкевіч праславіўся ў роднай Літве і за яе межамі як праніклівы паэт-рамантык, пачынальнік гэтага новага накірунку ў польскай літаратуры.

Вясной 1822 года выйшаў з друку першы том яго "Паэзіі", у якім былі апублікаваны вядомыя балады "Свіцязь", "Свіцязянка", "Лілії", "Тры Будрысы" і іншыя, якія сталі хрэстаматыйнымі. Годам пазней быў выдадзены другі том, куды ўвайшлі другая і чацвёртая часткі драматычнай паэмы "Дзяды", што па праву лічыцца гонарам і славай і польскага рамантызму, а таксама паэма "Гражына. Літоўская аповесць", гераіня якой гіне за народную справу ў барацьбе супраць Тэўтонскага ордэна. Праз некалькі гадоў А. Міцкевіч зноў звернецца ў сваёй творчасці да рамантычнага бунтара, гатовага ахвяраваць сваім шчасцем дзеля шчасця роднага народа, — у паэме "Конрад Валенрод", напісанай у Расіі.

Тут неабходна зрабіць істотную агаворку. Як сведчыць Кастусь Цвірка, "Літвой Адама Міцкевіча была Беларусь". Выхадзец з апальчанай шляхты, А. Міцкевіч у сваёй творчасці заставаўся "сынам беларускай зямлі". Сапраўды, у творчай спадчыне А. Міцкевіча лёгка знайсці беларускія карані (легенды, абрады, этнаграфічныя, моўныя рэаліі і г.д.).

Ссылка адкрыла перад А. Міцкевічам новыя шырокія далягляды. Нечакана ён апынуўся ў эпіцэнтры бурлівага грамадска-літаратурнага жыцця Расіі. І гэта, зразумела, не магло не спрыяць яго далейшаму станаўленню як чалавека і як мастака. Паэт пражыў у Расіі чатыры з паловай гады. Пасля двухмесячнага знаходжання ў Пецярбурзе ён атрымаў дазвол на выезд у Адэсу, дзе павінен быў стаць настаўнікам Рышэльеўскага ліцэя. Але ў лістападзе 1825 года, так і не атрымаўшы гэтай пасады, быў накіраваны ў Маскву, дзе яму вызначылі пасаду ў канцылярыі маскоўскага губернатара Галіцына.

За час ссылкі А. Міцкевіч пазнаёміўся і зблізіўся з многімі майстрамі рускага слова. Першымі, хто падаў руку апальнаму паэту, былі літаратары-дзекабрысты, якія ўбачылі ў А. Міцкевічы, кажучы словамі А. Пушкіна, "брата по музе, по судьбам" і акружылі яго цеплынёй і клопатам. Першыя строфы вядомага міцкевічаўскага верша "Рускім сябрам" (1832) па сённяшні дзень успрымаюцца як трызна па сябрах-дзекабрыстах.

Кола знаёмстваў, сяброўскіх узаемаадносін А. Міцкевіча з прадстаўнікамі літаратурна-мастацкага асяродка "залатога веку" было незвычайна шырокае: А. Грыбаедаў, В. Жукоўскі, І. Крылоў, П. Вяземскі, Д. Веневіцінаў, Я. Баратынскі, браты Палявыя, браты Кірэеўскія і іншыя. І, як адзначалася вышэй, дружба звязвала А. Міцкевіча з геніем рускай літаратуры А. Пушкіным.

А. Пушкін прыехаў у Маскву ў верасні 1826 года. Мікалай І дазволіў яму вярнуцца са ссылкі і нават аб'явіў аўгусцейшую гатоўнасць быць самому цэнзарам яго твораў. А. Міцкевіч пазнаёміўся са сваім геніяльным сябрам у коле супрацоўнікаў новага часопіса "Московский вестник". З таго часу паэты амаль не расставаліся. Яны былі жаданымі і частымі гасцямі ў вядомым салоне З. Валконскай. А. Пушкін тады чытаў свайго "Барыса Гадунова". З друку выйшаў другі раздзел "Яўгенія Анегіна", а неўзабаве пасля гэтага — асобнай кнігай пабачыла свет "Цыганы". А. Міцкевіч быў шчыра зачараваны пушкінскім талентам. А. Пушкіна падкупляў у сябры цудоўнейшы дар імправізатара. "У імправізацыі яго, — успамінаў П. Вяземскі, — былі думка, пачуццё карціны і ў вышэйшай ступені паэтычныя вобразы. Можна было думаць, што ён натхнёна чытае па памяці паэму, ім ужо напісаную". Несумненна, што вобраз паэта-імправізатара ў пушкінскіх "Егіпецкіх начах" задуманы пад уражаннем імправізацый А. Міцкевіча.

Ва ўсёй грандыёзнасці і паўнаце паэтычны геній А. Міцкевіча паўстаў перад яго рускімі сябрамі, калі ў снежні 1826 года ў Маскве выйшаў з друку на польскай мове яго зборнік "Сонеты", прытым асабліву папулярнасць заваяваў цыкл "Крымскія санеты". У сваім вядомым вершы "Санет" А. Пушкін па сутнасці падаў сціснутую гісторыю санета і пералічыў імёны тых творцаў, якія ў найбольшай ступені спрыялі сусветнаму росквіту гэтай "цвёрдай" формы лірыкі. Поруч з Дантэ і Петраркам, Шэкспірам і Камоэнсам ён успамінае і А. Міцкевіча:

***Под сенью гор Тавриды отдаленной***
***Певец Литвы в размер его стесненный***
***Свои мечты мгновенно заключал.***

"Крымскія санеты" адрадзілі забытую на радзіме А. Міцкевіча вельмі цяжкую, але вытанчаную форму санета і таму прагучалі як новае слова ў польскай паэзіі ў творчасці самога А. Міцкевіча. Яны адразу ж сталі часткай літаратурнага жыцця Расіі. Ужо ў красавіку 1827 года ў часопісе "Московский телеграф" апублікаваў свой празаічны пераклад усяго цыкла П. Вяземскі. Хутка пачалі з'яўляцца ў друку і паэтычныя пераўвасабленні. У 1827 годзе ў альманаху А. Дэльвіга "Северные пчелы" былі надрукаваны санеты "Акерманскія стэпы", "Плаванне", "Бахчысарай" у перакладзе ліцэйскага таварыша А. Пушкіна А. Ільічэўскага. А ў 1829 годзе "Крымскія санеты" выйшлі на рускай мове ў перакладах І. Казлова і В. Любіч-Рамановіча двума асобнымі выданнямі.

Вынікам сапраўднага сяброўства двух славянскіх паэтаў сталі іх узаемныя пераклады. А. Міцкевіч пераклаў на польскую мову адзін з самых драматычных пушкінскіх вершаў "Успамін" ("Когда для смертного умолкает шумный день..."), а А. Пушкін — дзве балады А. Міцкевіча "Дазор" ("Ваявода") і "Тры Будрысы" ("Будрыс і яго сыны").

Калі А. Міцкевіч пазнаёміў А. Пушкіна яшчэ ў рукапісе з "Конрадам Валенродам", той пераклаў урывак з уступу. Варта нагадаць, што ў бібліятэцы А. Пушкіна захоўваецца том Байрана з надпісам: "Байрана Пушкіну прысвячаю, прыхільнік іх абодвух. — А. Міцкевіч".

У красавіку 1828 года А. Міцкевіч назаўсёды пакідае Маскву. Ён едзе ў Пецярбург са спадзяваннем атрымаць дазвол вярнуцца на радзіму ці хоць бы вырвацца за мяжу. Удалося апошняе. 15 мая 1829 года А. Міцкевіч на англійскім караблі адплыў з Кранштата. Так пачалася яго замежная адысея.

У той час, як сусветная грамадскасць, у першую чаргу французская, была на баку Польшчы, якую ахапіла паўстанне 1830 года за незалежнасць, А. Пушкін у вершах "Клеветникам России" і "Бородинская годовщина" адвергнуў правы замежных палітыкаў у гэтыя радкі ўмешвацца, аб'явіўшы падаўленне паўстання ўнутранай справай Расіі:

***Оставьте: это спор славян между собою.***
***Домашний, старый спор,***
***уж взвешенный судьбою.***

Трэба прызнаць, што А. Пушкіным у немалой ступені валодала дзяржаўная імперская свядомасць. Ён ацэньваў гісторыю сваёй Айчыны з пункту гледжання дзяржаўнага патрыятызму, нацыянальных інтарэсаў вялікай дзяржавы. У яго лірыцы супрацьстаяць "сыны России" і "россы" — "надменным галлам", "кичливым ляхам". Паколькі грамадскую думку ў Расіі заўсёды вызначалі людзі вольналюбівыя, то гэткае стаўленне А. Пушкіна да паўстання 1830 года выклікала на яго аўтара рэзкія нападкі з боку гуманна настроеных грамадскіх сіл у Расіі і за мяжой. Асабліва хваравітым быў разрыў з А. Міцкевічам, якога А. Пушкін па-ранейшаму любіў, геніяльнасцю якога захапляўся.

Што тычыцца А. Міцкевіча, дык ён з самага пачатку паўстання не верыў у яго поспех і расцэньваў гэта як страшную бяду, нацыянальную катастрофу. Страціўшы ўсякае спадзяванне на падтрымку з боку Францыі, ён доўга знаходзіўся ў глыбокай дэпрэсіі. Выратаванне ад душэўнага болю знаходзіў у напружанай творчай працы.

Жывучы ў Парыжы, у 1833 годзе А. Міцкевіч выдаў трэцюю частку "Дзядоў", якая прагучала як абвінавачванне царскаму рэжыму, асабліва ненавіснаму паэту пасля падзей 1830—1831 гадоў. Сваё стаўленне да расійскай імперыі А. Міцкевіч яшчэ больш выразна выставіў у так званым "Урыўку", якім заканчваюцца "Дзяды".

"Урывак" вытрыманы ў форме паэтычнага дзённіка, падарожных вершаваных замалёвак і прысвечаны "рускім сябрам". А. Міцкевіч уключыў сем вершаваных фрагментаў, у якіх гаворыцца аб Расіі і яе сталіцы, пабудаванай па волі Пятра І. Расія паўстае ва "Урыўку" краінай вялізнай, але пустыннай і халоднай. Матыў холаду, зімовай сцюжы, якая ледзяніць і скоўвае ўсё жывое, набывае сімвалічнае гучанне, праходзіць праз увесь паэтычны цыкл. Паводле канцэпцыі А. Міцкевіча, Пецярбург будаваўся ў гібельным месце, узнік па волі тырана, а таму чужы народу.

А. Пушкін адным з першых у Расіі пазнаёміўся з "Урыўкам". Ад'язджаючы восенню 1833 года ў Болдзіна, ён захапіў з сабой том твораў А. Міцкевіча. Кнігу, якая толькі што выйшла ў Польшчы, прывёз і напярэдадні падарыў А. Пушкіну яго маскоўскі сябра Сяргей Сабалеўскі. А. Пушкін не пагадзіўся з палітычным радыкалізмам А. Міцкевіча, з яго інтэрпрэтацыяй ролі Пятра І і царскіх рэформ.

Можна ўпэўнена сказаць, што "Медны коннік", які А. Пушкін пісаў восенню 1833 года, у вядомым сэнсе быў адказам А. Міцкевічу. Уступ да паэмы гучыць як урачыстая ода ў гонар Пятра І. Аднак сама "пецярбургская аповесць" уступае ў супярэчнасць з гэтым манументальным вобліка́м сталіцы імперыі, якой паказана яна ва ўступе. Як слушна заўважае адзін сучасны даследчык, "апісанне паводкі, што прынесла незлічоныя пакуты народу, і ўдзел Яўгенія хутчэй пацвярджаюць, чым абвяргаюць пецярбургскую канцэпцыю Міцкевіча"...

Горкія папрокі А. Міцкевіча ў вершы "Рускім сябрам" А. Пушкін успрыняў у свой адрас і адказаў вершам "Он между нами жил..." (1834). Гэты твор стаў апошняй кропкай у спрэчцы з А. Міцкевічам:

***Он между нами жил***
***Средь племени ему чужого; злобы***
***В душе своей к нам не питал, и мы***
***Его любили...***
***...Издали до нас***
***Доходит голос злобного поэта***
***Знакомый голос!.. боже! освяти***
***В нем сердце правдою твоей и миром.***

Нягледзячы на некаторыя крыўдныя і, магчыма, не зусім справядлівыя папрокі ("Ядом стихи свои, в угоду черни буйной, он наполняет"), А. Пушкін клікаў сябра да прымірэння, да ўспамінаў аб старым сяброўстве і асабістых сувязях насуперак палітычным разыходжанням. Ён укладвае ў вусны А. Міцкевіча ўласную мару аб "временах грядущих":

***Когда народы, распри позабыв,***
***В великую семью соединятся.***

Верш гэты з надпісам "голас з таго свету" ў 1842 годзе ўручыць у Парыжы А. Міцкевічу яго рускі сябра А. Тургенеў — знаток таленту А. Міцкевіча і хранікёр еўрапейскага інтэлектуальнага жыцця.

На вестку аб смерці А. Пушкіна А. Міцкевіч адгукнуўся артыкулам "Біяграфічныя і літаратурныя звесткі пра Пушкіна", апублікаваным у парыжскім часопісе "Ле глоб". У ім ёсць такія праніклівыя радкі: "Куля, забіўшая Пушкіна, нанесла страшны удар разумнай Расіі. Яна мае і цяпер выдатных пісьменнікаў... але ніхто не заменіць Пушкіна".

Па сведчанні А. Тургенева, А. Міцкевіч настолькі быў узрушаны і абураны забойствам А. Пушкіна, што даў ва ўсіх парыжскіх газетах аб'явы пра выклік Дантэса на дуэль. Аднак выклік застаўся без адказу.

Доўгія гады, свята захоўваючы памяць аб сваім сябры, А. Міцкевіч нястомна прапагандаваў яго творчасць з кафедры ў Каледж дэ Франас. Вышэй усяго ён цаніў "Яўгенія Анегіна". Апярэджваючы водгук В. Бялінскага, у адной са сваіх лекцый (7 чэрвеня 1842 года) А. Міцкевіч назваў пушкінскі раман у вершах самым арыгінальным, самым народным і самым задушэўным творам А. Пушкіна.

...У вершы "К Языкову" А. Пушкін дакладна вызначыў тое, што звязвае, аб'ядноўвае на зямлі "поэтов меж собой":

***Издревле сладостастный союз***
***Поэтов меж собой связует:***
***Единый пламень их волнует;***
***Они жрецы единых муз;***
***Друг другу чужды по судьбе,***
***Они родня по вдохновенью...***

**Валянцін СТАЛЬМАХОЎ,**
**дацэнт Магілёўскага дзяржаўнага**
**універсітэта імя А. А. Куляшова**

ПАМЯЦЬ

# ...І гучалі песні

Вечар памяці тэлежурналіста, стваральніка і нязменнага аўтара тэлеперадачы "Вецер вандраванняў", майстра спорту па турызме, цудоўнага Чалавека Аляксандра Чуланава быў арганізаваны Рэспубліканскім турысцка-спартыўным саюзам і прайшоў у Палацы культуры трактарнага завода.

Пяць гадоў таму Аляксандр быў подла забіты. Цяжка было паверыць, што гэты мужны чалавек, які выжыў пасля падзення з верталёта падчас відэаздымак, трагічна загінуў ад нападу бандытаў. Сёлета Аляксандру Міхайлавічу Чуланаву споўнілася б 60, і гэтую дату прыгадалі тыя, хто яго ведаў, любіў.

Мы былі знаёмыя з 18-гадовага ўзросту. На Беларусі тады турызм толькі пачынаўся. Мы ўсе добра ведалі адно аднаго, сустракаліся то на вакзале перад адпраўкай у вандроўкі выхаднога дня, то на злётах. Пазней нас з Сашам зблізіла секцыя журналістаў, якія пісалі пра турызм. Ён называў мяне "рыжая" — гэта для яго было самым-самым сардэчным словам... І вось — вечар памяці. Сабраліся знаёмыя, сябры Аляксандра з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Казані і з роднага Мінска, аўтары папулярных песень.

Масквіч Сяргей Нікіцін успамінаў, як больш чым 30 гадоў таму, яшчэ студэнтам, ён упершыню прыехаў у Мінск па запрашэнні маладзёжнай рэдакцыі Беларускага тэлебачання. Успамінаў — і выконваў свае песні на цудоўныя тэксты Г. Шпалікава, Ю. Морыц, Р. Кіплінга. Папулярны расійскі кампазітар Рыгор Гладкоў расказваў пра А. Чуланава як пра вельмі жыццярадаснага чалавека, з усмешкай гаварыў пра знакамітую чуланаўскую малпу Чакіту і таксама выконваў свае песні. Шчымлівую тугу сяброў Чуланава выклікала выступленне Уладзіміра Мураўёва з Казані, які спяваў песні сябра Аляксандра Чуланава — вядомага барда, Арыка Крупа, якому лёс адпусціў толькі 33 гады... З цеплынёй успрыняла зала выступленні былога мінчаніна, цяпер масквіча Аляксандра Касянкова, мінскіх бардаў Галіны і Барыса Вайханскіх, Алены Казанцавай.

**Вера КРОЗ**





## ЧАСАПІС

## Зноў "канцэртны" спектакль



Лепшая опера Гаэтана Даніцэці "Лючыя дзі Ламермур" упершыню пастаўлена ў Мінску. Напісаная на сюжэт рамана Вальтэра Скота "Ламермурская нявеста", яна была створана кампазітарам хутка і лёгка. Да сённяшняга дня опера хвалюе слухачоў надзвычай пластычнай, меладычнай, вытанчанай музыкай і рамантычнай гісторыяй пра ідэальнае каханне шатландскіх Рамэа і Джульеты. На прэм'ерным спектаклі ў партыі Лючыі выступіла дыпламант міжнародных конкурсаў чароўная Вікторыя Курбацкая. Пяшчотная, лірычная, жаноцкая, яна фактычна была ўпрыгожаннем спектакля. Голас гучаў ярка, мякка, каларытна — як ніколі! Нездарма публіка гэтак доўга не адпускала яе са сцэны.

Партыю Генрыха Астона выканаў спявак еўрапейскага ўзроўню, лаўрэат міжнародных конкурсаў Уладзімір Пятроў, які і гэтым разам быў на вышыні.

Упэўнена ўвайшоў у атмасферу нашага тэатра ўладальнік прыгожага тэнара госць з Ізраіля Етам Коэн, які выконваў партыю Эдгара — віртуозную, багатую меладычна — у многіх краінах.

Цудоўны ансамбль стварылі і іншыя ўдзельнікі спектакля: Алег Мельнікаў, Нагіма Галеева, Эдуард Пелагейчанка, Сяргей Франкоўскі. Добрае ўражанне ад хору (галоўны хормайстар Ніна Ламановіч). Музычны кіраўнік і дырыжор прэм'еры — маэстра Аляксандр Анісімаў.

Спектакль пастаўлены ў канцэртным выкананні, гучаў на мове арыгінала, а опера гэтая для мінчан — невядомая. Таму сэнс арый, вакальных рэплік быў незразумелы для публікі. Гэта ж не "Травіята", "Рыгалета" ці "Кармен", якія шмат гадоў у рэпертуары тэатра і таму нават аматары ведаюць іх напамяць. "Лючыя дзі Ламермур" для многіх засталася загадкай...

**Вера КРОЗ**

*Фота А. ПРУПАСА*

## Пінчукі "вучаць" мінчукоў

Пакуль у стольным Мінску вядуцца дыскусіі накont таго, якія вуліцы варта перайменаваць і памяць каго з выдатных сыноў Бацькаўшчыны трэба падобным чынам увекавечыць, у Пінску ад размоў перайшлі да канкрэтных дзеянняў, а ў выніку нядаўна ў горадзе над Пінай з'явіліся вуліцы імя Матэвуша Бутрымовіча і Адама Нарушэвіча. Абодва — вартыя памяці нашчадкаў. М. Бутрымовіч, які нарадзіўся ў 1745 годзе, а памёр у 1814-ым ці пачатку 1815-га, з'яўляўся вядомым грамадска-палітычным дзеячам свайго часу, быў пінскім гарадскім суддзёй, будаваў дарогі, каналы Прыпяцка-Мухавецкай воднай сістэмы, прадстаўляў Пінск на чатырохгадовым (1788—1792) Сейме Рэчы Паспалітай. А. Нарушэвіч — родам з Піншчыны, жыў у 1733—1796 гадах, паэт, гісторык, філосаф. Найперш вядомы як аўтар прац "Жыццё Яна Кароля Хадкевіча, вялікага гетмана Вялікага княства Літоўскага", "Гісторыі польскага народа". Сабраў 231 том розных па змесце гістарычных матэрыялаў.

## Не развітваўся з вайной

Пётр Шасцерыкоў з першым апавяданнем выступіў у 1941 годзе ў газеце "Камунар Магілёўшчыны". У гэтым жа годзе скончыў літаратурны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута (нарадзіўся Пётр Паўлавіч 4 мая 1919 года ў вёсцы Тоўсты Луг Суджанскага раёна Курскай вобласці (Расія), памёр 21 сакавіка 1994-га). На пачатку вайны ўступіў у камуністычны знішчальны батальён пры ЦК КПБ, а са жніўня 1941 года служыў у войсках Міністэрства ўнутраных спраў па ахове чыгункі, з 1944-га быў інструктарам дывізійнай газеты "За Родину". Дэмабілізаваўся ў 1946 годзе. Працаваў карэспандэнтам газеты "Звязда" па Магілёўскай вобласці, загадчыкам аддзела крытыкі "Звязды", карэспандэнтам рэспубліканскага радыё, сакратаром Магілёўскага абласнога аддзялення СП БССР, упаўнаважаным УААП Магілёўскай вобласці. Выйшлі кнігі "Камень за камнем", "Звени, звонок!", "Солнечный луч", "На всю жизнь" і іншыя. П. Шасцерыкоў зрабіў літаратурную апрацоўку кніг успамінаў "Солдатами были все" і "Орлы". Значнае месца ў яго творчасці займала тэма вайны, гераізм народа ў барацьбе з фашызмам.

КІНО

***За ўсю гісторыю Берлінскага кінафестывалю толькі адзін савецкі фільм быў узнагароджаны "Залатым мядзведзем" — "Узыходжанне" Л. Шапіцькі. Па ўспамінах акцёра Б. Плотнікава, які выканаў ролю Сотнікава, немцы тады былі ў шоку: "На сцэне стаялі вазоны з кветкамі, дык яны вырывалі гэтыя кветкі і кідалі іх нам. Мы адразу зразумелі, што перамагаем". "Узыходжанне" зроблена па матывах аповесці В. Быкава "Сотнікаў". Значыць, гэта была і наша перамога. Яшчэ задоўга да Л. Шапіцькі сцэнарый "Сотнікава" напісаў сам В. Быкаў. Аднак "дзякуючы" кіназнаўцу Р. Юрэневу, які не рэкамендаваў да пастаноўкі гэту "бясспрэчна таленавітую і шчырую рэч", фільм па сцэнарыі Быкава так і не быў зроблены. А калі быў бы?!***

***...Апынуцца на кінафестывалі класа А, якім з'яўляецца Берлінскі кінафестываль — мара кожнага журналіста, які піша пра кіно. Берлінале першым адкрывае кінагод, папярэднічае "Оскару" (фільмы, якія намінуюцца на "Оскар", звычайна, трапляюць і ў праграму Берлінскага кінафэсту). Аднак шанцуе і нашым! Святлана Саўчык, якая сёння ўзначальвае сталічны кінаклуб "Элітарнае кіно" — ужо, так бы мовіць, сталы наведвальнік Берлінале. Сёлетні 49-ы Берлінскі кінафестываль асаблівы — апошні ў гэтым стагоддзі. Як сведка самай славутай кінападзеі ў Нямеччыне, Святлана падзялілася сваімі ўражаннямі, думкамі...***

# Наш чалавек на Берлінале

### Цоо, альбо Лісты аб любові да кіно

Берлінскі кінафестываль упершыню быў праведзены ў 1951 годзе. Шмат гадоў Берлін быў падзелены на дзве часткі. Заходні Берлін увасабляў сабою свабодную зону. Створаны ў знак пратэсту Берлінале, мусіў прапагандаваць класава чужую, заходнюю культуру, ідэалогію свабоднага Захаду. Гэта быў фестываль не толькі кіно, але і прагрэсіўных дэмакратычных ідэй.

Гісторыя стварэння фестывалю вызначае спецыфіку Берлінскага кінафэсту. Напрыклад, у адрозненне ад Канскага кінафестывалю, які заўсёды вельмі эстэцкі, рафінаваны, на які прыязджаюць толькі вялікія кіназоркі і кінапрадзюсеры, Берлінскі фестываль абсалютна дэмакратычны. Дырэктар Берлінале Морытц дэ Хадэльн лічыць, што вартасць кінафестывалю ў тым, што ён для гледачоў. На Берлінскі кінафэст прыязджаюць глядзець фільмы, а не фланіраваць па чырвонай лесвіцы, як у Канах. Берлінале — гэта працоўная сустрэча прафесіяналаў ад кіно. І свята для ўсіх берлінцаў: сёлетні фестываль віталі кіназоркі Ш. Маклейн, Б. Уіліс, Н. Нолці, Ш. Пэн, М. Стрып, Н. Кэйдж, Х. Кэйтэль, Л. Тэйлар, К. Шаброль, Б. Таверн'е, С. Фрырз, Д. Шумахер, Д. Кроненберг, Р. Радрыгес.

Берлінскі фестываль мае свае адметныя традыцыі. Амерыканскі рэжысёр С. Спілберг, які сёлета быў госцем Берлінале, падкрэсліваў, што гэты кінафэст вабіць яго непаўторнай дзелавой атмасферай, арганізацыяй і, вядома ж, якасцю і колькасцю фільмаў, якія ён прадстаўляе. Берлінскі кінафестываль, па яго словах, дае зарад бадзёрасці на цэлы год. А яшчэ — упэўнівае ў будучыні кінематографа, гібель якога прадбачаць пасля 2000 года.

Мяне заўсёды здзіўляюць нямецкія гледачы! Падчас фестывалю яны ходзяць на фільмы зранку і да вечара, выстойваюць у вялізных чэргах, з надзеяй пытаюць лішні квіток.

Тут, у Берліне, разумееш, што Берлінскі кінафестываль — гэта сапраўдная нацыянальная кінападзея. Ужо выгадавалася цэлае пакаленне берлінцаў, якія ведаюць, што ў лютым будзе фестываль, што яны будуць глядзець фільмы, а потым — цэлы год жыць успамінамі пра іх. Самае галоўнае, што Берлінале дае штуршок да развіцця нямецкай кінематаграфіі, кінаіндустрыі. Гледзячы, як робяць кіно ў Амерыцы ці іншых еўрапейскіх краінах, немцы імкнуцца падтрымаць айчынную кінавытворчасць. Бо вэндэрсы і фасбіндэры кожны дзень не нараджаюцца. У апошнія гады ў Германіі выходзіць амаль трыццаць фільмаў у год. Многія маладыя нямецкія рэжысёры ўжо зрабіліся знакамітымі. Летась адзін з нямецкіх фільмаў быў намінаваны на "Оскар" як "лепшы замежны фільм".

Сёлета ў Берліне засталіся тры "Сярэбраныя мядзведзі" — адны з галоўных прызоў Берлінскага кінафэсту. Прыз за лепшую мужчынскую ролю атрымаў нямецкі акцёр М. Гвіздэк за фільм "Начныя вобразы". Упершыню ў гісторыі фестывалю прызам за лепшую жаночую ролю былі ганараваны дзве актрысы — цудоўны дуэт Ю. Кёхлер і М. Шрадэр. Яны сыгралі ў дэбютнай карціне Макса Фёрбербёка "Каханая і Ягуар", якая расказвае пра лесбійскае каханне немкі і яўрэйкі ў час трэцяга Рэйха. Менавіта фільм Фёрбербёка — маштабны, відовішчны адкрыў фестываль. У гэтым годзе на адкрыцці Берлінале прысутнічаў нават канцлер Германіі Г. Шродэр. Ён казаў, што фестываль — гонар Берліна і ўсёй Германіі, што новы ўрад будзе падтрымліваць кінафэст і надалей. Шродэр быў шчаслівы, што фестываль распачынае стужка нямецкага рэжысёра-дэбютанта: "Мне падабаецца, што вялікую фестывальную карціну даверылі здымаць пачаткоўцу ад кіно. Фільм сябе апраўдаў. Лічу, што кожнай краіне трэба раз у год здымаць грандыёзную, маштабную карціну, якая б магла прадстаўляць нацыянальны кінематограф на міжнародных фестывалях..."

Я заўважыла, што поспех нямецкага кіно выклікаў асаблівую хвалю ўздыму ў нямецкіх крытыкаў. Звычайна, яны лаюць фестываль. Сёлета былі задаволеныя ўсе.

49-ы Берлінскі фестываль яшчэ запомніцца тым, што ён адбываўся ў апошні раз у Цоо-Палацэ. Гэта цэнтр Заходняга Берліна: вялікая плошча, дзе захаваліся руіны старажытнай царквы, як напамін пра вайну. На цэнтральнай вуліцы Курфюрстандам — самыя багатыя магазіны. Побач — утульныя кінатэатры, авеяныя легендамі кіназалы. А яшчэ тут знаходзіцца знакаміты нямецкі заапарк. Цоо — гэта асаблівая атмасфера, успаміны для вялікай колькасці людзей, якія любяць кіно. Многія казалі, што з Цоо адыходзіць цэлая эпоха, якую можна назваць "Цоо, альбо Лісты аб любові да кіно".

У наступным годзе плануецца афіцыйны пераезд урада Германіі з Бона ў Берлін. Сёння на месцы Берлінскай сцяны ўзвезена вялізная навабудоўля. Тут будуць знаходзіцца ўрадавы і дзелавы цэнтры, акрамя таго, сюды пераязджае Берлінале. Ужо амаль пабудаваны грандыёзны "Сінемакс" з вялікай колькасцю розных кіназалаў. Шчыра кажучы, мяне апанаваў страх перад гэтай футурыстычнай архітэктурай і сумнеў, ці магчыма ўзнавіць тут шчырую атмасферу любові да кіно? Аднак свой 50-гадовы юбілей Берлінскі кінафестываль адзначыць ужо на новым месцы. Як там будзе фестывалю? Як кажуць, пажывём, пабачым.

### Тонкая чырвоная лінія

Аснова кожнага фестывалю — конкурсная праграма. Кожны, хто прыехаў на фестываль, імкнецца не прапусціць, паглядзець усе конкурсныя фільмы, якіх, звычайна, каля трыццаці. У афіцыйны конкурс увамходзяць таксама дзесяць кароткаметражных фільмаў. Наогул Берлінскі кінафестываль складаецца з сямі абсалютна розных раздзелаў. З 70-х гадоў існуе так званы Міжнародны Форум маладога кіно. Гэта ўжо асобны фестываль, які адбываецца ў рамках Берлінале. На Форуме дэманструецца незалежнае, эксперыментальнае кіно, якое больш нідзе і не ўбачыш. Як вядома, менавіта незалежны кінематограф жывіць сучаснае кіно, спрыяе яго развіццю. У асноўным конкурсе ўдзельнічаюць толькі так званыя мейнстрымныя фільмы. Стужкі "вялікага стылю" робяць вялікія рэжысёры і акцёры. Мо таму фестывальны фільм — гэта заўсёды цікавае відовішча. У стужках, якія складаюць праграму Форуму, цяжка ўбачыць славутых кіназорак. Там прадстаўлены карціны будучых зорак кіно, славу якіх толькі можна прадбачыць. Мне заўсёды цікава потым сачыць за лёсамі маладых кінематаграфістаў, тым больш, што Берлінале мае прыхільнасць да пачаткоўцаў і прадастаўляе ім свой экран зноў і зноў.

Гэта цудоўна, што ў фільмаў, якія не трапляюць у афіцыйны конкурс, ёсць магчымасць удзельнічаць у іншых праграмах: у Форуме, у Панараме, у Арт-эсэ. Гэта гарантыя таго, што фільм усё роўна ўбачаць, заўважаць і ён будзе мець рэзананс у кінасвеце.

Некалькі гадоў таму ў Форуме ўдзельнічаў адзін з апошніх фільмаў Ю. Хашчавацкага. Карціна атрымала прыз "Фільм за мір" і мела проста незвычайны поспех. Памятаю, Хашчавацкага паўтары гадзіны не выпускалі са сцэны, задавалі шмат пытанняў. Немцы цудоўна зразумелі гэты фільм. *Але беларускаму кіно рэдка шанцуе на Берлінале.* Той відэафільм, які Хашчавацкі прадставіў сёлета, ужо не выклікаў такі рэзананс. Марна шукала я рэкламныя афішы яшчэ аднаго беларускага фільма — "Тры жанчыны і мужчына" В. Дудзіна. У праграме Кінарынку яго прадстаўляў дырэктар кінастудыі "Беларусьфільм". На жаль, наша ігравая стужка не была заўважана на фестывалі.

Вядома, берлінцы чакалі "Сібірскага цырульніка" М. Міхалкова, які павінен быў закрываць фестываль. Міхалкоў абяцаў, але перадумалі яго прадзюсеры. Фільмам Міхалкова ў маі будзе адкрывацца Канскі фестываль. У Канах возьме ўдзел і новая стужка А. Сакурава. Крыўдна, што яго "Малоху" не было на Берлінале. У свой час менавіта Берлін адкрыў Сакурава кінасвету. "Малох" ("Містэрыя гары") — даследаванне псіхічнай прыроды людзей, апанаваных ідэямі фашызму, гісторыя кахання А. Гітлера і Е. Браун. На мой погляд, сёлета берлінцы аддалі перавагу пецярбургскай школе кіно. Кароткаметражны фільм С. Аўчарова "Фараон" атрымаў "Залатога мядзведзя". Стужка цудоўная, фантастычная! Я была проста ўражана тым, як сёння можна рабіць кіно. Самабытны талент, майстэрства рускага "ляўшы" ўражвае. С. Аўчароў задумаў пэўны серыял пад агульнай назвай "Мужчына і жанчына: легенды і міфы". Рэжысёр вырашыў зрабіць гісторыю чалавецтва ў малюнках і знайшоў свой арыгінальны падыход: ажывіў герояў старажытнаегіпецкіх фрэсак. Не, гэта не анімацыя, як можа падацца ў першыя хвіліны, гэта сапраўдная ігравая





стужка, якая проста захапляе сваім выяўленчым і музычным радамі.

Кінарэжысёр заўсёды павінен быць разумнейшым за гледачоў, якія сядзяць у зале. Вельмі добра ўвасобіў наш час расійскі рэжысёр С. Снежкін. У яго фільме "Кветкі календулы" занатавана гісторыя чэхаўскіх трох сясцёр — з аднаго боку і гісторыя сям'і ўганараванага паэта — з другога, у вобразе якой некаторыя пазналі сям'ю Міхалковых-Канчалоўскіх. Знакамітую чэхаўскую п'есу Снежкін расклаў на сімвалы нашага часу. За героямі і за падзеямі — нашае пакаленне, нашае жыццё.

Адзначу і яшчэ адзін расійскі фільм пра сучаснасць. "Чорная" камедыя "Ускраіна" — дэбют у вялікім кіно П. Луцыка. Малады рэжысёрператварыў сумную чорна-белую рэчаіснасць у казку, дзе цуда-волаты — рускія мужыкі шукаюць "сінюю птушку" шчасця... Цудоўныя дыялогі, добрае пачуццё гумару, адметны візуальны рад, ігра акцёраў, сярод якіх сапраўды нечаканы М. Алялін. "Ускраіна" атрымала прыз Міжнароднай федэрацыі кінаклубаў "Дон Кіхот".

...Фільм амерыканскага рэжысёра Т. Маліка "Тонкая чырвоная лінія" быў паказаны ў адзін з першых дзён фестывалю. І адразу было зразумела, што менавіта гэтая стужка прэтэндуе на галоўны прыз Берлінскага кінафэсту. У рэшце рэшт журы не стала доўга перабіраць і ўганаравала "Залатым мядзведзем" фільм Т. Маліка.

"Тонкая чырвоная лінія" — гэта фільм-медытацыя. Праблемы, якія закрануў Малік, — глыбокія, сур'ёзныя і галоўнае — агульначалавечыя. Яны здаюцца актуальнымі ў канцы XX стагоддзя, калі ўвесь свет заклапочаны прагнозамі на будучае стагоддзе. На адзін з ціхаакіянскіх астравоў высаджваюцца амерыканскія салдаты, і ўсю першую гадзіну, а фільм доўжыцца тры гадзіны, яны проста ідуць па гэтым востраве. Аднак адразу ўражвае рэзкі кантраст паміж райскім, казачным аазісам і салдатамі. Геніяльны рэжысёр заўсёды адкрывае гледачу абсалютна новы, незвычайны свет. Я многа разоў бачыла аблокі на небе, але такіх, якія паказаў Малік, — ніколі.

Малік — рэжысёр-загадка, яго амаль ніхто не бачыў. Ён жыве, як пустэльнік, у гарах. Жартуюць, што пасля смерці Маліка застанецца толькі змена чыстай бялізны. Ён зрабіў толькі дзве карціны ў 70-ыя і ўжо амаль дваццаць гадоў не здымаў. Калі знакаміты Д. Клуні даведаўся, што Малік здымае "Тонкую чырвоную лінію", ён сам патэлефанаваў рэжысёру і прапанаваў свае паслугі, не патрабуючы нічога, акрамя невялічкай ролі ў яго новым фільме. У адрозненне ад стужкі С. Спілберга "Выратоўваючы радавога Райна", зробленай для марсіян, фільм Маліка ўяўляе сабой глыбокі філасофскі роздум, што *такое вайна* наогул.

На Берлінскім кінафестывалі асабліва чакалі рамантычную камедыю Д. Мэдэна "Закаханы Шэкспір", якая атрымала трынаццаць намінацый на "Оскар" і была адзначана *сямю залатымі статуэткамі*. Фільм вельмі касцюміраваны, забаўляльны, з цікавымі сюжэтнымі перыпетыямі. Сцэнарысты М. Норман і П. Стопард атрымалі "Сярэбранага мядзведзя" "за арыгінальны сцэнарый". Цікава, што англійскі рэжысёр зрабіў якасную галівудскую карціну, якую можна паглядзець і адразу ж забыць. Шчыра кажучы, мне бліжэй стылістыка Б. Лурмана. Яго гратэскныя "Рамэо і Джульета" сапраўды захапляюць і ўражваюць.

"Сярэбранага мядзведзя", другі па значэнні Вялікі прыз журы, атрымаў датчанін С. Краг-Якабсан за фільм "Апошняя песня Міфунэ — Догма-3". Кіно "Догмы" — гэта натуральнае кіно. "Дагматыкі" — сёння гэта Ларс фон Трыр, Т. Вінтэрберг, С. Краг-Якабсан здымаюць толькі на натуры і ручной камерай, адмаўляючыся ад аптычных і камп'ютэрных спецэфектаў.

Фантастычны трылер Д. Кроненберга "eXistenZ" быў прысвечаны тэме віртуальнай рэальнасці. Стужка атрымала "Сярэбранага мядзведзя" "за выдатныя мастацкія дасягненні". На праглядзе карціны частка гледачоў смяялася, другая знаходзілася ў шоку, трэцяя пакідала кіназалу. Элітарнае кіно Кроненберга здзівіла і расчаравала адначасова, сталася адным з гучных скандалаў фестывалю.

...На сёлетнім Берлінале, як падлічылі нямецкія журналісты, было паказана 667 фільмаў. Гэта вар'яцкі вялікая лічба, бо, калі падзяліць яе на дванаццаць дзён, а менавіта столькі доўжыцца фестываль, то атрымаецца, што кожны дзень дэманстравалася больш за 50 фільмаў. Шкадую, што магчымасці чалавечага ўспрымання абмежаваныя.

**Запісала**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

*На здымках: кадры з фільмаў "Каханая і Ягуар", "Кветкі календулы".*

# Соф'я ГУРЫЧ



28 красавіка 1999 года пасля цяжкай хваробы пайшла з жыцця вядомая беларуская актрыса і рэжысёр радыё, заслужаны работнік культуры БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Соф'я Якаўлеўна Гурыч.

Нарадзілася С. Гурыч 29 снежня 1917 года ў г. Мінску. Пасля сканчэння Беларускай студыі пры Цэнтральным вучылішчы ў Ленінградзе з 1937 па 1941 год працавала актрысай у Тэатры юнага гледача БССР імя Н. Крупскай, дзе стварыла шэраг яркіх і запамінальных вобразаў у спектаклях для дзяцей і юнацтва, сярод якіх найбольш значнымі сталі Валя Брузжак у "Як гартавалася сталь" паводле М. Астроўскага (1937), Жэня Шаўрова ў "Блакітным і ружовым" А. Бруштэйн, Маленькая разбойніца ў "Снежнай каралеве" Я. Шварца (абодва 1939), Зербінета ў "Хітрыках Скапэна" Ж. Б. Мальера (1940). Сцэнічныя гераіні С. Гурыч заўсёды былі натурамі дзейснымі, валявымі і энергічнымі.

Падчас Вялікай Айчыннай вайны ў 1943—1944 гг. С. Гурыч працуе дыктарам на радыёстанцыі "Савецкая Беларусь", якая размяшчалася ў Маскве. Тады ўпершыню яе жыццёвы і творчы лёс перакрыжаваўся з радыёмастацтвам.

У першыя пасляваенныя гады С. Гурыч вяртаецца ў тэатр, працуе як актрыса, спрабуе сябе ў тэатральнай рэжысуры. З 1944 па 1948 г. на сцэне Брэсцкага абласнога драматычнага тэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі яна стварыла шэраг адметных вобразаў і спектакляў.

Значны перыяд творчай дзейнасці С. Гурыч быў звязаны і з Гомельскім абласным драматычным тэатрам, дзе яна працавала з 1955 па 1958 г. Тут ёю ажыццёўлены пастаноўкі, адметныя імкненнем да псіхалагічнай паглыбленасці і тонкага раскрыцця сутнаснай шматстайнасці праяў чалавечага характару. Сярод яе спектакляў гэтага перыяду: "Гісторыя аднаго кахання" К. Сіманава (1955, разам з Д. Рачным), "Іван Рыбакоў" В. Гусева (1955, разам з А. Ясафавай), "Хітрамудрая закаханая" Лопэ дэ Вэгі (1955, разам з А. Ясафавай), "Каханне Ані Бярозкі" У. Пісталенкі (1955, разам з А. Ясафавай), "Маці сваіх дзяцей" А. Афінагенава (1955, разам з Д. Рачным), "Васа Жалязнова" М. Горкага (1956, разам з Д. Рачным), "Глыбокая плынь" паводле І. Шамякіна (1956, інсцэніроўка С. Гурыч, разам з Д. Рачным), "Свеціць ды не грэе" А. Астроўскага і М. Салаўёва (1957, разам з Д. Рачным) і інш.

З 1966 года і да апошніх дзён жыцця творчы лёс Соф'і Якаўлеўны быў звязаны з Беларускім рэспубліканскім радыё. Спачатку ў якасці рэжысёра, а потым, з 1967 па 1987 год, С. Гурыч працавала галоўным рэжысёрам галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычнага вяшчання. На радыё С. Гурыч як рэжысёр і інсцэніроўшчык ажыццявіла больш за 200 пастановак радыёспектакляў пераважна па творах беларускіх празаікаў, паэтаў і драматургаў. У яе асобе многія майстры мастацкага слова знайшлі па-сапраўднаму зацікаўленага, вельмі чулага, прафесійнага і творчага інтэрпрэтатара сваіх твораў. Шэраг выдатных акцёраў тэатраў Беларусі з вялікай удзячнасцю і задавальненнем працавалі з С. Гурыч і стварылі ў яе радыётэатры мноства яркіх, запамінальных вобразаў, нярэдка прыгадваючы, што далёка не заўсёды творчы лёс мог бы прадставіць ім магчымасць сыграць гэтыя ролі на тэатральных падмостках. Сярод найбольш значных радыёпастановак С. Гурыч — "Жураўліны крык" (1966) і "Пайсці і не вярнуцца" паводле В. Быкава (1979), "Рудабельская рэспубліка" паводле С. Грахоўскага (1972), "Векапомныя дні" паводле М. Лынькова (1974), "Мінскі напрамак" і "Завеі, снежань" паводле І. Мележа (1976), "Новая зямля" паводле Я. Коласа (1976), "Вазьму твой боль" паводле І. Шамякіна (1980) і многія іншыя.

Сапраўды вяршыннымі ў творчай спадчыне С. Гурыч сталі радыёспектаклі "Хамуціус" паводле А. Куляшова і "Рыбакова хата" паводле Я. Коласа, адзначаныя Дзяржаўнай прэміяй БССР за 1984 г.

С. Гурыч стварыла на радыё таксама цыкл творчых партрэтаў вядучых майстроў тэатраў Беларусі — А. Клімавай, Л. Рахленкі, Г. Абуховіч, Ф. Шмакава, В. Галіны, С. Бірылы, З. Браварскай, Г. Макаравай, А. Шах-Парон, Ю. Сідарава, В. Белахвосціка і інш. Выступала яна і ў перыядычным друку па праблемах тэатральнага і і радыёмастацтва, была адным з аўтараў зборніка нарысаў "Майстры беларускай сцэны" (1960).

Жыццё С. Гурыч не заўжды было ўсыпана ружамі, бывалі ў ім горкія і цяжкія часіны. Але і радасці, і нягоды яна перажывала найперш з найвялікшым пачуццём уласнай годнасці і нязменнай павагі да другіх, з верай у непераможнасць дабра і чалавекалюбства, заўсёды застаючыся самой сабою — вельмі патрабавальнай, але і надзвычай чулай.

Светлая памяць аб Соф'і Якаўлеўне Гурыч назаўжды застанецца ў сэрцах яе калег і сяброў, усіх тых, хто добра яе ведаў і меў радасць і шчасце тварыць, працуючы разам і побач з гэтым таленавітым чалавекам.

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
***Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія***
**Канфедэрацыя творчых саюзаў і культурных фондаў Беларусі**
**Беларускі саюз тэатральных дзеячаў**

# Іван ГУРБАН



1 мая 1999 года памёр дзіцячы пісьменнік Іван Гурбан.

Іван Яфімавіч Гурбан нарадзіўся 21 мая 1922 года ў вёсцы Юшавічы Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў мясцовай сямігодцы, скончыў Нясвіжскую сярэднюю школу, а таксама Усесаюзныя завочныя ўліковыя курсы (1953). Працаваў рахункаводам Нясвіжскай МТС (1954—1959), старшынёй Юшавіцкага сельсавета (1961—1964), на будаўнічых работах. Іван Гурбан — ветэран Вялікай Айчыннай вайны.

Літаратурнай працай пачаў займацца з 1950 года. Друкаваў вершы ў розных перыядычных беларускіх выданнях. Убачылі свет тры зборнікі яго твораў: "Чубаценькі будзільнік" (1979), "Калі ветрык спачывае" (1985), "Пахі вясны" (1991). Прасякнутыя пачуццём любові да роднай зямлі, вершы Івана Гурбана вучаць дзяцей расці такімі ж працавітымі *і сумленнымі, як іх бацькі*, быць сапраўднымі гаспадарамі сваёй краіны.

З жыцця пайшоў высокай годнасці чалавек. Усе, хто ведаў Івана Гурбана, захаваюць аб ім добрую памяць.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

# Мар'ян ВІЖ



30 красавіка на 51 годзе жыцця памёр пісьменнік Мар'ян Віж (Мар'ян Міхайлавіч Зайцаў).

Мар'ян Віж нарадзіўся 23 лютага 1949 г. у Мінску. У 1971 г. скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Служыў у войску, працаваў адказным сакратаром Беларускага таварыства аховы помнікаў, затым — у аддзеле аховы помнікаў Гістарычнага музея Украіны. З 1976 — рэдактар рэдакцыі гісторыі Беларусі БелСЭ, з 1979 г. — выкладчык кафедры гісторыі Беларусі Мінскага інстытута культуры. Працаваў выкладчыкам, выхавацелем у іншых навучальных установах рэспублікі, загадваў аддзелам у рэдакцыі штотыднёвіка "Наша слова".

У друку пачаў выступаць у 1974 годзе. З першых публікацый ён выявіў сябе як выдатны знаўца мінулага нашай Бацькаўшчыны, які выступае ў друку з цікавымі публікацыямі, садзейнічае абуджэнню ў народзе павагі да ўласнай гісторыі і тым самым — яго патрыятычнаму выхаванню.

М. Віж — аўтар шэрагу гістарычных, літаратуразнаўчых, краязнаўчых публікацый. Пяру пісьменніка належыць кніга нарысаў "Чары даўніны", гістарычная аповесць "Лабірынт".

Светлы вобраз Мар'яна Міхайлавіча назаўсёды застанецца ў сэрцах сяброў, усіх, хто з ім працаваў і хто яго ведаў.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

# Адгалосак памяці

4 мая на 79 годзе раптоўна абарвалася жыццё стрыечнай пляменніцы М. Багдановіча **Анастасіі Глебаўны Кунцэвіч**, адной з нашчадкаў той ніжагародскай "беларускай калоніі", якую пасля ад'езду з бацькаўшчыны ўтварылі ў самым цэнтры Расіі разам з Багдановічамі сем'і сясцёр бацькі паэта Магдалены і Марыі. Пра ўплыў гэтага асяродка на фарміраванне таленту класіка беларускай літаратуры А. Я. Багдановіч пісаў, што ён быў "той расой, якая жывіла і клікала да жыцця паэтычныя парасткі яго душы".

У сям'і **Анастасіі Глебаўны** заўсёды пяшчотна зберагалася памяць пра вялікага песняра беларускага народа, пра свае беларускія карані, любоў гэта была прывіта дзецям і ўнукам.

**Анастасія Глебаўна** разам са сваімі сёстрамі заўсёды цікавілася культурным жыццём Беларусі, як тут, на радзіме яе продкаў, зберагаецца памяць пра яе знакамітага дзядзьку. Дзеля гэтага на Беларусь перадаваліся ашчадна зберажоныя рэліквіі: сямейныя здымкі, аўтографы паэта, кнігі з бібліятэкі Адама Ягоравіча Багдановіча. Яны сталі істотным набыткам пры стварэнні Літаратурнага музея М. Багдановіча.

Повязь з Беларуссю заўсёды рупліва падтрымліваў муж **Анастасіі Глебаўны Аркадзь Якаўлевіч Бараховіч**, перакладаючы творы М. Багдановіча на рускую мову, нястомна прапагандуючы ў Расіі набыткі беларускай культуры. Мы падзяляем смутак сям'і **Анастасіі Глебаўны**, шчыра перажываем, што разам з ёй ад нас адышоў яшчэ адзін адгалосак жывой памяці пра Максіма Багдановіча.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**
**Аб'яднанне дзяржаўных літаратурных музеяў Рэспублікі Беларусь**
**Літаратурны музей Максіма Багдановіча**

